**Мікола Мілаш**




# НА ВАГАХ ЧАСУ

**Зборнік твораў №3**

**Карта ЛІТВАНІІ** – нашай прарадзімы ў XY ст. у складзе Вялікага княства Літоўскага ў часы яе найбольшага росквіту пры князю ВКЛ Вітаўту Вялікаму, які, пражыўшы 80 гадоў, правіў з 1392 па 1430 год.

Летапісы і хронікі

Беларусі




Зьмешчаныя тутака хронікі і летапісы прысьвечаныя гісторыі Вялікага Княства Літоўскага наагул, а таксама асобных мясцовасьцяў Беларусі. Падзеям, што адбываліся ў Вялікім Княстве, прысьвечаныя дзьве найбольшыя хронікі (Хроніка літоўская і жамойцкая, Хроніка Быхаўца). У двух летапісах (Баркулабаўскі, Панцырнага і Аверкі) паведамляецца ў асноўным пра становішча ў асобных гарадах ці раёнах усходняй Беларусі. Так, летапіс Панцырнага і Аверкі тычыцца пераважна Віцебску, а Баркулабаўскі, дзе надаецца багата ўвагі Берасьцейскай царкоўнай уніі, кажа таксама і пра падзеі канца XVI — пачатку XVII ст. у Магілёве, Віцебску, Полацку і Баркулабаве. Храналягічна зьвесткі, зьмешчаныя ў летапісах і хроніках, ахопліваюць падзеі з часоў легендарных (пачатак нашай эры) і да 60-х гадоў XVIII ст. Найбольш позьнія зьвесткі дае летапіс Панцырнага і Аверкі.

*Мікола Ўлашчык*

**ПАВАЖАНЫ СУАЙЧЫНЬНІК!**
**АДКРЫЙ ДЛЯ СЯБЕ СТАРОНКУ ПРАЎДЫ ПРА БЕЛАРУСЬ**
**(ЭТНІЧНАЯ НАЗВА: ЛІТВАНІЯ)**

# МІКОЛА МІЛАШ



Фота з архіва: аўтару 43 года

# *НА ВАГАХ ЧАСУ*

Зборнік твораў пра гістарычную
Спадчыну і адраджэньне Духу нацыі
**Кніга 3-я**

**Смаленск**
**2012**

УДК 821.161.3-3
ББК 84 (4 Беи)-5
М-22

Прысьвячаецца змагарам за незалежнасьцъ
Айчыны і адраджэньне Духу нацыі.

…………"Мой край няшчасны!
Карону годнасьці ў цябе сарвалі,
Твае айцы сваёй рукой уласнай
Кайданы люду самі ўмацавалі".
(Зь верша Ул.**Сыракомлі** "Вызваленьне…"

**Мілаш Мікола**
М-22 Кніга 3-яя: **На вагах часу**.
Смаленск: ТДА "Новы сьвет", 2012, 142 старонкі.

" **На вагах часу**" – трэці зборнік паэтычных твораў і эсэ пра гістарычную спадчыну і сучасны рух за адраджэньне Духу нацыі праз усьведамленьне Свабоды ў гістарычных пластах народнай памяці роднага краю ў адпаведнасьці з пагодай часу, як працяг раскрыцьця падзей, асьвечаных у 1-й і 2-й кнігах ("На хвалі Адрадлжэньня" і "На скрыжалях часу"). Многія творы былі зьмешчаны ў адпаведных сайтах Інтэрнэта і апублікаваны ў газетах "Народная Воля", "Наша Слова", "Інфа Кур'ер" і др..

Гэтая кніга спарадзілася ў выніку знаёмства аўтара зь гісторыяй Айчыны з нагоды ўдзелу ў конкурсу па супольнай спадчыне абодвух народаў Рэчы Паспалітай, арганізаванага 1-м Сакратаром амбасады Рэспублікі Польшча магістрам Мар'янам **Семаковічам** ў 2005 годзе.

О. Афармленьне: ГА фонда ім. Фр. **Скарыны,** 2012**.**
О. Фундатар выданьня: Іван **Даўматовіч.**
О. На пярэднім шмац-тытуле: **Мірскі замак**

ISBN

*“Бязь веданьня праўдзівай гісторыі грамацтва сьлепне”*
**Зянон Пазьняк**

# Зварот кніжкі

***– Быць нам ці не быць нацыяй этнічнай краіны?***

І адказ на яго ў нас павінен быць толькі адзін:

– **Быць нацыі краіны з назвай Літванія[1]!!!** Сімваламі яе былі, ёсьць і будуць Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і герб “Пагоня”**!**[2] – сьветач вячыстай памяці вякоў нашай гістарычнай спадчыны, якою сёньня ўлада грэбуе.

І сапраўды, яшчэ наш суайчыньнік Адам **Міцкевіч,** вядомы як паэт-філамат, апостал **Духу** ліцьвінскай (нашай) нацыі (ён сябе называў **ліцьвінам**) у сваіх творах з павагай і сьвятой любоўю апяваў свой край (з 1795г. пасьля 3-га падзелу **Рэчы Паспалітай**[3] па прыхамаці Кацярыны II наш край сталі называць Беларусіяй, а пасьля 1839г. згодна царскаму указу зусім забаранілі назву Беларусь, а народ называцца – беларусамі ці ліцьвінамі**:** нас называлі проста – “*тутэйшымі*”), за які ён, як рыцар **Свабоды,** аддаў сваё нядоўгае (пражыў толькі 57 год), але яркае жыцьцё. Ён так пісаў аб сваім зьняволеным краі:

*”Літва! Бацькоўскі край, ты як здароўе тое,*
*не цэніш маючы, а страцім залатое –*
*шкада, як і красы твае”.*

---

**1. Літванія** – чытай эсэ **“Наша прарадзіма і яе лёс”** на стар.116 у 1-й кнізе **“На хвалі Адраджэньня”**

**2.** Пра **Бел-Чырвона-Белы Сьцяг** і герб “**Пагоня”** – чытай **Камэнтарыі** на стар.147 гэтай жа 1-й кнігі.

**3. Рэч Паспалітая** (тоесна **Рэч Публіка –** ў перакладзе з лаціны азначае: грамацкая /**публічная**/ справа). Гэта – форма дзяржаўнага праўленьня, пры якой улада належыць выбарным установам, якія і выконваюць волю народа, абапіраючыся на дэмакратычнае права. У нашай жа краіне гэта форма праўленьня спраўлена пад уладу адной асобы, бо выбраны ”*кішэнны парламент*” – гэта фігавы лісток, якім прыкрываецца абсалютная манархія, дзе выканаўчая і заканадаўчая ўлады і судовая справа знаходзяцца пад уціскам гэтай асобы, а дэмакратычнае права – аддана забыцьцю. Такім чынам, наша дзяржава – ўвасабленьне дыктатуры, хоць і значыцца суверэннай. Таму яна і знаходзіцца сягоньня на задворках Еўропы.

## КАРАНІ “РУСІЗМА”

(Матэрыял падрыхтаваны да дыскусіі “Аб галоўнай мэце Расіі – праглынуць Беларусь без астатку” і ролі ў гэтым працэсе РПЦ/)

“Праглынуць Беларусь без астатку”– гэта галоўная і даўняя мэта Расеі. Гэты сказ падмацоўваецца досьведам гісторыі стварэньня Русі, Масковіі, Рускага царств, Расейскай імперыі, СССР і Расеі. І галоўная роль ў гэтым працэсе адводзіцца Рускай праваслаўнай царкве (РПЦ), якая вырасла зь пялёнак Залатой Арды..

Да мэты праглынаньня нашага краю Расея імкнецца вось ужо больш за шэсьць стагодзьдзяў. Яшчэ ў 1326г., калі князь Іван І – Каліта (1296-1340) перанёс кафедру мітрапалітаў РПЦ з Уладзімера ў Маскву, распачалася дзейнасьць пад маркай з’яднаньня рускіх зямель у адзіную Маскоўскую дзяржаву. (Назоў “рус”, які запазычаны ў варагаў ад фінскага слова “ruotsi” /весляры, БЭ, т.13, стар. 473/, быў штучна царквой Масковіі перанесены на ардынскія землі, якія затым сталі называцца рускімі, у сувязі са спусташэньнем Кіева – сталіцы Кіеўскай Русі – мангола-татарамі ў 1240г., калі мітрапаліцкая кафедра ў 1299г. зь Кіева была перанесена ва Уладзімер-на-Клязьме). Пасьля падзеньня Візантыйскай імперыі ў 1453г. РПЦ з мітрапаліцкай кафедрай у Маскве стала найбуйнейшай аўтакефальнай праваслаўнай царквой у сьвеце, незалежнай ад Канстанцінопальскага патрыярхату. Яна і ўзяла на сябе місію аб’яднаньня ўсіх праваслаўных народаў пад эгідаю рускага князя (а з 1547г. цара) і вызваленьня *“заходняй Русі ад каталіцкага прыгнёту”*. Гэтая канцэпцыя трывала замацавалася ў рускай вялікадзяржаўнай гістарыяграфіі. (Досьведы: Ю.Драгуна, І.Ласкова, М.Хаўстовіча і С.Тарасава, кніга “З гісторыяй на “ВЫ”, 1994; Р.Скрыньнікава, манаграфія “Царство террора”, СПб, 1992).

Літоўская мітраполія (афіцыйна называлася Кіеўскай) з рэзідэнцыяй у Навагрудку (часам у Вільні), бачачы пагрозу з боку Масковіі, ў 1458г. намаганьнямі мітрапаліта Г.Балгарына аддзялілася ад Маскоўскай РПЦ, якая ў сваю чаргу ў 1459г. таксама афіцыйна аб’явіла сябе мітраполіяй. Гэтым самым РПЦ павысіла свой статус сярод памесных праваслаўных цэркваў, каб спраўдзіць сваю шавіністычную палітыку па захвату не толькі ардынскіх, але ўжо і славянскіх зямель у адзіную “*Всюю Русь*”, народы якіх, па іх уяўленьню, быццам маюць роднасны этнас. Аднак, як да гэтай роднасьці адносіцца навука?

Гісторыя паказвае, а навука даказвае, што “маскалі” ніколі не былі нам роднаснай нацыяй. Яны па этнасу – угра-фіна-ардын-

скага паходжаньня. Згодна досьведу член-кар. НАН Беларусі А Давыдзенкі, загадчыка лабараторыі нехрамасомнай спадчыннасьці Інстытута генетыкі і цыталогіі НАН: *“беларусы – гэта індаеўрапейцы, славяне”* (чытай нататку А.Янушэўскай “Мы не балты”, апублікаванай у “Народнай Волі” 26 кастрычніка 2010). У гэты ж час, як сьведчыць В.Растоў, (чытай артыкул “Хто кіраваў Вялікім княствам?”, апублікаваным у праекце “Літаратурная Беларусь” газета “Новы Час” ад 12.11. 2010) *“даследаваньні РАН генафонда расійскага і беларускага народаў паказалі, што расійцы генатычна – фіны,… не індаеўрапейцы”.* І, як вынікае з досьведу, – ніякай роднасьці паміж рускімі (г.зн.фіна-ардынцамі) і беларусамі (г.зн.ліцьвінамі) няма.

А калі князь Іван ІІІ (1462-1505) у 1480г. скінуў мангола-татарскае ярмо Залатой Арды (да гэтага часу яна была яе васалам і плаціла даніну) і першым стаў называць сябе “*Вялікім князем”* і *“государём Всяе Руси”,* то і зусім сталі зразумелымі імперскія амбіцыі Масковіі і яе ваяўнічага натхніцеля (РПЦ) ў адносінах да зямель ВКЛ (нашай прарадзімы). Менавіта з гэтага часу з бласлаўленьня айцоў РПЦ пачаліся адна за другой войны Масковіі з ВКЛ (1492-94, 1500-03, 1507-08, 1512-22, 1534-37) па захвату нашых зямель у склад Маскоўскай дзяржавы. Гэта – святатацтва, поўнае крушэньня сьвятыней Хрыста.

Каб неяк ратавацца ад ардынскага “брата”, князі ВКЛ шукалі падтрымкі ў больш цесным саюзе з Польшчай. З гэтай нагоды ў 1569г. была заключана Люблінская ўнія з утварэньнем Рэчы Паспалітай, а затым і царкоўная Брэсцкая ўнія ў 1596г. (у адказ за ўсталяваньне ў 1589г. Маскоўскага патрыяршаства) з утварэньнем Беларускай грэка-каталіцкай царквы. Менавіта з гэтага часу РПЦ распачала прамыя шавіністычныя нападкі на католікаў і ўніятаў, благаслаўляючы сваіх цароў (пачынаючы з Івана IV князі з 1547г. тытуляваліся царамі, з 1721г.- імператарамі, а Вялікае княства Маскоўскае ўжо стала насіць афіцыйную назву “*Рускае царства*”, а затым – *“Расейская імперыя”*: менавіта з 1721г. імператар Пётр Раманаў, узначаліўшы Сінод, стаў адначасова і кіраўніком РПЦ) на новыя войны, якія прынеслі нашаму краю незаменныя страты. Асабліва зьнішчальнымі для нашай Айчыны сталі: “невядомая вайна” 1654-67 і Паўночная вайна 1700-21.

У выніку вайны 1654-67 насельніцтва ВКЛ паменшылася з 2,9 млн. да 1,4 млн. чал. Найбольш пацярпелі ўсходнія раёны і цэнтральная частка, дзе вынішчалася да 70-80% насельніцтва. Знішчаліся поўнасьцю гарады і сёлы. З таго часу краіну сталі засяляць

маскалі і другія нацыі з усходу, што важка паўплывала на сёньняшні электарат краю зь яе верай, зразумела – праваслаўнай. Нацыя "ліцьвінаў" зьмяніла свой твар. Менавіта з гэтага часу, з 17ст., згодна досьведу В.Насевіча (БЭ, т.13, стар. 473) з усходняй часткі сучаснай Беларусі і распаўсюдзілася назва "*Белая Русь*". Трэба зазначыць, што да гэтай назвы асабліва прычынілася РПЦ мэтанакіраванай трактоўкай яе парадыгмы – прышчапіць гэтай назвай у сьвядомасьць быдлы яго этнічную прыналежнасьць да штучнай нацыі "*Всяе Руси*" зь яе прытворнай штучнай рускай мовай.

Большая частка нашага насельніцтва не ведалі, а многія не ведаюць і да гэтага часу, паразы тых войн, якія спараджаліся нашымі, як бы мовіць, "духоўнымі братамі" з адной мэтай: зрабіць наш край часткай Масковіі без этнасу і назвы ва ўлоньні "*Всяе Руси*", чаго маскалі ў канцы канцоў і дабілася. У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) ВКЛ страціла сваю дзяржаўнасьць, а народ – свабоду і назву нацыі ("*ліцьвінаў*" па прыхамаці Кацярыны II у 1795г. сталі называць "*беларусамі*", а з 1939г. "*тутэйшымі*") і назву краіны (замест "*Літванія*" край сталі называць "*Белой Русью*", а затым "*Паўночна-Заходнім краем*"). А каб народ не счуў сябе нацыяй, Кацярына II указам ад 22 красавіка 1794г. "*Об искоренении унии*" скасавала ўсе ўніяцкія епархіі, акрамя Полацкай, каб зусім пахаваць назву нацыі зь яе мовай у хрысьціянскіх прыходах…

Эпапея зьнішчэньня нашай нацыі і далучэньня яе зямель да Расіі вядзецца да сучаснага часу. Калі *"замирить Белую Русь военной силой невозможно"*, як вырашала Кацярына II, то *"гэтую миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у белорусов не только их язык, но и саму память про себя"*. Як не дзіўна, але яе загад д'ябальскія сілы імкнуцца праўдзіць шточасна.

Яшчэ пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1793г. архіерэй Менскай праваслаўнай епархіі Віктар Садкоўскі, выступаючы на епархіяльным саборы ў Слуцку пагражаў сьвятарам: *"Я вас искореню, уничтожу, чтоб и языка не было вашего проклятого литовского* (наша мову яшчэ называлі "літоўскай", "беларускай" стануць называць пасьля ўказа Кацярыны) *и вас самих: я вас в ссылки сошлю или пошлю в солдаты, а своих из-за кордона понаведу!*"

Праз 50 гадоў М.Мураўёў-вешальнік (такое прозвішча ён атрымаў пасьля жорсткай расправы над паўстанцамі 1830-31), будучы заўзятым прыхільнікам пераводу ўніятаў у праваслаўе,

праводзіў палітыку радыкальнай русіфікацыі, каб зьнішчыць мову, а значыць і нацыю: *“В Северо-Западном крае* (назва “Беларусь” пасля царскага ўказа 1839 з ужытку ўжо зьнікла) *так называемый белорусский язык* (наша мова ўжо называлася не “літоўскай”, а “беларускай”, але ўжываць яе ўжо забаранялася) *необходимо свести на ничто. Если этого не сделать, то она постоянно будет инспирировать мысль об особом белорусском народе и об праве этого народа на этническую самостоятельность и национальную государственную суверенность, чего допустить нельзя*”. Вось у якіх умовах мы жылі, але не страцілі сваёй незалежнасьці, бо надта жыцьцядзейныя сілы закладзены ў аснову нашага нацыянальнага этнасу!

А чаго каштавала нашаму народу змаганьне за сваю нацыянальную годнасьць у часы сталінскіх рэпрэсій і брэжнеўскага застоя? А як трэба сёньня трываць зьнявагу беларускіх праваслаўных прыходаў клірам Рускай праваслаўнай царквы, якая ў вераспавяданьнях ігнаруе нашай роднай мовай? А як трэба ацэньваць з’яву, што яна дабілася ад нашай улады права свабодна правадзіць ва ўчэбных установах і вайсковых падразьдзяленьнях заняткі па праграме “Асновы праваслаўнай культуры” на чужой мове? (“Народная Воля” ад 27 ліпеня 2010). Чаму ў загане каталіцкая і уніяцкая канфесіі, якія спавядаюць сьвятую веру на роднай мове? Ці не робіцца адкат нашай улады ад народа, узьвёўшы чужую мову ў ранг пануючай, каб можна было з чымсьці ісьці на пакланеньне да “брата” і займець ад яго падачкі ў выглядзе крэдыту ці бязпошліннай нафты ці газу?

Усё гэта зьвёны аднаго ланцуга – закабаленьне нацыі праімперскім духам Расіі пад шавіністычным крылом РПЦ!

Такім чынам, наша ўлада самажэрна выконвае загад Кацярыны II: зьнішчыць у народа яго гістарычную памяць і замбіраваць яго свядомасьць у русле палітыкі *“западнорусизма”* ва ўгоду шавіністычнага самадзяржаўя, які распасьцірае свой фашысцкі погляд як на ўсход, так і на захад. Я лічу, што гэта – ўлоўка д'ябла, дух якога вітае над нацыянальнай самасьвядомасьцю *“пластылінавага”* беларуса, каб выкарыстоўваць яго электарат у сваіх карысных мэтах. А мэта яго – *“проглотить” Беларусь без астатку*.

Але магутныя крылы Адраджэньня – крылы здаровага сьветапогляду на рэчаіснасьць – выцягнуць нас з *“балота”* псеўдарэалізму, створанага акупацыйнай уладай праімперскага толку!

25 жніўня 2011

# НА ВАГАХ ЧАСУ

Паэма* прысьвячаецца Народнаму паэту Янку **Купалу** (7.7.1882-1942), у*“балесны лёс* /якога/ *шыпы і ружы ўпляліся”* (Я. Янішчыц). У сугучнасьці са станам яго душы заўсёды паэта суправаджала песьня жалейкі, матывам якой і адкрывалася яго спадчына назвай зборніка “*Жалейка*” і закрывалася вершам *“свае жалейкі люд закінуў – чужым сьвісьцёлкам месца даў”*. Прычым у замене ў тэксце слова *“жалейка”* на дзіцячую *“сьвісьцёлку”* згадваецца рэальны характар перамен у стане грамацтва, які мы назіраем сёньня, дзе на ўсіх дзяржаўных фэстах тыпу “Славянскі базар” яўна адчуваецца дух занядбаньня роднай мовы на карысьць чужой. Вось на такіх **вагах часу** жыў і тварыў наш **прарок Адраджэньня**, **апостал Духу нацыі Янка Купала**, калі панавала бяспраўе і тварыўся генацыд нацыі. Але час зробіць сваю справу. І людзі праўды даб’юцца! “*Яшчэ прыйдзе вясна!*”

*“Не пужайся, што здрадныя хмары*  
*Неба ўслалі з канца да канца,*  
*Што свае цемната ўнесла чары,*  
*Закружыўся груган над папарам:*  
*Яшчэ прыйдзе вясна”.*  
*“Пойдзем,сушачы вечных крыві й слёз разводзьдзе,*  
*К лепшай долі, зь вялікай надзеяй,*  
*Пойдзем, пойдзем туды, адкуль сонца ўзыходзе,*  
*Адкуль вецер прыветлівы вее*”.

(Зь вершаў **Янкі Купалы**)

*“І нікому не вядомы будзе лёс твой горкі.*  
*І не ўчуюць сьпеў знаёмы родныя пагоркі”.*

**Якуб Колас**

## Пралог

Мне лёс паэта нагадаў  
Арэляў хісткае гайданьне.  
І, сапраўды, не раз спазнаў  
Ён крыўду і выпрабаваньне…

У путах рабскіх, хіжых дзей  
Фарміраваўся дар прарока:  
Не справіў час яго надзей –  
Народ гібее ў спратах змрока.

Сугучна чуласьці душы  
Ў тон раздаваўся сьпеў жалейкі.  
Матыў яго ў грудзях глушыў  
Мярзотны дух… па-ліхадзейскі.

## 1. Край у скрусе

Над краем – ноч рэакцыі* –
З агнём гуляла ліхадзейка:
Зьнішчаўся гонар нацыі
І дзіка плакала жалейка.

Уздоўж і ўпоперак расьцьвіў
*“Сардэчнай веры”** дух тэізму:
Нястомна ў душы ён сяліў
Імперскі почырк фаталізму.

Паўсюдна – выспы-курганы,
Наўсьцяж ляглі ў Сібір дарогі:
Праўлялі балі груганы –
Суіснаваў парадак строгі:

Як толькі дзе чуваць быў сьпеў
Ці споведзь на матыў тутэйшых,
То тут як тут жандарм прысьпеў
Сфабрыкаваць данос вышэйшы…

Зьмяніўся яўна каларыт
Эпохі казачнай Айчыны.
Яе суровы сьвет адкрыў
Сюжэт аповесьці Лучыны*.

У скрутнай повязі падзей
Ствараўся воблік долі* горкай:
Мужык* пазбавіўся надзей –
Быў лёс яго фатальна колкі.

## 2. Зара павагі

Але над краем узышла
Зара павагі да зямелькі:
Пара на дзіва надышла –
Чуваць стаў ціхі сьпеў жалейкі.

---

* Тлумачэньні пад такой зноскай чытай у Камэнтарыях са стар.

Падставай узвышэньня спраў
Па скарыстаньню мовы продка
Быў непазбежны акт цара*,
Каб жыў народ і мовы сродкам.

На вагах часу лёс прысьпеў
Народу ў сьвет адкрыць аконца:
Нёс ветру вольнага напеў
Троп* *“Нівы”* і *“Загляне Сонца...”*

Тут вершы лірнік друкаваў
Як непасрэдны супрацоўнік –
На ніве моўнай высьпяваў
Традыцый продкаў пасьлядоўнік.

Нясьцерпны сэрца боль глушыў
Жывою мовай сьпеў *“Жалейкі”** –
Бы *“набалелы стогн душы”**
На гонях роднае зямелькі.

Матыў узьнёслы людцаў зваў
Зь *“нізін санлівых”* аж да Сонца:
Герой містычны спазнаваў
Шчасьлівых момантаў бясконца.

## 3. На ростанях

Ды вось над краем груганьнё
Пранеслася стварэньнем нейкім.
І… зноў між дзікасьці агнёў*
Гучэў гаротны сьпеў жалейкі.

Па гоням злосны лёс хадзіў
То з вэста, то з усходу з боем –
Нямала ў весях напладзіў
Сьлядоў шалёнага зласлоўя.

Тут з поўным правам праявіў
Сябе звон-голас* Адраджэньня:

Ў рэжыме жорсткім абʼявіў
Дзяржавы дату нараджэньня!

І ўсё ж лёс з злыдняў чарады
Найбольш спрыяў брыдзе Саветаў:
Наш край – пад полагам бяды –
Ёй стаў разьменнаю манетай*.

За спробу неяк асьвяціць
Сапраўдны твар саюза нацый
Жыцьцём ахвярным заплаціў
Змагар бруду інсінуацый*.

К вяршыні саркастычных зʼяў
У стосе друкаваных твораў
Вёў пʼесы жарт* *“Тутэйшыя”,*
Што фаталізму стаў дакорам.

## 4. Узьлёт надзей

Зноў заблішчэў надзеі бляск
На вагах часу дабрадзейкай.
Сям-там міжвольна як-ніяк
*“Знаёмы сьпеў”* вяла жалейка.

У кругаглядзе звыклых зʼяў
Лад мовы вабіў строем вольным:
Склад граматычны ўрад прыняў
Стыль Лёсікаў* на зьдзіў супольна.

Ды і Купала – маг надзей –
Раскрыў свой талент грамадзянскі:
У вершах пафасна гудзеў
Матыў вяршэньня* па-славянскі

Пра *“сакаліную сямʼю”*
Сыноў і дочак Беларусі,
І пра *”Дзяды”,* і пра *“Куцьцю”,*
І пра хвалу народу... ў скрусе.

Нарэшце вартасьці ўхвала
Прыйшла к яму – было прызнаньне:
Дзяржава годнасьць надала –
**Народнага паэта званьне*.**

Ён рэчаіснасьць успрымаў
З належнай верай ў станаўленьне.
Аднак надзей чакаць дарма
Прыйшлося… Надышло зацьменьне*.

## 5. Хваля тэрору

Зацята правіў бальшавік –
На майстра слоў лягла наклейка*
*“Нацдэм”*: смугой заслаўся лік
І… сьлёзна плакала жалейка.

На допыт орган ДэПэУ
Па справе адраджэньня краю
Плеяду творцаў прыцягнуў
Нагодай бальшавіцкіх правіл.

Кіраўнікoм прызнаны быў
Ластоўскі*, як пасланьнік Веды*.
У склад праўленьня,– як актыў,–
Прыцягнуты майстры асьветы:

Географ Смоліч* – межаў Бог,
Знаток гаворкі – Некрашэвіч*,
Іван Краскоўскі* – педагог,
Наватар – Аляксандр Цьвікевіч*,

Тут Лёсік* быў – спецыяліст
Па адраджэньню роднай мовы –
І… маг Купала, як стыліст
Радка – жывой страфы аснова.

Не мог хаўрусьнік даравац
Яго пяра сьвяты кірунак* –

Хрысьціць *“Масквы кароннай гразь”–*
І… пацягнуў у пастарунак.

*– Зьвілі тут нацыі гняздо!*
*Гаспадарамі тут хаціце?*
*Прызнайся, быдла!.. Бачыш дол?*
*Дык будзеш там!–* вёў вышук хцівец.

### 6. Упадак духу

Не перажыў паэт зьдзек-дзіў –
Настрой прыдаў напеў жалейкі:
Жывот сабе ён зьверадзіў * –
Лілася кроў жывою зьмейкай.

Але анёл аховы ўраз
Прыйшоў к яму на дапамогу
І… песьняру надаў наказ,
Хоць супярэчыў духу многа:

*–Твой божы дар мы зьберажом,*
*Калі дзяржацца будзеш правіл –*
*Ня лезьці марна на ражон:*
*Заўжды мужы ў законе – правы.*

І ў дýшу пасяліўся страх –
За кожным віжавала вока:
Па спіскам спальвалі ў кастрах*
Стос кніжак Лёсіка, Дубоўкі…

З пары той песьняра пяро
Ледзь ужывалася па модзе:
Паэт – быт адчуваў нутром –
Сюжэты строіў па пагодзе.

Прыціх жалейкі родны сьпеў:
Паўсюдна – негадзі гаворка.
Анёл тут, як заўжды, пасьпеў
Бяду адвесьці зь вір-пагорка.

## 7. Вал тэрору

Па гоням шпарка вышагаў
Дух занядбаньня афіцыйна:
Зварот-сказ* *“Хто каго”* рашаў
Вярхоўны… мабілізацыйна.

Экспрапрыяцыю* ў штыкі
Успрынімалі людцы з гора:
Паўсюдна шасталі шпікі –
Ішоў чарговы вал тэрору*.

Шмат пралівалася крыві –
Зьнішчалі кулака як класа.
Для гэтай мэты ў акт зьвялі
Стварэньне на зямлі калгасаў.

Чарговым шагам стаў працэс
Меліярацыі балотаў –
На зьдзірванелых землях спрэс
Сябе прытул віла галота.

Камуну з багны паднялі
На берагах ракі Арэса –
Паэмай лірніка[1] ўзьвялі
Яе ў ступень вясны прагрэса.

І, тым не менш, жалейкі сьпеў
Не вылучаўся гукам звонкім,
Бо надта абуральны гнеў
Тачыў душу́ патокам гонкім.

## 8. Туга па волі

Сярод знаёмых і сяброў
Паэт адводзіў долу вочы:
Вульгарны крытык змагароў
Сароміў дух яго прарочы.

1. Паэма *“Над ракой Арэсай”* была апублікавана ў 1933 годзе.

Пагодай часу лёс згадаў
Ляўкі* паэту, як прытулак.
Тым часам… новая бяда*
Сабе гатовіла падмурак.

Занадта борзда ў гэты час
Вялі дазнаньні злыдні зброда:
У казематах мерна гас
Надзей бляск *“ворагаў народа”.*

Спазналі здрадніцкі удар*
Дунец, Зарэцкі, Харык, Вольны,
Кляшторны, Галавач, Дудар,
Каваль, Чарот, Кульбак, Лявонны…

Над светачам – чыніўся зьдзек…
А людцаў – д’ябал міфам песьціў:
*“Краіны больш няма на сьвеце,*
*Дзе б вольна дыхаў чалавек”...*

Сьляпіла зрок туга сьлязой,
Жалейкі плач вярэдзіў грудзі:
Так спаганяць шалёна зло? –
Народ… ніколі не забудзе!

**9. На краі гібелі**

Гатовіў пастку здрадны лёс
І на Купалу… ціхай сапай,
Бо вельмі складна веды нёс,
Каб развянчаць намер кацапа*.

Калі ж на подпіс прынясьлі
Спіс пад чырвоным грыфам*,
Шэф слугачоў павесяліў…
Сваім неардынарным прымхам:

– *Не нужно нацию губить* –
*Уничтожать их цвет под корень.*

*Кого-то нужно й похвалить,*
*Чтоб успокоить как-то горе.*

І… шэф – насуперак усім –
Бядулі, Коласу, Купалу…
Мандат няволі… замяніў
На ордэн* – як бы зьняў апалу.

Аднак прытворная хвала
Не прыдала настрой паэту:
Расправіў крылы КРА-ГУЛАГ *–
Без сіл застаўся край Саветаў.

Жалейкі незнаёмы сьпеў
Шпарчэй разносіўся па краю:
Кружыў над доляй перапеў
Жыцьця са сьмерцю – ада з раем.

## 10. Расправа

Зямля Саветаў – у агні:
Фашысцкі бот* таптаў зямельку.
Сышліся ў схватцы дзьве зьмяі –
Сьцяна кідалася на сьценку.

У гэты ліхадзейскі час
Краіну разьдзірала повязь
Шляхоў змаганьня: як вяшчаць?
Якую трэ пісаць аповесьць?..

Зь вялікім вопытам жыцьця
Паэт не мог быць беспрынцыпным.
Таму яго свабоду сьцяў
Правіцеля нагляд дасьціпны.

Нарэшце ўсловіўся зладзей,
Як збавіцца ад мага слова –
У шэрагу мірскіх падзей
Легенду справіў адмыслова:

Гатэль “Масква”… Ідзе ў пакой
Паэт. Пралёт – насупраць… Тупат…
І… ўраз – разнёсься неспакой? –
Пачуўся пры падзеньні грукат*…

Няўтольны быў жалейкі плач.
Ён не сьціхае і сягоньня…
Дык можа справімся, чытач,
І самі з ранай незагойнай?

## Эпілог

Нямала згадак усплыло
Аб той заўчаснай сьмерці мага.
Ды покуль правіць будзе зло,
Яе істотны сэнс – на вагах…

Не знойдзеш праўды ў нашы дні –
Кругом хлусьню нясуць без меры:
Тут *“ баюць байкі баюны”* *
Заўжды… без сораму, без веры.

Вось тут рух *“Праўду гавары!”*
І слушна разгарнуў Някляеў* :
Яму і выпаў кон раскрыць
Бязглуздзіцу жыцьця наяве!..

Не можна словам перадаць
Сваю адданасьць да паэта.
І ўсё ж мне хочацца згадаць
Матыў нядолі, флейтай сьпеты:

*“Свае жалейкі люд закінуў –*
*Чужым сьвісьцёлкам меса даў”...*

x x x

Так успрымаў паэт краіну
І… горкі лёс ёй – прадказаў.

Дні найвышэйшае спякоты 34-39 °С
1-12 жніўня 2010.

# ГУКА́НЬНЕ ВЯСНЫ

Наступленьне вясны ў нас чакаецца з 22 сакавіка – дня раўнадзенства, якое адзначаецца сьвятам “Гука́ньне вясны”. З гэтага часу з выраю прылятаюць птушкі, якія і нясуць на сваіх крылах вясну ў выяве Багіні абуджэньня Лады*. Менавіта ад яе залежыць прыход цеплыні, росквіт усяго жывога, будучы ўраджай і само жыцьцё чалавека. Аднак яе трэба паклікаць – “загукаць”.

Прыродзе хочацца прыдаць
Душой чульлівай узрушэньне:
Ў дні раўнадзенства пажадаць,
Каб стан яе набыў кружэньне.

Яго гатова спарадзіць
Багіня Лада – сьвет чароўны.
Аднак, вясне каб дагадзіць,
Трэ “загукаць” яе грунтоўна.

Для дзей прыходзіць час шукаць,
Як Ладу клікаць з’явай штучнай –
Трэ птушак вабных запускаць
І прасыпаваць пры гэтым гучна:

“*Хутчэй да нас, вясна, прыходзь!*
*Цяпло нясі нам у бусьлянку!..*”
Ўсяму трэ ладзіць падыход,
Каб кліч разносіўся вясьнянкай:

Вакол агнішча карагод
Вадзіць гурмой трэ у вясельлі;
Пачуецца й вясны прыход
І там, дзе правяцца арэлі…

О, колькі жывасьці нясе
Прыход чароўнае Багіні!
Дык покліч хай яе ўзьнясе
Душу на выспу успамінаў!

31 сакавіка 2011.

* Тлумачэньні пад такой зноскай – у **Камэнтарыях** да адпаведнай старонкі. У нашым выпадку Лада – багіня каханьня і веснавога абуджэньня

# АПОСТАЛЬСКІ НАКАЗ

Верш прысьвячаецц археолагу, краязнаўцу, паэту – змагару за адраджэньне Духу нацыі Васілю Рыгоравічу **Супруну*** з нагоды яго 85-годзьдзя (н. 10.оз.1926), аб чым і распавяла “Наша Слова” ад 16 сакавіка 2011г. ў нататцы Юры Мянькова **“Пад знакам Пагоні”.**

“*Ад звону мячоў і каваных падковаў*
*Праклятая цемра бляднее, дрыжыць.*
*І родная мова, бацькоўскае слова*
*Праз сьметнік чужы прарастае, каб жыць*”

**Васіль Супрун**

Васіль натурай клапатлівай
Наказ апостальскі абраў:
Ствараць настрой душы цярплівай
Паказчыкам рэжымных спраў,
Каб пошасьці пякельных спрат
Сышлі ў нябыт не жаласьліва.

Для выкананьня дзей у скрусе
Змагар за долю рух стварыў –
Саюз Вызвольны Беларусі, –
Каб агаліць жыцьця глухмень
У песьнях*, што па гэты дзень
Са здрадай ходзіць у хаўрусе.

Аднак знайшоўся ж правакатар –
Яго нам Юда спарадзіў –
І… горкі лёс спазнаў наватар,
А д’ябал – насланьнё спладзіў…
Народ наш зьведаў мноства дзіў –
На іх так зух спраў камбінатар…

З тых пор няўрымсьлівы апостал
У даўніну направіў сьлед –
Культуралогіі стаў поступ –
Пагоні адкрываўся сьвет:

x x x

Жыцьця маркотнага прасьвет
Спагадай стаў яму на водкуп.

25 сакавіка 2011

# ПЯРО ЖУРНАЛІСТА

Верш прысьвячаецца сябру па духу журналісту Міколе **Малышчыцу**, які адзначыў сваё 60-годзьдзе (н. 21.03.1951). Яго прозвішча пазначана пад **франтыспісам** маіх зборнікаў Менавіта зь яго лёгкай рукі нарадзіўся ў мяне сюжэт балады, прысьвечанай народнаму сакратру асьветы БНР Аркадзю Смолічу (чытай “*Баладу пра кніжку*” ў зборніку “**На скрыжалях часу**”).

*“Не трацьце надзей і веры,*
*Пакутнай зямлі сыны!*
*На вежах званіц збуцьвелых*
*Мы ўдарым яшчэ ў званы!*

**Ніл Гілевіч**

Пад веснавое раўнадзенства
Анёл надаў Міколе крыл.
І стаў наш праведнік з маленства
Пяром народу несьці быль.

Яна выносіцца, бясспрэчна,
Са спратаў памяці жывой:
Яе матыў – заўжды сардэчны,
Калі вядзе нашчадак свой.

Каб нашу сутнасьць мы не збылі
І, каб не нарабіць бяды,
Народу несьці трэба былі
Ды не на час, а назаўжды.

Хай нам пяро тваё, заступнік,
Паслужыць шмат яшчэ гадоў,
Каб вызначаўся дзень наступны
Пазнаньнем дзейнасьці дзядоў.

Дык нагружай стыло, Мікола! –
Яго так просіцца пара:
Хай не хаваюцца ў падпольлі
Нататкі слушнага пяра!

21 сакавіка 2011.

# НА ВЕТРАЗЯХ ВЕРЫ

Паэма прысьвячаецца змагарам хрысьціянскага веравызнаньня за адраджэньне Духу нацыі. Тэма яе высьпявала ў сэрцы яшчэ зь дзяцінства і напісана на аснове ўспрыманьня досьведу пазнаньня сутнасьці вечнага існаваньня душы праз веру такімі апосталамі нацыі як Уладзімер Арлоў, Ніл Гілевіч, Алег Дзярновіч, Вольга Іпатава, Уладзімер Караткевіч, Леанід Лыч, Адам Мальдзіс, Уладзімер Някляеў, Зянон Пазьняк, Пётра Садоўскі, Анатоль Тарас, Ігар Тумаш, Вітаўт Чаропка і другімі дасьледчыкамі спадчыны, для якіх гісторыя Айчыны не абыякавая.

*“Еўрапейская цывілізацыя трымаецца на сістэмнасьці паганства, юдаізму, антычнасьці і хрысьціянства”.* **Пётра Садоўскі**

*“Калі гвалтоўна развальваюцца традыцыі ці дэградуюць ад зьмяшаньня з чужародным, тады людзі перастаюць разумець адзін аднаго, граматцтва перажывае рэгрэс, культура спараджае хімеры”.*

**Зянон Пазьняк**

*“Веру, што рана ці позна, а сапраўдныя, сьвядомыя беларусы вернуцца да сваёй царквы, дзе пануе беларускі дух і душа злучаецца зь небам праз спрадвеку роднае слова”* **Леанід Лыч**

## 1.Пралог

*“Чалавек жыве не толькі хлебам,*
*але найбольш словам”*

**Францыск Скарына**

На золаку свайго жыцьця
Анёл вадзіў мяне да веры
У хрэстаматыю быцьця,
Якое ў сьвет ідзе з павер’я:

Як на Вяліканьне Хрыста*
Гуляе сонца пры усходзе.
Пры гэтым трэ лічыць да ста,
Каб бачыць з’яву у прыродзе.

Аднак сваволньная душа
Не паддавалася прымусу
І, спавядальнасьцю граша,
Так і не зьведала спакусы.

Бо ў срэбным ранку грай вялі
Грачы ў разлапістых ялінах:
Яны й цікавасьць адвялі
Ад навіны благой няўхільна.

З часіны сьветлай той пары
Я стаў нявольна атэістам*.
Але, каб момант завастрыць,
Па-боскі слаўлю дух тэізму*.

І вось сакральны час настаў –
Жыцьцю надаць трэ азначэньне,
Каб маразматык не прыдаў
Яму брутальнае значэньне.

Мой досьвед хроснага жыцьця
Твой одум, браце, хай не рушыць:
Для звычак хросных прывіцьця
Духоўнай веры Бог нам служыць.

x x x

Народ вядзе свой крэўны хрост
У ветразях царкоўных правіл.
Часамі ж ён ідзе наўпрост,
Калі здабытак бачыць справы...

У турбулентнасьці падзей
З пары мінуўшчыны глыбокай
Нямала страчана надзей
І палкай веры ў хрост высокі.

І ўжо на станцыях жыцьця
Быў досьвед розны ў чалавека:
Адзін – здабытчык набыцьця
Найноўшага, другі – з тла веку.

Бо ў цеснай повязі вякоў
Хрост дзееца **на вагах часу**:
То ў змушнай зьвязцы – талакой,
То з боскім вобразам сам-насам.

Абраднасьці, вядома, круг
Вядзецца аж з часоў **Ашвінаў***.
Чаму ж сьвятое веры* дух
Крыжом хрыстосавацца вінен?

Чаму ж да нас спакон вякоў
Плынь арыянства* ў лад нябёсам
Змагаецца супроць ікон,
Чый дух люцкім кіруе духам?

Пазнаеш праўду, братка мой,
Праз рацыю духоўнай веры,
Калі займееш погляд свой
І ў даўніну адкрыеш дзьверы.

А ў нашым разе – крэўны хрост.
І ён прадстаўлены з нагоды
Пракласьці веры палкай мост
Цераз стагодзьдзі ў нашы годы.

## 2. Паганства

*“Бацькаўшчына – гэта памяць,*
*Ля якой гавее час…”*
**Раман Тармола-Мірскі.**

На Богам створаны сусьвет
Народ прыйшоў не для забавы:
Паганству* Бог даваў завет –
Не пазьбягаць абраднай справы.

Яму – па волі боскіх сіл –
Слаў дамінуючую радасьць
Дзівосаў поўны небасхіл,
Які асьветлены спагадай.

У слушных споведзях парой
Да іх зьвяртаўся страсна вернік.
Ім дорыў больш сьвяты настрой
**Сварог*** – галоўны божы весьнік.

Бясспрэчна – ў справах бытавых –
Спрыялі Хорс, Дажбог, Сварожыч,
Стрыбог, Пярун… – яго сыны*,
Каб не трымаць жывот парожнім.

А, каб не зьведаў быт хаос,
Вяршылі скарбам, шыкам, ткацтвам
Сімагрл*, Макоша*… і Валос* –
Багі раскошы і мастацтва.

x x x

Народ на росхрысьце жыцьця
Стаіць на веры спавяданьня:
Стаўпом заступніцтва на час
Інстынкт стаў самазахаваньня.

Яму заўжды, як страж жыцьця,
На службе – лес, палетак, неба…
Для сіл прыродных набыцьця
Народу спраўна служаць веды.

Іх спараджалі вешчуны
Паганства – стражнікі капішча*.
Заўзята зладжвалі яны
Абрады вешчага ігрышча.

А каб бажкам гадзеў абрад,
Трэ справіць трэбу* немінуча
І прасьпяваць жрацам у лад
Асанну пахвалой пявучай.

Яскравы прыклад даўніны –
На Каляды нам служаць кроўна
Мясцовых звычак вестуны
Прымет жыцьця старонкі роднай.

Да зор тут песьняй ўзьнясе
Сюжэты дух невычарпальны!
А колькі радасьці нясе
Гульня пры вогнішчы Купальля!?

У ноч купальскую прамень
Агню ў прастор сьвятога кола
Расьсейвае душы глухмень –
Зрывае цемры пудкай полаг.

У хісткай магіі сьвятла
Шукаюць квет – крыніцу шчасьця.
Не згасьне цуд яе датла,
Калі душа адкрыта насьцеж…

Больш знаная была тады
Дэманалогія* – вучэньне
Пра “завіваньне барады”*,
Пра духаў годнае значэньне:

Гуканьне – прыкладна – вясны,
Прывабіць ёўніка* падаркам,
Прызнаць дамавіка ручным
Апекуном для гаспадаркі…

Не сьцерці з памяці сьляды,
Што нам дасталіся ад продкаў.
Абраднай дзейнасьці плады*
Яшчэ нам душу пояць порстка.

## 3. Язычніцкая рэформа

*“Што ні робіцца –*
*ўсё на карысьць”*
**Біблейскае казаньне**

Але паганства да пары
Спраўляла ў мнагабожжы трэбу:
Душа ўжо проць была тварыць
Несправядлівасьці патрэбу.

І воблік стаў губляць кумір* –
Спрыяла на хрышчэньне мода:
Сьпярша князі **Аскольд** і **Дзір***
Хрост прынялі крутой нагодай.

Ды сюзэрэнны князь **Алег***
Лішыў жыцьця іх без абраду,
Злачынства асудзіўшы сьлед,
Як узурпатарства пры ўладзе.

І ўсё ж духоўны досьвед меў
Народ аб таінствах хрышчэньня:
Ён боскай спогадзі павеў
Пазнаў у чарах прычашчэньня.

А каб надаць хрышчэньню сьвет,
Князь **Яраполк*** узьвёў храм божы.
Ды **Ўлад*** зглуміў ягоны сьлед,
Каб стаўся лік Хрыста нягожым.

На месцы божым валадар
Паганскае капішча зладзіў:
Язычніцтву быў спраўлен дар –
Спрыяць політэізму* ўладзе.

Бо трэ было запашваць дань
З халопаў – як бы для куміраў:
Не раз узносілі іх здань
Каля капішча званым пірам.

Але даніну каб спагнаць,
Кумірам справіць трэ ахвяру:
Нягожа ж будзе людцам слаць
Тады бяду крутой пачварай.

Такі раз выбар трэбы паў
На сына хрысьціянскай веры.
Калі ж час ісьціны настаў,
Халоп* служакам не паверыў

І цьвёрды водпаведзь ім даў:
*“Не богі гэта, а – лясіна:*
*Сягоньня ёсьць, а заўтра – зьгіне...*
*Я сына – д’яблам – не аддам”.*

І… з сынам ён ступіў у бой
Супроць паганскае хімеры –
Прыйшлося жэртвавацць сабой,
Паклаўшы на алтар хрост веры…

Халопы тыя ж – з хрысьціян –
Паўсталі першымі сьвятымі*.
Пад імем Фёдар і Іван
Яны – стаўпы перыпетыі.

Але ў адносінах да сіл,
Якія сьцераглі паганства,
Князёў паганскіх ўсё ж спасьціг
Матыў прызнаньня хрысьціянства*.

Яно ішло ў віры падзей,
Ад Візантыйшчыны* з размахам.
У якасьці пасланцаў дзей
Служылі цэсарам* манахі.

## 4. Прыгоды хрышчэньня

*“Усім на волю Бог дае іспыт –*
*І не займець збавеньня ад іспыту…”*
**Уладзімер Някляеў**

Адным з пасланцаў тых часоў, –
Як сьведчаць хронікі і сагі, –
На землі ў **Аўстравег**-шляхоў
Быў **Торвальд***, вартага павагі.

Хрышчэньня місію вякоў
Зьдзяйсьняў ён вельмі пасьпяхова.
І ў дар яму прынёс спакой
Хрыстос святое справы й схову.

І ўжо шаноўнай веры хрост
**Рагнеда*** ад яго прымала.
А каб прыдаць хрышчэньню рост,
Яна манашкаю і стала.

І **Прадласлава*** хрост сьвяты
Успрыняла натурай вешчай:
Яна й пайшла… у манастыр,
Каб зь верай саступіць у вечнасьць…

Аднак стагодзьдзямі яшчэ
Жрацы сачылі вельмі строга,
Каб веры звычай не сьцішэў
Пад пільным позіркам Сварога.

З радоў місіянерскіх тых,
Хто асьвячаў край сьветлай марай,
Хрышчэньне вёў у час круты
І **Бруна-мніх*** – часоў ахвяра.

Нагодай суджаных падзей
Стаў дыспут пра цану куміра,
Падчас чаго – не без надзей –
Спаліў ён дрэўнага вампіра.

За ганьбу звычак з калатнёй
Манах асуджаны быў хутка:
Ён сьмерць з дружынаю сваёй
Прыняў ад рук жрацоў пакутна.

З часоў ахвярных той пары
Нязьлічана сплыло вадзіцы.
Не раз маглі валадары
Тактоўна зь верай не згадзіцца.

Наглядны прыклад слушных з’яў –
Было ўладараньне **Міндоўга***:
Калі час споведзям спрыяў,
То ён і ўладным правіў доўгам.

Сардэчнай веры*, то жывой*
Ён часам аддаваў павагу,
Пакуль яго ж нашчадак свой
Над ім жа не стварыў зьнявагу.

Такой жа долі ўраз спасьціг
І **Гедымін***: уладнай мерай
Ён свой народ хацеў хрысьціць
Абрадам каталіцкай веры.

Для гэтай мэты пад заказ
Чакаў князь з Чэхіі манахаў.
Але жрацы яму ў адказ
Пратэст свой выдалі з замахам.

І князь **Альгерд*** у ветрах дня
Не мог спыніць прысуд баярам,
Якім за сьмеласьць хрост прыняць
Наканавана стаць ахвярай.

І ўсё ж пратэсты князь скарыў –
Вялі адкрыта хрост у весях:
Калі ж зьдзек д'ябал паўтарыў,
То ён зачыншчыкаў й павесіў.

Аб гэтым **Нестар*** – пісем спец –
Паведаў хрысьціянства згубу:
Кумец, Няжыла і Крупец –
*"Апошнія ахвяры... дуба"**.

### 5. На скрыжалях веры

*"Чалавека нельга аддзяліць ад*
*Бога, а палітыку ад маралі"*
**Томас Мор**

З нагоды вешчай праз вякі
Між сьвятароў разброд чыніўся:
Дзе лёс народа быў цяжкі,
Там новай веры клір тварыўся.

Заўважу: хрост прымаў ліцьвін
Ва ўмовах суджанай пагоды:
Паганскае хімеры плынь
Ужо была не да спадобы.

Бясспрэчна: палкі веры хрост
Трымаецца на спавяданьні.
Таму, калі стаў Рым у рост*,
Настаў й яго час укладаньня.

Займеў сьвятар арыенцір –
Да душ люцкіх масьціць дарогу:
Паўсюль жывое веры клір
У мас атрымліваў падмогу.

Царква нас вучыць – сьведчыць Бог,–
Што людзям служаць дзейнай сілай
Чатыры вартасьці: Любоў,
Свабода, Праўда, Справядлівасьць.

І ўжо **Ягайла*** – князь Літвы –
Магнатаў стаў хрысьціць няўхільна.
А каб на густ быў хрост жывы,
Увёў епіскапства у Вільні*.

За ім й Вялікі князь **Вітаўт***,
Каб хростам змацаваць старонку,
Мяняў свой зладжаны ўжо акт
На акт з больш выгаднай трактоўкай…

Зь дзяцінства цноту князь спасьціг
У храме праваслаўнай веры.
Ды ўжо ў адплатны час* уміг
Ён каталіцкі крыж прымерыў.

Яшчэ князь тройчы ход зьдзяйсьняў
Да веры новай – стаў асадкам:
Каб подых ветру счуць у дня,
Ён нават рызыкнуў нашчадкам*.

Аднак, калі рашаўся лёс
Краіны ў бітве пад Грунвальдам*,
Вітаўт свой крыж пачэсна нёс
У брацкай еднасьці зь Ягайлам.

А каб дзяржаве моц прыдаць,
Князь мітраполіі сталіцу*
У Вільна перанёс, дзе б знаць
Магла з халопамі маліцца…

Як бачым: розны падыход
Да хросту ў сьвятароў канфесій,
Бо кожны прызнае прыход
Хрыста заўзятай справай чэсьці.

Між тым пабудкай зла ў жыцьці
Народ – па прыхамаці часу, –
Да мэты сьпешна каб дайсьці,
Парой сумленьне рве на часьці.

Хоць Томас **Мор*** й Хрыста сакраль
У крэда ўзьнёс:*“Бог зь людам – цэльны,
Таму палітыка й мараль
У справах мусяць быць саўдзельны”*.

За дзейнасьць сьвецкую, між тым,
Ён быў асуджаны… за “здраду”.
І толькі праз вякі сьвятым
Яго прызналі як спагаду.

## 6. Зараджэньне уніяцтва

*“Родным словам мы грознай парою
Гуртавалі рады змагароў”.*
**Ніл Гілевіч**

Ідэя Мора, – бы на зьдзіў, –
Крыніцай стала ў намаганьнях,
Якіх час скрушны спарадзіў
На грунце мовы і з’яднаньня…

На ўсходзе моцы набіраў
Маскоўскі клір уладнай хваткай –
Царквы карону прымяраў
Да меж *“Всяе Руси”* парадкам.

Калі ж круты час наступіў
І ўсталявалі патрыяршства*,
Нястрымнай сілай ахапіў
Фантом ліхі яго ўладарства.

І ўжо за межамі Русі
Канон царкоўны праваслаўя
Вядуць па-руску, каб зусім
Народ забыў дзядоў пасланьне.

А з вэсту ходку набіраў
Клір дзейны каталіцкай веры,
Бо твар абшчыны ён не скраў
І прадзедаў сваіх манеры*.

Таму народ і даручыў
Яму сьвятое веры трэбы:
Духоўна рос абсяг абшчын,
Узьвёўшы праведнасьць ў крэда.

Але Масквы кароннай клір
Забіў трывогу без адбору:
Нарушыўся аселы мір* –
Жуда напоўніла прастору.

Вось так між вернікаў і ўзьнік
На гонях роднае старонкі
Канфесій варажнечы пік,
Які абрады зьвёў да ломкі.

У цеснай зьвязцы скрушных з’яў
Саюз канфесій* ўяўляе
Найбольш прыемны варыянт –
Настрой абшчыны выпраўляе.

Але сярод шырокіх мас
Ідэя не была вядомай.
Таму асьветніцтва прымас
Прыдаў ёй важнасьць адбудовы.

У песнапеньнях на людзях
**Пацей***, **Рагоза***, **Руцкі***… словам
Тварылі цуд, праклаўшы шлях
Да душ люцкіх сьвятой прамовай.

Трываласьць веры надаваў
На роднай мове й спіч-малебен,
Які гучэў спагадліва
І быў для справы так патрэбен.

У межах крэўнае радні
Раскрыўся одум уніяцтва.
Ён і прыдаў у тыя дні
Узьлёт сакральнага мастацтва.

Барока* – вызначальны стыль
Жыцьцёвых правіл езуітаў*.
Зь ім у касьцёлах – люд на "ТЫ",
Бо сэнсам быту быў спавіты.

Тут – фантастычных дум палёт
У ткацтве, музыцы, прамовах…
Тут ужываўся напралёт
Характар месца ў забудовах…

## 7. Дыбкі маскаля

*"Ад дзікай рукі маскоўскай*
*Гінулі дзеці ў калысках"*
**Антоні Гарэцкі**

Ды ўзьняўся на дыбкі* маскаль:
*"Ага! Угроза христианству!":*
Не ў густ яму была мараль
Канфесій брацкіх уніяцтва.

І стаў у парафіях сваіх
Плясьці маскаль цянёты змовы:
Як быццам уніяцтва – зьвіх! –
Пярэчыць хрысьціянства ўмовам.

Каб зганьбіць уніяцтва клёк,
Ён абвясьціў яго “заразай”
І ў Віцьбеск, Вільню, Магілёў…
Ганцоў паслаў зь ліхім наказам:

*“Служб униятских – не вести!*
*Не слушать сьвятароў наказы!*
*Народ в коммунах известить:*
*Не поддаваться миф-заразе!*

*Родной язык в мольбах забыть,*
*Чтоб не срамить Святых Писаний!*
*А чтоб пред Богом правым быть,*
*Не принимать увещеваний!”*

І разгарнуўся сабатаж
Прыняцьця правіл уніяцтва.
Яму спрыяў й яго шантаж –
Наўмысна зганіць одум брацтва.

Найбольшую прыдалі злосьць
**Кунцэвіча*** перакананьні.
Яго і вырашаўся лёс
У кругаверці аб’яднаньня.

Званы на Віцьбескай зямлі
Наводкай сьцялі атмасферу –
І ў двор епіскапа увайшлі
Мяшчане праваслаўнай веры.

І злосьць – Кунцэвіча віну –
У душу жэртвы памясьцілі,
А цела – кінулі ў Дзьвіну.
Жытло ж яго – датла спалілі.

І, тым не менш, у схватцы той
Душа Кунцэвіча – не дзіва! –
Паўстала постацьцю сьвятой,
Бо справа ўся яго – праўдзіва!..

Пры вырашэньні спрэчных дзей,
Што зладжаны былі Масквою,
Нямала страчана надзей,
Якіх, аднак, не сьцерці змовай.

Маскве з прадажнаю царквой
Літва была, як костка ў горле,
Таму цар, одум сьцяўшы свой,
Рашыў, каб нацыя – умёрла.

І сьпехам войны* ён згадаў
З благаславеньнем на удачу –
Зусім зямлі зьнішчалі твар
І нават тых, хто нешта значыў.

І ўсё ж у страшнай калатні
Люд спасьцігаў сэнс уніяцтва,
Хоць часам долу падаў ніц
Ад безразважнага вар’яцтва.

Найбольш злачыннаю была
Вайна, празванай “невядомай”*,
Дзе кожны двор другі датла
Зьнішчаўся ліхасьцю сьвядома.

І муж грамацкі – **Сімяон***,
Як выхавацель брацкай школы,
Быў змушаны пайсьці ў палон –
У Адраджэньні стаў адколам…

Так спраўджваўся ганебны фарс
Царквы прадажнай хціvай сьвітай:
Гуляў у родных нівах Марс*
Аж да падзелу Паспалітай.

## 8.“Русізма” глум

*“О, акупанты, жах народных мук!*
*Мы ў сябе – пчолы, вы заўсёды – трутні”*
**Ларыса Геніюш**

У спрэчнай повязі падзей,
Калі Рэч проста зрабавалі,
Няўцешным веры стаў падзел,
Хоць вера меж не прызнавала.

Царыца* ў скрушны лад жыцьця
Уклала дзікасьцей нямала,
Каб памяць хіжага быцьця
Жывую мову адымала.

І ў ліхам непапраўны час
Навісьлі над абшарам хмарай
Чужыя погляды: прымас
Зьнішчаў тутэйшых людцаў мары.

“Русізм” адкрыта ў глум спаўзаў.
І ўжо прад сьвятарамі Слуцка
**Садкоўскі*** грозна наказаў
Выключна размаўляць па-руску:

*“Я вас за родное словцо*
*Сошлю в Сибирь, пошлю в солдаты,*
*Сюда пришлю своих спецов,*
*Чтоб говор ваш исчез проклятый”.*

Яшчэ сябе больш люта вёў
Пры ліквідацыі паўстаньня*
Правоў магільшчык – **Мураўёў*** –
Ліхі прыхільнік праваслаўя:

*“Чтоб край ваш не узнал никто*
*І позабыл его величье,*
*Язык ваш превращу в ничто,*
*Предам забвению приличья”.*

Настала грозная пара
Для кліра храмаў уніяцкіх:
Хто проць Русі быў – час караў
Судом заганным па-вар’яцкі.

Як толькі **Булгак*** ў дол сышоў,
Сабор* прыняў цара рашэньне:
Правесьці ў храмах службу-шоў –
Ад уніяцтва адрачэньне…

Ва ўсіх праявах скрозь відна
Ідэя рускага пытаньня*:
Народы “*слушна*” аб’яднаць
На грунце веры панаваньня.

І вось ужо пайшлі ў расход*
Прыхільнікі за уніяцтва…
Стаў рускамоўным зноў прыход –
Дань прарусізму… Сьвятатацтва!

Крывёй заліўся шыр-прастор
І гневам гора набрыняла.
Хоць надта й шчыраваў тэрор,
Ды воля смуту* наганяла…

І ўжо трыбунна **Ясь*** маўляў:
*“ Мы зажывём тады шчасьліва,*
*Калі ня будзе маскаля!..”*
Аднак, не зьвёўся час жахлівы.

Шчэ дзейсна ўнёс у роздум дня
Й **Прарок*** прыдатны лёсу перла:
*“ Трэ мовы нашай… не губляць,*
*Каб* (нацыя зусім) *не ўмерла!”*

І, тым не менш, жывы сьвятар
Не страціў ніцей мовазнаўства,
Хоць час ішоў, зьмяніўшы твар…
Ды не здало правы ўладарства.

## 9. Фабрыкацыя спраў

(Прысьвячаецца памяці **Баляслава Слосканса***)

*“Бойся не воўчай зграі.*
*Чалавечая зграя страшней”*
**Васіль Быкаў**

На край зноў з чырваньню чума
Сышла кастрычнікам крывавым:
Не стаў народ мой успрымаць
Сьвятое веры лік ласкавы.

Пад маркай аддзяліць царкву*
Ад спраў кіруючых дзяржавы
Лад дзею праўдзіў наяву –
Пазбавіў спадчыннасьці храмы.

На грунце вычварных падстаў, –
Як бы *“супрацiўленьне ўладзе”*, –
Працэс суровы грозна стаў
Над хрысьціянствам, як *“заразай”*.

Экзерсіс сьледчы хіжых дзей –
Стварыць пры арышце умовы,
Каб не знайшоўся хто з людзей,
Што мог бы справу іх адмовіць.

Чэкісцка прымаўка гучыць:
*“Нам толькі дайце чалавека,*
*А вінаватым – зробіць чын”*.
І… прападаў сьвятар без вестак.

Расстрэлы духавенства* йшлі
Па фактам безгрунтоўных актаў
І… ў вечнасьць назаўжды сышлі
Дасье нявіннага сьвятарства.

Напрыклад сьведчаньнем такім
Трукацкіх спраў быў грубы арышт
Службоўца **Слосканса**, які
Па духу вернікам – таварыш.

А каб на суд прадставіць факт,
Які б правы даў на зьнішчэньне,
То трэ няўхільна скласьці акт
У дачыненьні к парушэньням.

Для скрушнай мэты ДэПэУ
Падрыхтаваў план згвалтаваньня:
Падклаў пры вобыску яму
Стос рэчаў для рэагаваньня.

Калі ж агенты зноў прыйшлі
Правесьці вобыск афіцыйна,
Пяцёра сьведкаў прывялі –
Зафіксаваць факт традыцыйна.

І трэба ж так прыўзьняць партрэт,
Каб з-пад асадкі выпаў скрутак:
Там быў – дзяржаўнасьці сакрэт –
Пакет ваенных атрыбутаў…

Здабыты ўрэшт бясспрэчны факт:
Удзел айца у шпіянажы.
Але прыслуга – тут не ў такт, –
Дрыжа ад страху, ўсё ж дый скажа:

*– Ў адсутнасьць Вашу, бацюшка,*
*Шпікі два ў комнату ўваходжы, –.*
(Такой была ў іх вывучка), –
*А трэці быў са мной ў прыхожай.*

Так, слова – факт – не верабей,
Як толькі вылеціць – не зловіш…
І ў гневе выдаў зьляб зь сябе:
*– Старуха! Что глаза мозолишь!..*

Вось так зрэдзь скрадваўся дасье
На справы, што фабрыкавалі:
Сваёй крутнёй шпікі сябе
Парой і кампраметавалі.

## 10. Чырвоны плягер

(Прысьвячаецца памяці **Вінцэнта Гадлеўскага***)

*“Усё праходзіць, мінае, як дым,*
*Сьветлы ж сьлед будзе вечна жывым”*
**Янка Філістовіч**

На жаль нямногім выпаў кон
Уратавацца ад нягоды,
А тым, хто зладзіў Рубікон*,
Чынілі толькі перашкоды.

Паўсюдна вернікаў душа
Ціск бальшавізму адчувала:
Высакароднасьцю граша
Блюзьнер дзівос рабіў нямала.

І вось, як па камандзе, ўраз
Пачаўся арышт багасловаў –
Чэкістам выдан быў наказ:
Прапляжыць* уніятаў змовай.

К расстрэлу суджаны былі
**Цэплак***, **Буткевіч***, **Януковіч***,
**Пашкевіч***… – ўсе, каго змаглі
Пазбавіць праў не выпадкова.

Адметна крыж свой нёс сьвятар –
І ў час карычневага мору –
Вінцэнт **Гадлеўскі**. Як змагар
Ён стаў ахвярай угавору…

У самым логаве – на зьдзіў –
Стварыць хацеў ён надта жвава
Антыфашысцкі Супраціў –
Строй незалежнае дзяржавы.

Спачатку партыю стварыў
З прывабнай і крылатай мэтай –
Адначасова каб скарыць
Правы нацыстаў і саветаў.

Ды, тут як тут, сыскар Крэмля
Зь ім прадпрыняў прадмову-раду –
Трэ немцам данясьці: зямля
Рыхтуе з вязьняў нашых здраду.

Пад маркай –“прафашысцкі полк” –
Трэ тайна ім прайсьці граніцу.
А каб прыдаць той змове толк,
То трэба хростам прычыніцца.

Калі ж той допуск яўю стаў,
То сыскары ксяндза і здалі:
Бо скора обер-шэф чытаў
Яго намер страфой Натальлі*:

*“Калі што далі нам чужыя?*
*Ці хто калі – наш плач усьцішыў?*
*Дось!*
*Напружым мы пастронкі жылаў*
*І злыбеды мы самі скрышым!..”*

Ксяндза ж назаўтра допыт ждаў:
Яго ў той дзень і расстралялі.
Змагар – Свабоды не прыждаў,
Бо сходы зорак не спрыялі.

А тым, каму дагаджваў лёс,–
Каму спрыялі сходы зорак,–
Анёл іх веры моўчкі зьнёс
Ліхой бяды пякельны морак.

І на прасторах, дзе шчэ люд
Прыняць адвергнутых гатовы,
**Сіповіч***, **Надсан***, **Данілюк***…
Прадоўжылі свой шлях крыжовы*.

Ім больш пашчасьціла ў жыцьці,
Бо вера з лёсам падружыла.
А ў тых, дзе вера ў забыцьці –
Не хуткатечна кроў… у жылах.

## 11. Кошт жыцьця

(Прысьвячаецца памяці **Адама Станкевіча***)

*“Калі народ не знае кошту*
*Свайго жыцьця – народу сьмерць”*
**Ніл Гілевіч**

На небе шэрым узышла
Адама зорка над краінай:
Народу – вешкаю была,
Калі стагнаў край у руінах.

Свой пазітыў Адам ляпіў
У варажнечай атмасферы.
І скрозь спагадаю сьвяціў
Яму ліхтар Хрыстовай веры.

Хрыста ён веру ў крэда ўзьвёў
У семнарыі духоўнай
І ў першы раз імшу правёў
У храме* Крэва, векапомным.

Праз тры гады ён – выпускнік
Акадэмічнага майстэрства
І ўжо у Вільні – кіраўнік
Сяброў духоўнага братэрства:

Ён – школы шэф, ён і – друкар
Выданьня “Хрысьціянскай думкі”
І ў сойме Польскім, як сьвятар,
Старанна спраўджвае стасункі.

І ў час карычневай чумы
Званы касьцельнае званіцы
Няўхіьна сьвдчылі, што мы
Яшчэ жывём душой “Крыніцы”.

І гуртам грамада ішла
Ў касьцёл Сьвятога Мікалая,
Спагада дзе б ксяндза магла
Сысьці нашчадкам немалая.

Але найбольш сьвятар спасьціг
Душой выпрабаваньне веры,
Калі яму ўжо зьляб-службіст
За здраду раіў рост кар’ерны.

Вёў рэй дзялок: *“Тваё жыцьцё*
*Ў тваіх руках, айцец, без штампа –*
*Ўзначаліць краявы касьцёл*
*Пры ўмове непрызнаньня папы…”*

Не мог зварот прыняць айцец,
Бо цяжкі грэх бяды анёла:
За згоду можна тут займець
Дыскрэдытацыю касьцёла…

Такі вось лёсу паварот
Чакаў Адама ў паняверцы,
Бо Мефістофаля зварот
Анафеме адкрыў бы дзверцы.

Ахвяраваў жыцьцём сьвятар –
Таму й касьцёл пазбыў расколу:
Зазнаў на вопыце змагар
Хрыста жывое веры школу.

Яе жыцьцёвасьць ён пранёс
Праз пераважваньні на шалях:
Шточас яго балёсны лёс
На сходзе зорак вырашалі.

Яго нат “вусьцішная” сьмерць
Хай будзе напамінкам людзям:
Якою стацца можа цьвердзь,
Калі ёй правіць д’ябал будзе…

Духоўным помнікам айцу
Хай будзе рух яго Хрыстовы:
Імя ксяндза ўсё ж занясуць
У лік сьвятых без дай умовы!

## 12. Эпілог

*“Ахоплена сэрца маё неспакоем,*
*Вялікай, балючай трывогай люцкой”*
**Ніл Гілевіч**

Стагодзьдзяў пяць на рубяжах
Паміж Масквой і Паспалітай
Чыніцца гвалт, уціск і жах –
Зямелька ўся крывёй паліта.

Як толькі храмы маскаля
На шчыт узьнялі дух “русізма”,
Стаў клір іх слушна праслаўляць
Імперскі поступ шавінізму.

З тых пор кацап пад гул званіц
З айца благаслаўленьнем званым
Ідзе чужы край паланіць,
Каб свой паставіць крыж заганны...

Няўмольна нішчыцца наш край
Ужо чужым праўладным клірам,
Стаптаўшы хрысьціянскі рай –
Духоўнасьць праведную зь мірам.

Глуміцца нечысьцю зямля,
Зьнішчаецца і памяць продкаў,
Каб толькі крэўная ральля
Не спараджала нівы ўсходкаў.

Пад прэс імперскага катка
Падпалі стражы уніятаў
І тыя, хто брыду спаткаў
Няскоранай душы фарматам.

А тых, хто хрост чужы прыняў,
Ператварылі ў зомбі проста:
Усё адно ім – хто радня?
Якую мець маглі бы постаць?

Як быццам – не азызлы твар
І не дзябёлая паходка.
Аднак для д’ябла ён – тавар:
Яму адданай стаў находкай.

Не можа ён як сьлед паўстаць
Супроць чужой паноўнай мовы,
Бо на шляху ідэй Хрыста
Стаяць стаўпом брыды умовы.

Яны скрываюць сэнс жыцьця
І візантыйскую духоўнасьць*,
Якая й дбае забыцьця
Вякамі пешчаную здольнасьць:

Як вартасьць спадчыны не збыць?
Як зьнішчыць у душы пакору?
Як твару рода не згубіць?
Як еднасьці* дабіцца скорай?..

Стан уніяцтва вабіць дух –
Яго наш продак зьведаў веліч:
Душа была зь ім у ладу,
Хоць і нягод знасіла безьліч.

А сёньня ў нас лютуе страх:
Улада “*памяркоўным*” жэстам
Чужую мову ўзьнесла ў ранг
Паноўнай. Проста – самажэрства*!

А як расшырыў свой прыход*
Клір цэркваў праваслаўных, рускіх!
Займеў правы нат на ўваход
У класы – славіць лад па-рускі.

Супроць бяздумнасьці паўстаў
Паэт **Някляеў*** мужнай песьняй.
Яму пашанай слушнай й стаў
Бажок Валос – раздольля весьнік.

## 13. Пасьляслоўе

*“Божа праведны! Нават з амвону*
*Бласлаўляецца ўладным крыжом –*
*Не Свабода, не сьвятасьць Закону*
*А душы беларускай пагром”.*
*“Натхнёныя сьвятлом Хрыстовай веры*
*Мы выйдзем, выйдзем на простор-*
*разлог!”*

(Зь вершаў **Ніла Гілевіча**)

На ўсёй прасторы вертыкаль
Працята духам праваслаўя –
Да роднай веры ўсе амаль
Адносяцца з пагардай яўнай.

У час праўленьня дзікіх сіл
Сьвятло Хрыста ў ліхім загане:
Ашуку ж бачыць небасхіл,
Як праваслаўе “рус” паганіць.

Калі ж сумленьне д’ябал скраў,
То шчасьце здрады – негатыўна.
І **Тумаш*** тут заўважна праў:
Лепш мёртвым быць, чым візантыйцам.

Дарэчы, вызывае злосьць
У праваслаўным рускім “браце”
Альтэрнатыва, – што супроць, –
Рух Хрысьціянскіх Дэмакратаў*.

Тварцом грамацкай плыні стаў
Духоўна Павал **Севярынец*.**
Яго душу, – як іпастась, –
Ксёндз **Завальнюк*** ахвотна прыме…

x x x

Каму чужая вера стала гаспадыней,
Таму яна любоў да спадчыны адыме.
Той годзіцца наўпрост царкве вандала,
Душа ў каго брыдой халопа стала.

Люты – жнівень 2011

## СЬВЕТ ХРЫСТА

Санет прысьвячаецца ксёндзу Мінскага касьцёла Святых Сымона і Алены апосталу веравызнаньня Завальнюку Ўладыславу Мацьвеявічу

*“Я з вамі ва ўсе дні да сканчэньня веку”*
(Евангельле, **Мацей,** гл. 28, стар. 20)

Нязьмерны духам боскі запавет:
Ахопліваць пачуцьці мудрым словам…
І зьместам сьвецкім увайшлі ў сусьвет
Сакральнасьці Хрыста не выпадкова.

Тэізму слушнасьць – існы інструмент
Абраднай дзейнасьці – жыцьця аснова.
Таму сьвятое веры хросны сьвет
Народу вызначае шлях з умовай.

Жывую сувязь зь вернікам* узьнёс
Сьвятар у крэда з помачу нябёс
Канонам на фундаменце касьцёла.

Тут праведнік й знайшоў прытул сабе,
Дзе б душу непадкупную ў мальбе
Змог шчыра зьліць у споведзях з анёлам.

26 лістапада 2011

## ДУШЫ ПАРЫВАНЬНЕ

Трыялет прысьвячаецца ідэолагу Беларускіх Хрысьціянскіх Дэмакратаў Павалу Севярынцу.

Хрыста заветы несьці у народ –
Занадта адмысловае прызваньне:
Яно – душы чуллівай парываньне.

Хрыста заветы несьці у народ
Заўжды прадвызначае існаваньне
Малітвы пранікнёнай разварот:

Хрыста заветы несьці у народ –
Занадта адмысловае прызваньне.

27 лістапада 2011

# ДУХ ДЗЕКАБРЫЗМА

Паэма прысьвячаецца руху за адраджэньне Духу нацыі ў часы найвышэйшага працістаяньня народа супроць дыктатуры кабальнага гнёту, які доўжыцца аж з часу падзелу Рэчы Паспалітай. Сёньня дух супраціву наглядна прадэманстраваў народ, прыйшоўшы на Плошчу 19 сьнежня, каб выказаць свой пратэст супроць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў.

*“О, народ беларускі!*
*Ты так красамоўна маўчыш,*
*Што маўчаньне тваё*
*Ім страшней*
*За бунтоўныя крыкі.*
*Не, не доўга ўжо несьці табе*
*Свой пакутніцкі крыж...”*

**Ніл Гілевіч**

## Пралог

Помніцца, ў часы заганы
Дзекабрысты* ў выступленьнях
Стан Русі раскрылі:
Там, дзе землі брудам сланы –
Жудасьцю закабаленьня, –
Ангел чысьціў крылы.

Неўзабаве край расьпяты
Абудзіўся клічам волі
І прыўзьняўся духам:
Пачаліся злобай сьцяты
Бойкі* з сатаной нядолі,
Каб дабіцца зрухаў.

Ды не справіўся з заганай
Талерантны люд. Папраўдзе –
Слабы быў занадта.
Расьцягнулася ж змаганьне
За правы народаўладзьдзя
Год на паўтараста.

Быў аднойчы факт прыстойны –
Зьняць зь сябе хамут няволі
Ў час падзелу краю:
Слуцкі збройны Чын* дастойны
Быць узорам – без патолі –
Не баяцца зграі.

## 1. Выбарчыя выдаткі

А калі ж анёл спагадны
Нам дабыў Свабоду цудам* –
Час распарадзіўся,
Ды анёл – бясспрэчна – здрадны,
Што зямельку сьцеле брудам,
З часам – не згадзіўся.

Шляхам махінацый розных
Сатана, да ўлады сквапны,
Захапіў трон зманам*
І скасьціў Закон галоўны:
Больш яго ніхто няздатны
Кіраваць дзяржавай.

І застаўся край ў абдымках
Здані рады памяркоўнай*
“Кроўнага” братэрства,
Дзе правы атрутнай дымкай
Змагара з душой маркотнай
Сьцерлі самажэрна.

Ды не згас дух непакорны
За карону пры змаганьні
У барцоў Свабоды.
Рэй змагар вядзе каронны
У часы перавыбраньня*
Ў ветразях нязгоды.

Дух магічны дзекабрызма
Ў перадвыбарчае гонцы
Ахінуў прастору
І раскрыў ідэалізму
Рэчаіснасьць у старонцы
Без сьлядоў затору.

**2. Процістаяньне**

Першы стрэл у дыктатуру
**Рымашэўскага** Віталя*
Вельмі трапным стаўся –
Трон гнілы наменклатуры,
Што нялюбым люду стала,
Зараз захістаўся.

Схамянуўся тут дыктатар
І загад аддаў страшнейшы:
*“Адвакат! За справу!*
*Каб ніхто з тых кандыдатаў,*
*Хто парушыў лад вышэйшы*
*Не пазьбег управы!”*

Загучэлі зь С М І-каналаў
Выступленьні адвакатаў:
*“Трон не варта грызьці!*
*Так, сваіх фінансаў мала:*
*Дык жа ўрад не вінаваты –*
*Падкасіў нас крызіс”.*

А калі ж другіх пачулі
Кандыдатаў* выступленьні –
Без цэнзуры дзеі, –
Дык, здаецца, стан адчулі
Спраў агідных выпраўленьне…
Марныя надзеі.

Наяву ж раскрыўся поступ
Змагароў у спіч-наказах:
*“Наш ратунак – Плошча!”*
Стаў ў адказ – загад папросту:
*“Рыхтавацца ў аўтазаках*
*Душы прапалошчваць!”*

**3. Ратацыя “штурму”**

Час сакральны падыходзіў –
Люд на Пляц усё сьцякаўся,
Каб прыняць рашэньне.
Дый сатрап вачэй не зводзіў:
Надта ён бяды баяўся –
Дапусьціць крушэньне.

Ходы к Плошчы акружыла
Зграя банды ваяўнічай
І агентаў плойма:
Твар аскаліўся рэжыму, –
Склаўшы дзеі таямніча, –
Жорсткаю абоймай.

Тут спецназ у чорных масках
Строй калоны* зьбіў раптоўна –
Вёў яе **Някляеў**, –
Зьнішчыў устаноўку хватка,
Зьбіўшы лідэра гвалтоўна,
І… ў “нябыт” трапляе.

Ціхароў* у строй прызвалі,
Змагарам каб зблытаць карты, –
Зладзіць правакацыю:
Дзьверы Дома каб сарвалі
Брусам, кіркай ці лапатай –
“Штурму” даць ратацыю…

Тут, аднак, па-маладзецкі
Вёў **Віталя** – стаў замінкай
Для шаражкі здраднай,
Хоць і сам спазнаў па-зьверскі
Важкасьць гумавай дубінкі
Ад братвы праўладнай.

## 4. Разгон дэманстрантаў

Як заўжды, **Калякін*** першым
Выступаў аператыўна
З выспы сімвалічнай:
Рэй свой палкі ён завершыў
Весткай: *“Выбары – фіктыўны.*
*Галасы – не лічаць!”*

Бачыць д’ябал: ля ўвахода
Валтузьня, а дзей – ніякіх:
Штурмам – і не пахла.
І загад аддаў: *“Паўзводна*
*Заганяць у аўтазакі*
*Неданоскаў чахлых!”*

Ліха злыдзень стаў дубінкай
Бэсьціць зьлева і направа
Людцаў непаслушных.
Дык чамусь, хто без затрымкі
Вокны біў*, – ну так яскрава! –
Змыўся паказушна?

Ці ж не знаў ён досьвед змовы,
Як прад камерай здымацца? –
Зух быў правакатар!
Мабыць меў ён установу:
*“Вельмі ўжо не выстаўляцца! –*
*Надта значны фактар”.*

Хто прызваў яго на дзейства –
Правакацыю правесьці
Ўсіх навідавоку?..
Не звычайнай для судзейства
Будзе змова, каб замесьці
Сьлед, нябачны звонку.

**5. Дзікае судзілішча**

Каб сфабрыкаваць суджэньне
Аб намеры зьмены ўлады,
Як бясспрэчны фактар,
Трэ было здабыць сьцвярджэньне
Аб наяўным месцы склада
Зброі для тэракта.

З слушнай мэтай па ўгавору
Д'ябла ў гаражы службіста
Зброю назапасьлі*,
Што магло стаць без разбору
Узбуджэньнем *"справы чыстай"*...
Выйшла ж – не па масьле.

Дый трызьня не спрацавала
Ў лад сьвядомаму скажэньню
*"По стеклу железом"** – .
Думку скрозь і ўмацавала,
Што скампанаваў суджэньне
Д'ябальскі гарэза.

У судовых справах кплівых
Допыт вёўся па заказу
Змоўшчыкаў улады:
Паказаньні іх – на дзіва –
Расссыпаліся адразу:
Факты – без дай рады.

Тым не менш, суд, па якому
Допыт вёўся з парушэньнем
Праў – быў дзікім надта.
Дык судзілі ж па закону
Сатаны: за утварэньне
Масы беспарадкаў.

**6. Рэцыдывы змовы**

Вось і сталі чарадою
Заганяць людзей на нары –
*“Апаганьваць турмы”*.*
Зноў заслалася брудою
Ўся зямелька: зьнiклі мары
Актам працэдурным.

Дый не зганьбілі упартасьць
Змагароў вір-дыктатурай
Ў выбарах чарговых:
Тым не менш, раскрыты карты
Парушэньняў каньюнктурных,
Стаўшых яўю змовы.

І не дзіўна: бруд бясспрэчны
Ўсё прыкметней стаў народу –
Шыла ў мех не скрыеш.
Зьведаў люд: дыктатар грэшны
Патураньнем рады сходу
Спарадзіў нам крызіс.

Сказ такі* быў пры народзе:
*“Ў прагрэсіўны сьвет дзяржаву*
*Я не здатны весьці!..*
*Як ідзем мы, так і пойдзем…*
*Больш сказаць – не маю права,*
*Каб вас не падвесьці”.*

Цэлых годзікаў пятнаццаць
Люд *“мадэлі беларускай”**
Жыў чужым употай.
Сёння ж мусіў сноб прызнацца,
Адхіліўшы поступ “прускі”, –
*“Трапілі ў балота”.*

**Эпілог**

Зьдзек трываць – сябе не ўважыць:
Колькі ж можна *“баіць байкі”*–
Правіць абяцанкай?..
Мусіць гнеў выказваць важкі
Моладзь праз вядзеньне страйкаў
Масавай маўчанкай*.

Разгарнуліся ў прасторы
Віртуальнага фармату
Пошугі змаганьня:
Мэта дзеі – скінуць шоры,
Што надзелі злыдні “брату”
У часы трыванья*.

Не пагас дух дзекабрызма:
Рэвалюцыя праз сайты
Сацыяльнай сеткі*
Вырасла да драматызму –
У “ягнят маўчаньня” байты –
Выпадак сусьветны!..

Скора! Скора акрыяе
Люд ад крыўды беспадстаўнай
У жыцьці сурочым! –
Адраджэньню час спрыяе:
Волі дух бесперастанна
Ў будучыню крочыць.

2-12 ліпеня 2011

# СВАБОДА І СУНІЦЫ

Верш прысьвячаецца змагарам за адраджэньне Духу нацыі пісьменьніку Васілю Быкаву і паэту Уладзімеру **Някляеву**, якому 19.06. 2011 у Бычках на Вушаччыне ля сядзібы Дома-музея Васіля Быкава адбылося ўручэньне прэміі яго імені“За Свабоду думкі” яе заснавальнікам Ал. Мілінкевічам.

*“Праўды прагнуў, насустрач – мана.*
*Волю зваў. Трапіў сам у няволю.*
*Дзе наш Бог, калі скрозь – сатана,*
*Калі сіла злачынна сваволіць?”*

**Васіль Жуковіч**

О, колькі радасьці й сьвятла
Нясе ў сябе ўспамін дзяцінства:
Як у лясок каля сяла
Хадзілі гуртам па суніцы.

Дзяцінства радасьць і ўспрыняў
Васіль – знаток мясцовых звычак, –
Калі ў шпіталі з рук прымаў
Ад сябрука букет сунічак.

Свабоду, як і смак суніц,
Няможна перадаць гаворкай:
Так і няможна аддзяліць
Жыцьцё ад стану праўды горкай.

Васіль жыцьцё з журбой спазнаў
На рубяжы свабоды і рабства.
Таму й Валодзю перадаў
Сваё ўяўленьне гаспадарства.

На зман Валодзі зуб гарыць –
Не церпіць ён крутні ў стасунках!
Таму Рух “**Праўду гавары**!”
Зрадніўся з Воляй у задумках.

За волю думкам – прэмія –
Валодзю ўважыла па праву:
Ўвайшло ў гісторыю імя
За мужнасьць і да волі прагу.

30 чэрвеня 2011

## СПРАВЫ САЮЗА

(Песня Беларускага Незалежнага Прафсаюза.

Саюз незалежных сяброў прафесійна
На шчыт узьнімае бясьпеку, любоў,
Правы грамады на жыцьцё без руціны
І поўныя скрыні надзённых хлябоў.

Прыпеў: Хай справы саюза
Паходні зарніцай
Узносяць бясьпеку
Да боскай любві!
І кожны, каму зьвяз –
Жывая крыніца,
Сяброўскай апекай
Хай дух ажывіць!

Каб век свой пражыць у дастатку дастойна –
Пакінуць для спадчыны памяці сьлед,
Трымацца адзінства ўсім трэба грунтоўна –
Штодзённа адстойваць Дзядоў запавет.

Прыпеў: Хай справы саюза…

Без веры ў цудоўную прышласьць няможна
Свой край адрадзіць у сузор'і шляхоў.
Бо там, дзе люцкое жыцьцё незаможна,
Не зладзіш стваральную працу сяброў.

Прыпеў : Хай справы саюза
Паходні зарніцай
Узносяць бясьпеку
Да боскай любві!
І кожны, каму зьвяз –
Жывая крыніца,
Сяброўскай апекай
Хай дух ажывіць!

16 кастрычніка 2011

# БАЛАДА ПРА ЖЫЦЬЦЁ

(прысьвячаецца анёлу-ахоўніку, які дапамог ўратаваць дзяўчынку ў 1988г. на Камсамольскім возеры ў Ташкенце, будучы на курсах ДТСААФ)

Гэта адбылося дзесьці 16-18 ліпеня 1988г. Апошні дзень курсаў ДТСААФ. У абедзенны перапынак мы хадзілі на Камсамольскае возера, якое было побач, каб адчуць прахалоду вадзяной стыхіі ў душных абдымках сьпякотнага дня. Праходзячы па дзіцячаму пляжу маю ўвагу прыцягнуў насьцярожаны прыжок у воду 6-цігадовай дзяўчынкі. Інструктара і бацькі яе побач не было. Ускокнуўшы ў воду, яна плыла неяк імпульсіўна па кругу. Я працягваў ісьці, але гняла думка: чаму яна так плыла? А калі абярнуўся, то ўбачыў: дзяўчынка ляжала на вадзе нерухома тварам уніз, раскінуўшы рукі. Я зразумеў, што дзяўчынку скаваў д’ябал. Неміnуча была патрэбна хуткая дапамога. Дзятва пляскалася побач, але ўвагі на з’яву не зьвяртала. І тут я ўспомніў выпадак на рыбалцы: лодка з рыбакамі рэзка качнулася і яны аказаліся ў вадзе. Двое, дабраўшыся да берагу, убачылі, што іх сябра няма, была відаць толькі каля перавёрнутай лодкі яго галава, а на пытаньні – не адказваў. Яны зразумелі, што зь іх таварышам здарылася бяда. Але было ўжо позна. Ускрыцьце выявіла: язык ад рэзкага ўдыху закрыў гартань – надышло ўдушша. Марудзіць я перастаў: дастаў з вады дзяўчынку, палажыў яе на калена і зрабіў у грудзі тры рэзкія рухі, якія і выштурхнулі язык з гартані. Затым было праведзена штучнае дыханьне і… да дзіцяці вярнулася жыццё.

Аднойчы я ў сьпякотны дзень
Ішоў дзіцячым пляжам спешна:
Зьвярнуць увагу звабіў цень –
Прыжок дзяўчынкі ў воду грэшны.

У гладзь ускочыўшы вады,
Яна, адчуўшы ад глумленьня,
Шукала выйсце: шок бяды –
Не вызываў майго сумненьня.

Ішоў і мысьленна шукаў
Адказ на стан яе ўзрушэньня:
Матыў змаганья з моракам –
Не выхадзіў з-пад разуменьня.

Свой позірк кінуць вымусіў
Мяне анёл спагаднай долі:
Дзяўчынка ж на вачах ва ўсіх
Ляжала на вадзе без волі.

Вакол дзятва наперабой
Вадою пырскалася ўволю:
Была захоплена гульнёй –
Іх не трывожыў дух няволі.

Я ў момант памяць прагарнуў
І ўспомніў рыбака здарэньне:
Вось так на гладзі развярнуў
Анёл бяды сваё тварэньне.

Марудзіць тут жа перастаў:
Дзяўчынку з гладзі неадкладна
Падняў і сэнс жыцьця прыдаў,
Зрабіўшы рухі ў грудзі ладна.

Ёй дух жыцьцёвасьці ўсяліў
І стаў імітаваць дыханьне.
І… цераз некалькі хвілін
Быў бачны вейкі калыханьне.

Дзяўчынка стала на вачах
Прыкметна шавяліць губамі.
Час абуджэньня азначаў:
Жыцьцё яе – не за гарамі.

Пачуўся скора лёгкі ўздых.
Прыйшла за ім й пара кружэньня:
Анёл засьведчыў – Бог гады
Ёй стаў лічыць без асуджэньня.

Анёл – жыцьцём маім вяршыць.
Ён і ў жыцьці дзяўчынкі гэтай:
У кожным з нас ён у душы
Уважна ходзіць па Сусьвету.

x x x

Заўжды між сьмерцю і жыцьцём
Шукаюць “нітку Арыядны”.
Яе й знайшло ў той час дзіцё,
Бо быў анёл яго – спагадны.

28 кастрычгнка 2011

## ПРАВЫ СЯБРОЎ

Песня Беларускага Незалежнага Прафсаюза
(маршавы варыянт)

Браты і сёстры зьвязам непазбежна
Ўзьнялі на шчыт бясьпеку і любоў,
Правы сяброў Саюза незалежных
І скрынь надзённых, поўныя хлябоў.

Прыпеў: Хай дзеі звяза стануць сказам
Боскіх сіл: усе – для ўсіх!
І ў лад адказам стане разам
Небасхіл: увесь –за ўсіх!

Без веры ў лёс шчасьлівы жыць няможна,
Як сходаў зорак не зьлічыць шляхоў.
А дзе жыцьцё люцкое незаможна,
Не зладзіш спраў без талакі сяброў.

Прыпеў: Хай дзеі зьвяза…

Каб век пражыць у згодзе і дастойна –
Для спадчыны пакінуць яркі сьлед,
Трымацца разам трэба ўсім грунтоўна –
Дзядоў зь дня ў дзень адстойваць запавет.

Прыпеў: Хай дзеі зьвяза…

Саюз сяброў паходняю зарніцы
Асьвеціць шлях да боскае любві.
Каму Саюз жывою стаў крыніцай,
Хай поступ зьвяза душу ажывіць!

Прыпеў: Хай дзеі зьвяза…

16 кастрычніка2011

# ДУХ РАМАНТЫЗМУ

Балада акравершам прысьвячаецца сыну Айчыны Андрэю **Саньнікаву** (н.8.3.1954), змагару за адраджэньне нацыі, прафесіянальнаму дыпламату, экс-кандыдату ў Прэзідэнты РБ, вязьню сумленьня.

*"О. жаль мне праз гэта вас людзі загнаныя,*
*Цёмныя людзі, гаротныя людзі,*
*Жаль, што вы такія праз сьвет пагарджаныя,*
*Жаль, што так жыцца яшчэ доўга вам будзе."*

**Янка Купала**

**А**ндрэй бы маг з нагоды адраджэньня
**Н**астрой жыцьцю намерыўся прыдаць –
**Д**ух рамантызму на крыло падняць:
**Р**аботу зладзіць згодна з азначэньнем –
**Э**пічным ладам з'явы тлумачэньнем
**Ю**доль Айчыны дзейсна аднаўляць.

**А**ле ў жыцьці не проста так даецца
**Л**юбоўным падыходам да людзей
**Е**ўропы Хартыю* на шчыт падняць:
**Г**арэзны лёс, як сьведчыць час падзей,
**А**нёл цярпімасьці рашыўся ўзьняць
**В**а ўлоньні самажэрнага шаленства.
**І** вось у асяродку скрушных дзей
**Ч**ароўны дух рамантыкі з маленства
**У** крэда стаў узводзіць чарадзей.

**С**ваю Айчызну, каб уратаваць
**А**д панаваньня думкі меркантыльнай
**Н**атуры ганарлівай й хваткі стыльнай,
**Н**а Плошчу запрасіў змагар людзей…
**І**мжой маны, каб трон свой захаваць,
**К**аманду справіў жорстка ліхадзей –
**А**гнём свавольля зграі па-бандыцкі
**В**яршыў бяду: рамантыку надзей
**У**раз скарыў зацятасьцю вятрыскі.

21 сьнежня 2011

* А.Саньнікаў – адзін зь ініцыятараў "Хартыі'97".

# ДУХ НАДЗЕЙ

Трыялет прысьвячаецца рамантычным настроям падзей 19 сьнежня 2010г., якія выліліся ў выступленьне мас на Плошчы, каб выказаць супраціў фальсіфікаваным прэзідэнцкім выбарам з патрабаваньнем іх пераправядзеньня. Але надзеі даверлівага народа не збыліся.

*“Беларусь, Беларусь!*
*Бачыш гэтую рань?*
*Скінь закляцьце зь сябе!*
*Схамяніся і ўстань!”*

**Ніл Гілевіч**

У капцюрах дыктатарскай улады
Гартуецца скаваны дух надзей:
О, не зьнявечыцца парыў людзей
У капцюрах дыктатарскай улады!

Настроі Плошчы сьнежанскіх падзей
З’явіліся ў жыцьці не без дай рады:
У капцюрах дыктатарскай улады
Гартуецца скаваны дух надзей.

19 сьнежня 2011

# ЗРАТУЕМ АЙЧЫНУ!

Трыялет прысьвячаецца становішчу, у якім апынулася Айчына па віне калабарантаў, якія, здаўшы родную мову, дзеля захаваньня свайго карумпіраванага апірышча гатовы прадаць і нацыянальныя каштоўнасьці: землі, прадпрыемствы і карысныя выкапні.

*“Радзіма сталася таварам!*
*Як на такой Радзіме жыць?”*

(З паэмы У.**Някляева** “Паланэз”)

На вахце непадкупнасьці стаяць –
Доўг чэсьці кожнага не без прычыны:
Калабарант не здольны годным чынам
На вахце непадкупнасьці стаяць.

На раздарожжы лёс стаіць Айчыны –
“Ніць Арыядны” трэба выяўляць:
На вахце непадкупнасьці стаяць –
Доўг чэсьці кожнага не без прычыны.

31 сьнежня 2011

# АГОНЬ ДРАКОНА

Верш прысьвячаецца Валянціне Тупічынай, якая нарадзілася ў год Дракона (19 лютага 1952г.) – непараўнальнай у сваіх адносінах да выкананьня любой справы, за якую б яна не бралася, каб уразіць сябра, ў сувязі з гадавінай нашага знаёмства.

*"На самай дробнай і адказнай працы*
*Пакінуць можна незабыўны сьлед".*

**Сяргей Грахоўскі**

Анёл спагадлівы зь нябёс
Усё шчыруе Валянціне:
Агонь Дракона ў стыль узьнёс,
Каб не скарыўся дух руціне.

Сваю энергію жыцьця
Душа імкнецца уладарна
Сябрам і блізкім перадаць
І стаць асобай сьвятазарнай.

Яна ў расьцвеце творчых дзей
Заўжды трымаецца паставы –
Хадзіць у рэчышчы ідэй
Пад сонцам гаманлівай славы.

На ніве паўсядзённых спраў –
Ці сшыць мадэль, ці кветнік зладзіць,
Ці прыгатовіць смачных страў –
Ва ўсім яна імкнецца ўразіць.

Дык хай агонь яе душы
Зіхцее промнямі Дракона
І ў год ягоных дзей блішчыць
Яшчэ больш яркаю каронай.

І хай анёл душу ўзьнясе
Ў палёце пранікнёным танцам
Да самай велічы ў красе,
Каб зоркай яркаю назвацца.

27 сьнежня 2011

# СЬВЯТЛО ХАНУКІ

Ханука – гэта габрэйскае **сьвята сьвятла**, якое прыпадае да нашых Калядных сьвятаў. Верш напісаны як развага на зварот*, які быў дасланы Аляксрам **Надсанам** з Лондана ў сувязі з Калядамі для беларусаў-католікаў 2011.

*“Дабро ў жыцьці – як перамога*
*Над чорнай апрамецьцю зла.*
*Дык будзем жа часьцінкай Бога,*
*Ягонай праўды і сьвятла”.*

**Ларыса Геніюш**

Яшчэ калі Хрыстос не нарадзіўся
І сьвет тануў у *“апрамецьці зла”,*
Народ габрэйскі д’яблу не скарыўся
І вера ў Збаўца радасьць прынясла.

Яна прыйшла скрозь покрыва пакуты,
Традыцый захаваўшы добры стан:
Не паддалася зваблівай спакусе –
Прыняць чужога культа здрадны сан.

І твар габрэйскі ганарыцца можа
Сьвятлом Ханукі – радасьцю зіхціць:
Габрэй не мог трываць пары нягожай,
Таму сьвет ісьціны над ім не кпіць.

І як папрок народу ў праваслаўі,
Які падпаў наўмысна ў пераплёт:
Ён выканаўцам дзеі стаў бясслаўным –
Яму незразумелы здрады ўзьлёт…

Прыціх загнаны люд у паняверцы
І цягне лямку рабскага жыцьця:
Калі ж чужой ён веры* скіне дзьверцы?
Калі ж устане памяць з забыцьця?

x x x

Дык хай сьвятло Хрыстовае Ханукі
Спагадай праліваецца ў душы!
Хай вераю жывою* – без прынукі –
Яно жыцьцём абуджаным вяршыць!

3 студзеня 2012

# ЧАС АДПЛАТЫ ПРЫЙДЗЕ!

Нататка апублікавана ў газ.“Народная Воля” ад 8 лютага 2011 з нагоды згвалтаваньня абаронцаў праўды, прыйшоўшых на Плошчу 19 сьнежня 2011, каб выказаць свой пратэст супроць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў .

*“Натхнёныя сьвятлом Хрыстовай веры*
*Мы выйдзем, выйдзем на прастор-разлог!*
*І лягуць прахам д’яблавы хімеры!*
*І блаславіць нас на змаганьне Бог!*

*І запануе воля ў нашым стане,*
*Жыцьцё памкне свабодна, як рака,*
*І першым сьвятам Бацькаўшчыны стане*
*Дзень Дваццаць Пятага Сакавіка”.*
(верш “Наша Сьвята” **Ніла Гілевіча**)

Паважаныя вязьні Свабоды – змагары за праўду!

Я, Мікола Шаравар – ваш сапраўдны аднадумец. Ад імя такіх жа змагароў, як і вы, – Людмілы Бялькевіч, Алеся Валабуева, Міколы Малышчыца, Ларысы Насановіч, Івана Шылы, Васіля Юркіна і іншых, – прашу вас не падаць духам і трымацца. Знайце, што прыйдзе час адплаты для фальсіфікатараў выбараў і арганізатараў правакацый на плошчы Незалежнасьці 19 сьнежня 2010г. за вашы слёзы і пакуты, за хлусьню, якая патокам ліецца з дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Час адплаты прыйдзе і для тых, хто, страціўшы сумленьне, тыражыруе міфы аб нейкім рыхтаваўшымся перавароце, аб тым, што аўтобусы каманды Уладзіміра Някляева былі напоўнены выбуховымі рэчамі. Але ж міф аб трох аўтобусах быў адразу ж пахаваны на прэс-канферэнцыі дзякуючы сьведчаньням журналіста “Народнай Волі”.

Сёньняшнія дзеяньні ўлад у многім нагадваюць той час, калі адбываліся судзілішчы над Міхаілам Марынічам, Аляксандарам Казуліным і Міколам Аўтуховічам.

Ведайце, шаноўныя змагары за дэмакратыю, што мы разам з вамі будзем рабіць усё, каб праўда перамагла.

# З ПАКАЛЕНЬНЯ Ў ПАКАЛЕНЬНЕ

Нататка апублікавана ў газ.“Наша Слова” ад 2 сакавіка 2011г. з нагоды правядзеньня IV-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі.

*“Я хацеў бы спаткацца з Вамі*
*на вуліцы*
*У ціхую сінюю ноч*
*І сказаць:*
*– Бачыце гэтыя буйныя зоркі,*
*Ясныя зоркі Геркулеса?*
*Да іх ляціць наша сонца,*
*І нясецца за сонцам зямля.*
*Хто мы такія?*
*Толькі падарожныя –*
*папутнікі сярод нябёс.*
*Нашто ж на зямлі*
*Сваркі і звадкі, боль і горыч,*
*Калі ўсе мы разам ляцім да зор?*
**Максім Багдановіч**

21 лютага ў Міжнародны дзень роднай мовы згодна з прапановай Рады ГА “ТБМ імя Фр. Скарыны” ў напісаньні IV-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі, прысьвечанай 120-годзьдзю зь дня нараджэньня Максіма Багдановіча, на прыватнай кватэры аднаго з дамоў г. Салігорска прынялі ўдзел 8 чалавек: 3 вучні, 3 асобы сярэдняга ўзросту і 2 пенсіянеры. У якасьці тэксту было скарыстана адаптаванае эсэ паэта “Хто мы такія?”, якое было напісана ім яшчэ ў 1915 годзе.

Такім чынам, была праведзена як бы эстафета па зьберажэньні роднай мовы, пачатая паэтам у змрочныя часы імперскага прыгнёту народа ў складзе Расеі праз памкненьні спадкаемца спадчыны – аўтара гэтых радкоў, якому ўжо 74 гады, – да сучаснага маладога пакаленьня ў асобах 14-гадовага Стася Краўчэні, 10-гадовай Марыны Буянавай і 9-гадовай Сашы Зубаравай.

Дыктоўка прадаўжае свой шлях на гонях Бацькаўшчыны. Ужо 22 лютага аўтарам гэтых радкоў была праведзена дыктоўка з сябрамі Савета грамацкай арганізацыі пенсіянераў Беларускага незалежнага прафсаюза.

## ПРАЎДА–ў КОЖНАГА, а БЕЛАРУСЬ – АДНА

(Нататка апублікавана ў рэгіянальнай газеце "Інфа **Кур'ер**" ад 24 сакавіка 2011, разгарнуўшая на сваіх старонках спрэчкі пра выбары і "крававай нядзелі" 19 сьнежня 2010 у Менску.

*"Калі хоць кропля гонару жывая*
*Ёсьць у тваёй істоце, беларус –*
*Скажы: няўжо душа твая стрывае*
*Над ёй, жывою, гэты гвалт-прымус?*

*Няўжо й далей цярпець ты будзеш*
*зьдзекі –*
*Над горам Маці дзікуноў азарт?*
*І прымеш стан нікчэмца-недарэкі,*
*Які нічога сам сабой не варт?*

*О, братка мой! Якой віхурай-бурай*
*Цябе ўзбудзіць, ускалыхнуць, падняць,*
*Каб ты расстаўся з немаччу панурай,*
*Каб ты свой лёс у рукі змог узьняць?"*

(Верш"*Скажы!..*" **Ніл Гілевіча**)

З болем на душы ўспрыняў я нататку *"Паміж праўдай і няпраўдай"* у "ІК" ад 24 лютага са шчырымі прызнаньнямі нашых суразмоўцаў, выгадаваных на міфах аб *"сусьветнай змове супраць Беларусі"*. Адзін зь іх (Міхаіл Масюк) упэўнены, што выбары ў нас былі свабодныя, дэмакратычныя, і шкадуе, што *"мала арыштавалі злачынцаў перавароту"*, што на Плошчы ўладзе *"трэба было прымяніць газ, халодную ваду, як гэта робіцца ў многіх краінах Еўрасаюза"*.

У гэтай сувязі хочацца спытаць у Масюка: ці дамагаўся ён права назіраць за выбарамі альбо быць членам участковай камісіі, каб пазнаць ісьціну? Вядома ж не. Бо калі б ён пабачыў, як нахабна падлічваюць галасы, то так бы не размаўляў, а пайшоў бы на Плошчу і паглядзеў, як і хто стварыў *"пераварот"*. Я ўпэўнены, што ніякіх свабодных дэмакратычных выбараў у нас не праводзілася і ніякага *"ўзброенага перавароту"* не ставалася.

На працягу свайго 74-гадовага жыцьця я таксама верыў у сьветлую будучыню, якую нам абяцалі, пакуль не пераканаўся, што жыцьцё ў цемры, дзе на пярэднім плане стаіць хлусьня, – ахінея, з якой трэба змагацца. Па гэтай прычыне песьню са словамі *“Я другой такой страны не знаю, где так вольно дышит человек”* я ўспрымаю з уздрыгам, як зьдзек над чалавечай сутнасьцю. Я пераканаўся ў гэтым, калі азнаёміўся з кнігай Таццяны Працько *“Станаўленьне савецкай таталітарнай сістэмы ў Беларусі (1917-41)”.*

Васіль Быкаў пісаў: *“Бойся не воўчай зграі. Чалавечая зграя намнога страшней”.* Гэтай фразай пісьменьнік перасьцярагае народ ад той нягоды, што чакае нас, калі мы не пазбавімся ад хлусьні, якая замбіруе чалавечыя душы да становішча быдла, якім можна кіраваць, а таксама рабіць зь іх паслухмяных паслугачоў як у час падліку галасоў, так і ў фабрыкацыі сцэнарыяў, па якім можна згвалціць ці зьняважыць асобу. І гэта вельмі страшна.

А каб паверылі нашыя чытачы ў “справядлівы” падлік галасоў, які стаў сапраўднай прычынай ісьці на Плошчу, а не для зьвяржэньня ўлады, як гэтага дамагаецца галоўны стваральнік міфа аб *“сусьветнай змове”*, то я прапаную далучыцца да маючых адбыцца ў 2012 годзе парламенцкіх выбараў і прыняць удзел у якасьці назіральніка ці члена участковай камісіі шляхам збору 10 подпісаў.

І яшчэ: ісьціну можна спасьцігнуць, калі вы прыйдзеце на ўчастак у дзень выбараў за 15-20 хвілін да іх заканчэньня. І вы ўбачыце, што на вашым лісьце спіска выбаршчыкаў большая частка граф, дзе павінен быць роспіс аб атрыманьні бюлетэня, пустая. Гэта значыць, што на выбары ходзяць (у сваёй большасьці – пад прымусам, каб не страціць кантракт па працы) каля паловы выбаршчыкаў, а не 95%, як гэта аб’яўляе цэнтрвыбаркам.

Вось такая праўда нашага жыцьця.

# БЕЗРАЗВАЖНЫ ГАНДАЛЬ

(Нататка апублікавана у “Народнай Волі” за №91 ад 21 чэрвеня 2011 у сувязі з гатоўнасьцю прадаць маёмасьць, каб пагасіць крэдыт).

Чуткі аб продажы “Беларуськалія” ходзяць ужо з тых пор, як замянілі шыльду прадпрыемства і яно стала адкрытым акцыянерным таварыствам. Спачатку гэта было таямніцай, за якой скрываліся хітрыкі нашага кіраўніцтва. Але сёньня сталі рэальнасьцю. І гэта вельмі трывожна.

Калі раней на працягу 15-ці гадоў згодна прагматычнай ідэалогіі міфічнага разьвіцьця краіны пад назвай “беларуская мадэль”, скіраванай на атрыманьне выгады не шляхам укараненьня інавацый і прыцягненьня інвестыцый, на якія ўказваў яшчэ акадэмік Аляксандар Вайтовіч, а за кошт датацый ад продажу расійскай нафты, то мы яшчэ неяк трымаліся на плаву і латалі прарэхі кіраўніцтва. Сёньня ў гэтую мадэль веры няма.

За дапушчаны фінансавы крызіс у цывілізаваных краінах кіраўнік дзяржавы сыходзіць у адстаўку, а ўрад распускаецца. Але ў нас няма каму гэтага дабівацца. Абраны ”кішэнны” парламент – вотчына ўлады. І, вядома ж, секчы сук, на якім сядзяць, дэпутаты не будуць.

Улада хапаецца за любую рэч, што на плаву, У нас жа на плаву – “Беларуськалій”, прадпрыемства, якое, дзякуючы багатым нетрам, дае не толькі валюту, але і мае бязьмерную каштоўнасьць для будучых пакаленьняў. І яго ўлады ўжо гатовы прадаць, толькі б выратаваць сваё рэнамэ. Калі ж такое здарыцца, то ні наша краіна, ні наш горад – у першую чаргу – не будуць мець ужо тых выгад і падстаў, каб па-свойму распараджацца як запасамі нетраў, так і назапашанымі тэрыконамі, якія маюць (трэба прадбачыць) можа яшчэ большую каштоўнасьць, чым калій ці натрый.

Дастаткова прыгадаць нагоду продажу Расіяй у 1867г. Аляскі зь яе незлічоным багацьцем, якія былі ацэнены ў тыя часы ў суме толькі 7,2 млн. дол. А хто сёньня можа даць ацэнку нашым нетрам і нашай незалежнасьці? А хто можа даць ацэнку стратам ад пашкоджаньня зямель і атручваньня прасторы? Хіба толькі дылетант, для якога нічога няма каштоўнага.

Таму я супроць безразважнай зьдзелкі, якую можна лічыць не інакш, як выратавальным кругам тапельца. Гэта трэба разумець і не рабіць пасьпешных крокаў. Бо нашчадкі нам не даруюць.

# ЗВАРОТ

Да міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь А.В.Праляскоўскаму аб спыненьні справы па закрыцьцю газет “Народная Воля” і “Наша Ніва”. Зварот быў апублікаваны ў газеце “Народная Воля” 26 траўня 2011. Зыскі аб закрыцьці газет былі адозваны 13 і 12 ліпеня адпаведна. Аб чым нам і паведамілі галоўныя рэдактары газет І.П.Сярэдзіч і А.Г.Скурко. (“Народная Воля” – 15 ліпеня, а “Наша Ніва” – 13 ліпеня).

Я, Шаравар Мікалай Лазаравіч – аматар гісторыі, з паведамленьняў СМІ даведаўся, што Міністэрства інфармацыі, прасьледуя мэту пагрузіць грамадзянскую думку аб сучасным становішчы нашага народу ў цемру, даслала ў суд зыск аб закрыцьці народам любімых газет “Народная Воля” і “Наша Ніва”.

Я, як сапраўдны спадкаемца нашай гістарычнай спадчыны, шчыра жадаю чытаць гэтыя выданьні, якія незаангажаваны праўладнай ідэалогіяй прагматызму і кан’юнктуршчыны. Я жадаю чытаць праўдзівую інфармацыю аб нашым жыцьці, якая не паралізуе сьвядомасьць мас і не замбіруе душы народа, бо выдаваемая гэтымі выданьнямі інфармацыя падаецца з featureнага пункту гледжаньня, што адпавядае нормам, прапісаных у артыкулах 33 і 34 Канстытуцыі РБ. Спроба закрыць гэтыя СМІ груба парушаюць дадзеныя ёю нормы і мае канстытуцыйныя правы на свабоду меркаваньняў і іх свабоднае выказваньне.

Прашу Вас адклікаць позву пра спыненьне выпуску “Народнай Волі” і “Нашай Нівы”.

Адказ на мой зварот прашу даць у парадку і ў тэрміны, прадугледжаныя законам *“Аб зваротах грамадзян”* з абгрунтаваным доказам на закрыцьцё гэтых выданьняў.

Адказ быў атрыманы тэрмінова, але без абгрунтаваньняў для закрыцьця.

# НЕ МАГУ МАЎЧАЦЬ

## ці **КОНЕЙ НА ПЕРАПРАВЕ НЕ МЯНЯЮЦЬ ТОЛЬКІ ДЭМАГОГІ**

**(У РУБРЫКУ "ДЫСКУСІЯ")**

Паважаны Іосіф Паўлавіч! Апублікуйце, калі ласка, мой ліст у любімай газеце з маім фота. Сумленьне не дазваляе маўчаць, калі такія вяшчуны, як апалагет улады Раман Ананьнеў і яму падобныя, скажаюць нашу рэчаіснасьць і ганьбяць нацыю сваёй няшчырасьцю. Я хачу ім запярэчыць.

Не магу зьмірыцца як зь яго меркаваньнем, што "*ряд публикаций в* (нашем) *издании... не всегда объективные*" (Хлусьня! Гэта – галаслоўная заява! У такіх выпадках трэба было б яе падмацаваць прыкладам), так і з духам ухваленьня дыктатуры, якая яму даспадобы, прадэманстраваўшы сваю любоў у нататцы *"Не бейте под дых моего президента!"* (чытай "Народную Волю за 29 ліпеня 2011). Узгадваюцца словы вядомага гісторыка Генадзя Сагановіча: *"Раб заўсёды хваліць тырана і моцную дзяржаву"*. Менавіта на такіх рабах-дэпутатах *кішэннага* парламента і трымаецца сёньня ўлада. Гэта – зьдзек над нацыяй! Лічу, што аўтар выканаў палітычны заказ (*кукушка хвалит петуха*), скарыстаўшы прынцып плюралізма думак (дый яшчэ і з фота), якім кіруецца наша газета ў адрозненьні ад дзяржаўных. Нябось маю нататку П.Якубовіч не зьмесьціць.

Не магу згадзіцца з аўтарам не таму, што ў мяне сваё стаўленьне да кіраўніка краіны не толькі за яго фальсіфікаваную "*беларускую мадэль*", зганьбіўшы сваім прагматызмам нацыю і завёўшы краіну, як гэта ён сам сказаў "*у балота, у якое мы трапілі*", але больш за тое, што вось такія апалагеты ўлады як ананьевы, сяргеевы (судзьдзя Канстытуцыйнага Суда РБ Вольга Сяргеева выступала 15 сакавіка 2010 па радыё у праграме "актуальны мікрафон"), новікавы (прафесар, доктар эканамічных навук Ірына Новікава ўхваляла "беларускую мадэль" па радыё 30 чэрвеня 2011) і другія вяшчуны хлусьні замбіруюць душы людзей.

Не магу згадзіцца з аўтарам, што "*в новейшей истории Беларуси он из территории сделал страну по-настоящему гордую, независимую...*" Тут я вымушаны напомніць, што такою стала наша краіна дзякуючы намаганьням акадэміка Станіслава Шушкевіча і змагароў за адраджэньне нацыі Зянона Пазьняка і яго аднадумцаў. А не будзь такіх рыцараў змаганьня за адраджэньне нацыі, як Аркадзь Смоліч (чытай яго "*Геаграфію Беларусі*"), Язэп Лёсік (чытай яго вучэбнікі па гісторыі і граматыцы беларускай мовы), апосталаў спадчыннасьці як Вацлаў Ластоўскі, Усевалад

Ігнатоўскі, Антон Луцкевіч, Пётр Крачэўскі і другія дзеячы БНР, якіх бальшавікі зьнішчылі, каб нацыя *“ўмёрла”*, то наўрад ці сёньня яму прыйшлося выступаць з высокай трыбуны і несьці несуразіцу. Аднак нацыя ўваскрэсла, хоць такія як ён і грэбуюць яе мовай. Ганьба здраднікам нацыі! Не трэба падлашчвацца і заводзіць народ у зман!

Не магу згадзіцца з аўтарам, што *“в стране практически искоренено такое понятие, как “воры в законе” и криминальное* “*крышевание*” *любога вида бизнеса”*. Скажыце, калі ласка, а фальсіфікацыя выбараў (я сведка, як галасы не лічаць, будучы назіральнікам ад БХК) і зьдзелкі на сусветным рынку зброі – не крымінал? А латарэйны бізнес? Дзе мы бачым іх вынікі? Дзе скрытыя мільёны ад нафтавай датацыі? (Я пісаў аб гэтым у нашай газеце). Дзе яны скарыстоўваюцца? А судовыя справы над М.Аўтуховічам, над кандыдатамі ў прэзідэнты і над тымі, хто шукае праўды – не крымінал? Досьць несці лухту!

Не магу згадзіцца і з другімі вартасьцямі нашай улады, тыпу: падтрымка прадпрымальніцтва і скарыстаньня інвестыцый ці адсутнасьці бамжэй і папрашаек. Ізноў такі скажу: гэта – галаслоўная заява. Яшчэ акадэмік Аляксандар Вайтовіч, будучы пры ўладзе, выступаў за прыцягненьне інвестыцый і інавацый ў сферу вытворчасьці, за што быў зьняты з пасады. Да чаго ўсё гэта прывяло? Мы сёньня бачым – *у балота*. А статуэткі “*лучшим бизнесменам*” – бутафорыя і яўная прафанацыя!

А наконт папрашаек, то афіцыйна заяўляю, што каля нашай царквы, якая ўзводзіцца на вул. Заслонава (дарэчы, згодна з рашэньнем Салігорскага райвыканкама №1991 ад 14.11.2008г. на прадпрыемствах з лістапада 2008 штомесячна нібыта па заяўкам рабочых і служачых вылічваецца 20% аднадзённага тарыфнага акладу: вось прыклад таго, як наша ўлада спрыяе ўзнясеньню праваслаўнай веры на чужынскай мове у ранг паноўнай, каб нацыя “*ўмёрла*”) я не адзін раз бачыў жыльца, родам з вёскі Дарасіно, з працягнутай шапкай. Бачыў і другіх папрашаек каля магазінаў. Праўда міліцыя заўжды іх ганяе. Што тычыцца бамжоў, дык вось той жа вядомы ўсім праваабаронца Валер Шчукін – адзін зь іх. Будзь шчыры, Ананьнеў!

І вельмі шкада, што за такіх рабоў як Ананьнеў *“всегда кто-то думает и решает”*. Бо коней на пераправе не мяняюць толькі дэмагогі, якіх і трымае ля сябе брутальная ўлада дзеля сваёй жа карысьці.

29 ліпеня 2011

P.S: Вышэй названы ліст “**Не магу маўчаць**” быў напісаны ў дзень дастаўкі газеты “Народная Воля” 29ліпеня 2011г. і адпраўлены па почце заказным пісьмом з уведамленьнем 30 ліпеня ў суботу. У рэдакцыю пісьмо паступіло толькі ў сераду 3 жніўня. Уведамленьне ж аб атрыманьні пісьма я атрымаў 4 жніўня. Паўстае пытаньне: дзе, у якіх апартаментах трымалі пяць дзён (хай тры) маё пісьмо? Але, калі з артыкула былі выкінуты факты, якія кампраметуюць ўладу, і арышт служыцеля праваслаўнага культу Мікалая Розава (за якія грашы ён адбудаваў свае харомы ў”Памесьці”?), то становіцца ясным: цэнзура дыктатуры працуе выдатна.

"Народная Воля" ДЫСКУСІЯ ад 9 жніўня 2011

# Не скажайце рэчаіснасць...

***Паважаны Іосіф Паўлавіч! Апублікуйце, калі ласка, мой ліст у любімай газеце з маім фота. Сумленне не дазваляе маўчаць, калі такія вешчуны, як адвакат улады Раман Ананьеў і яму падобныя, скажаюць нашу рэчаіснасць і ганьбяць нацыю сваёй няшчырасцю. Я хачу ім запярэчыць.***

Не магу змірыцца як з меркаваннем, што *"ряд публикаций в (нашем) издании... не всегда объективные"* (Хлусня! Галаслоўная заява!), так і з духам ухвалення дыктатуры, якая яму, Ананьеву, даспадобы. Узгадваюцца словы вядомага гісторыка Генадзя Сагановіча: *"Раб заўсёды хваліць тырана і моцную дзяржаву"*. Скажу адкрыта: менавіта на такіх рабах-дэпутатах "кішэннага" парламента і трымаецца сёння ўлада. Гэта — здзек над нацыяй! Лічу, што аўтар выканаў палітычны заказ, скарыстаўшы прынцып плюралізму думак, якім кіруецца "Народная Воля".

Не магу пагадзіцца з аўтарам не толькі таму, што ў мяне сваё стаўленне да А.Лукашэнкі, не толькі таму, што сваёй *"беларускай мадэллю"*, сваім прагматызмам ён зганьбіў нацыю, завёў краіну, як ён сам выказаўся, *"у балота, у якое мы трапілі"*, але больш за ўсё мяне абурае тое, што вось такія ананьевы, новікавы, сяргеевы і другія кан'юнктурныя вешчуны хлусні замбіруюць мільёны людзей.

Не магу пагадзіцца з аўтарам, што *"в новейшей истории Беларуси он из территории сделал страну по настоящему гордую, независимую..."* Тут я вымушаны напомніць, што такою стала наша краіна дзякуючы намаганням члена-карэспандэнта Станіслава Шушкевіча і змагароў за адраджэнне нацыі Зянона Пазьняка і яго аднадумцаў. А ці ж можна забыць уклад у змаганне за адраджэнне нацыі Аркадзя Смоліча (чытай яго "Геаграфію Беларусі"), Язэпа Лёсіка (чытай яго вучэбнікі па гісторыі і граматыцы беларускай мовы), уклад такіх апосталаў спадчыннасці, як Вацлаў Ластоўскі, Усевалад Ігнатоўскі, Антон Луцкевіч, Пётр Крачэўскі!

Не магу пагадзіцца з Ананьевым, што *"в стране практически искоренено такое понятие, как "воры в законе" и криминальное "крышевание" любого вида бизнеса"*. Проста ў нас гэтыя ганебныя з'явы набылі іншую афарбоўку. Вазьміце любога нашага алігарха — хто яго апякае, з кім ён сябруе, на якіх сувязях трымаецца яго бізнес?

А як улады распраўляюцца з тымі, хто становіцца ўпоперак дарогі, хто выводзіць іх махлярства на чыстую ваду? Выступіў супраць чыноўнікаў-карупцыянераў Мікалай Аўтуховіч з Ваўкавыска — яго адразу кінулі ў турму. А дзе зараз тыя, хто выступіў супраць фальсіфікацый падчас выбараў? Таксама ў турме.

Не магу пагадзіцца з тым, што ў нас няма ні бамжоў, ні папрашаек. Ёсць і адны, і другія. Толькі першыя спакойна адчуваюць сябе ля магазінаў, а другіх ганяе міліцыя.

І яшчэ. Вельмі шкада, што за такіх, як Ананьеў, "всегда кто-то думает и решает". А коней на пераправе не мяняюць толькі дэмагогі, якіх і трымае пры сабе брутальная ўлада дзеля сваёй жа карысці.

**Мікола ШАРАВАР,**
**выпускнік ВПШ, пенсіянер,**
**сябра Беларускага**
**Хельсінкскага камітэта.**

*г.Светлагорск.*

# ЯК УЛАДА РАБУЕ НАРОД

(Нататка апублікована са скарачэньнямі ў ”Народнай Волі” 2 верасьня 2011 пад загалоўкам “**Як можна гэтым ганарыцца?**” У ім не зьмешчаны 1-шы, 4-ты і 5-ты абзацы, якія пазначаны знакам*).

* У апошнім нумары (ад 26 жніўня) Святлана Калінкіна ў эсэ “Аферисты на доверии” праўдзіва распавяла нам, як наша ўлада “особым путём” (на розніцы афіцыйнага і рыначнага курсу валюты) давяла краіну да банкруцтва, сьвядома ствараючы ўмовы для абагачэньня адных і кідаць у прорву другіх. Гэта ж – злачынства, якое ўзаконена дзяржавай! Як такое можна трываць!?

Днямі (25 жніўня) я пачуў, як кіраўнік нашай дзяржавы заявіў, што *“курс, который определён, будет действовать и дальше, и ситуация будет развиваться в том направлении, в котором будет обозначено президентом”.* Удумайцеся, чытачы, у сэнс гэтай абяцанкі “*будет…будет…будет*”. Колькі ўжо было такіх “*будем*” і “*будет*”? Але, як бачым – воз і зараз там, у “*балоце*”. Калі ж гэта будзе курс такі самы, які склаўся сёньня і будзе бяззуба падтрымліваецца атрафіраванай ўладай, то ў прорву безыдэйнасьці скоціцца не толькі “*талерантны*” народ, але і “*квітнеючая*” краіна, якая на думку таго ж манілаўскага героя бачыцца толькі ў ружовым сьвятле.

Але я яшчэ хачу развіць думку аб ролі розніцы курсаў валют. Менавіта за кошт гэтай розніцы дзяржава атрымала за тры месяцы станоўчы гандлёвы баланс і прыбытак у эканоміцы каля 10%, што дало права ганарыстаму кіраўніку заявіць, што наша краіна на “*ўзлёце*”, хаця гэты ўзлёт кожны наш грамадзянін мерае таўшчынёй свайго кашалька. Гэта ж чыстае рабаваньне народа сярод белага дня! Як такое трываць, каб на чужым горы будаваць паветраныя палацы? І як можна гэтым ганарыцца?

* Гэтым можа ганарыцца толькі манкурта, які не ведае (а можа і ведае, ды закрывае вочы), што такой завуаліраванай хвальбой замбіруецца даверлівая душа, якая наіўна верыць у бракадабру.

* І яшчэ. Дэвальвацыяй нашага рубля, якая была зьдзейсьнена ў траўні, народ у адзін час страціў у банках каля 1,5млрд. долараў. Я лічу, што на гэтую суму дзяржава адразу пакрыла частку дэфіцыту валютнага запасу. Гэта яшчэ адзін шлях рабавання народа, каб выратаваць эканоміку, якая спаўзла ў “*балота*”, а сам курс яе трашчыць па швам.

Дык куды ж мы ідзём, улада? Задумайся!

# ЯКІ Ж ПАТРЭБЕН ДЫЯЛОГ?

(Нататка апублікавана ў "Народнай Волі" 14 кастрычніка 2011).

У СМІ шмат гаворыцца наконт дыялогу з уладай, без падстаў лічачы вінаватымі сумленных дзеячаў. (Нататка Дзяніса Рабянка "Хлопцы, дзе ваша шчырасьць?", апублікаваная ў "НВ" ад 6.10. 2011). У гэтай сувязі я хачу паразважаць аб карыснасьці канкрэтнага фармату ўдзелу ў дыялогу

Як вядома, патрэбу ў дыялогу выказаў наш вядомы палітык у сувязі з пагаршэньнем сацыяльна-эканамічнага стану краіны, які засьведчыў крах сучаснага рэжыму і яго міфічнага гаранта стабільнасьці – хвалёнай "беларускай мадэлі", якая трымаецца не на развіцьці прадукцыйных сіл за кошт інавацый і інвестыцый, а на падачках Расеі. Бо, каб трымаць народ на аброці, трэба жыць не па сродках. Галоўная мэта – адцягнуць яго ўвагу ад гэтай бяды і скіраваць віну на сусьветны крызіс. Таму тут трэба адрозьніваць формы дыялогу, бо ўся справа ў фармаце ўдзелу і зьмесьце дыскусіі. Кожны па-свойму праў.

Адзіны палітык хацеў ажыцьцявіць свой фармат – так званы "круглы стол", дзе маглі б сустрэцца аксакалы апазіцыі з прадстаўнікамі ўлады, якія нічога не рашаюць. Але яму трэба было, каб сьвет пабачыў, што апазіцыя прызнае яго легітымнасьць і, такім чынам, захаваць уладу. З гэтым нельга пагадзіцца. Бо і на самай справе – гэта марная праца: таўчы ваду ў ступе.

З другога боку Андрэй Саньнікаў, Уладз-ер Някляеў, Анатоль Лябедзька і др. бачаць форму дыялогу толькі пры ўмове вызваленьня беспадстаўна асуджаных палітыкаў і правядзеньня сумленных выбараў. Для адзінага гэта значыць здаць уладу. На такую форму адносін ён ні ў якім разе не пойдзе, нават за абяцаныя ЕС 9 млрд. дол. Такога дыялогу таксама не будзе!

Яшчэ існуе і такая форма адносін як кропкавы дыялог, якога прытрымліваюцца такія апосталы духу нацыі, як Леанід Лыч, Адам Мальдзіс, Алег Трусаў і др. Публікацыя А.Трусава (адказ на рэпліку М.Канаховіча) ў тым жа нумары "Н.В" яскрава пацьвярджае яе жыцьцядзейнасьць. Бо бязьдзейнасьць ва ўмовах дыктатуры не прымальная! Мы ўжо 300 гадоў дэманстравалі сабачую пакорнасьць і выхавалі ў сабе такую хвалёную адметнасьць, як талерантнасьць, а таксама такія пошасьці, як страх, здрада і зман, якія зводзяць людзей да становішча раба. І змагацца з бязьдзейнасьцю вельмі як насьпела. Таму трэба вылучаць такія тэмы, якія зьвяганы з сутнасьцю рэальнага жыцьця.

# ТОЛЬКІ БАЙКОТ!

(Нататка апублікавана ў "Народнай Волі" 28.10. 2011 без 2-х перадапошніх абзацаў)

Мяне ўразіла нататка сп.Лабора у "НВ" ад 18 кастрычніка 2011 года "Встретимся на избирательном участке".

Паважаны спадар! Кіньце сваю ідэю і не дурыце галавы людзям. Сёньня, калі ўжа абвешчана, што Выбарчы Кодэкс мяняць не будуць, ісьці на выбары – распісацца ў сваім бяссільлі. Гэта раўназначна таму, што пахаваць надзеі на лепшае жыцьцё. Тут узгадваецца толькі адно – выбары байкатаваць!

Заваблівацъ сёньня людзей ісьці на выбарчы ўчастак – гэта злачынства перад сваім сумленьнем, перад лёсам краіны. Мы ўжо наслухаліся за 17 гадоў гэтых паслугачоў і бачым сваім вокам, што сучасныя "кішэнныя" дэпутаты нічога не рашаюць, бо кармушка для іх даражэй, чым дабрабыт народа. Аб гэтым сьведчыць і падзенне заробкаў (мы ўжо на перадапошнім месцы сярод краін СНГ, на апошнім – Таджыкістан) і рост бязвыхаднасьці, калі людзі ад адчаю кідаюцца з даху шматпавяр-ховага дома ці згараюць ад алкагольнага ўгару. Вось прыклад.

Нядаўна (16 верасьня) жыхары г.Салігорска бачылі "жывы балід": рабочы аднаго СМУ (В.Крывальцэвіч) абліўся гаручай вадкасьцю, падпаліў сябе і скінуўся з даху 9-павярховага дома. А 7 кастрычніка гэтага года па радыё прагучала перадача аб становішчы з самагубствамі ў нашай краіне, дзе было адзначана, што мы па колькасьці суіцыдаў на 100 тыс. чалавек перавышаем сярэдні паказчык як еўрапейскі, так і сусьветны.

Так што парламент сёньня – "фігавы лісток", якім прыкрывае парушэньні канстытуцыйных норм наш кіраўнік. Сведчаньнем іх – ягоныя дзеяньні па зачысцы Плошчы, на якую выйшлі выбаршчыкі, каб выказаць сваю нязгоду з вынікамі фальсіфікаваных выбараў, і асуджэньне актыўных змагароў за праўду кан'юнктурнымі судзьдзямі і др.

Пакуль у нас будуць выбары адміністрацыйным рэсурсам, то зрухаў у лепшы бок чакаць нельга. Народ такім выбарам не давярае. Я – ўдзельнік 5 выбарчых кампаній і сьведчу: на выбары ходзяць (у большасьці пад страхам страціць працоўны кантракт) толькі каля паловы электарату. Вось мае асабістыя назіраньні: 2004г. – 66%, 2006г. (рэферэндум) – 42%, 2008г. (выбары ў парламент) – 52,6%, 2010г. (прэзідэнцкія выбары) – 68,9%.

Таму агітаваць сёньня ісьці на выбары – марная трата часу і лішняя трата дзяржаўных сродкаў.

**Не! Нам ТАК нІ ТРЭБА!**

або **Дзе ж наш выхад?** як адказ на пытаньні ўрача А.**Маскевіча** з каментарыямі да іх сп. В.**Лабора** і на памкненьні сялянкі А.**Гнаўк,** якія публікаваліся на старонках "Народнай Волі" ў кастрыч-ку-лістападзе 2011г. (Артыкул апублікаваны на сайце Інтэрнэту і ў "Народнай Волі ад 23сакавіка 2012 пад назвай "…Іншага выйсьця я не бачу")

У якасьці загалоўка я выбраў перафразоўку верша апостала Духу нацыі Фр. **Багушэвіча**, які яшчэ ў 19 ст. апісаў гаротнае становішча нашага народа ў часы царскага рэжыму і адлюстраваў яго ў сваім вершы "Так і трэба". Калі ж паглядзіш на сёньняшнія рэаліі жыцьця, то так і хочацца спытацца: а што зьмянілася? Жыў гаротны народ у цісках паліцэйскага рэжыму, так і застаўся ў іх. Толькі што назва краю зьмянілася. (У свой час нашу прарадзіму, якую ў складзе Вялікага Княства Літоўскага да 1795 года называлі Літваніяй, то ўжо ў складзе Расеі называлі Паўночна-Заходнім краем. А каб не прызнаць незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, створанай ў 1918г. на тэрыторыі 6 валасьцей, то 1 студзеня 1919г. бальшавікі ў Смаленску на гэтых землях аб'явілі ўтварэньне БССР, якая 19.9.1991г. была перайменована ў Рэспубліку Беларусь). Аб гэтым мы дзякуючы ідэалогіі "русізма" доўгія годы нічога не ведалі. Аб гэтым мы і сёньня маўчым, трываем і не хочам прызнацца ў тым, на якія дэвідэнты мы жывём і якія каштоўнасьці мы прадаём, каб народ існаваў і мог дабіцца свайго месца ў свеце. Проста дзіва. А можа нам так і трэба!?

Яшчэ да нядаўняга часу наш гімн пачынаўся словамі: *"Мы беларусы з братняю Русьсю разам шукалі да шчасьця дарог…"*– сапраўднае блюзнерства – ні аднаго слова праўды! Вось у такой мане выхоўваўся наш народ. І калі гэта было? – *"разам шукалі"*. А ніколі! Наш народ з маскалямі(ардынцамі) ніколі не дбаў разам шчасьця. Заўжды мы зь імі спатыкалі толькі бяду: галечу, смерць і праклён. З 1492г. (з часоў Івана III) яны нас нішчылі ў кожным стагодзьдзі па некалькі разоў: то каля 50% (у "невядомай вайне" 1654-67), то па 20 ці 30%. Затым была Паўночная вайна 1700-21 Швецыі і Расеі, на баку якой змагаліся і ваяры ВКЛ, зь бітвамі (асабліва бітва 28 верасьня 1708г. каля Лясной пад Магілёвам), унёсшыя болей за 30% (каля 700 тыс.) жыхароў. (Чытай досьвед гісторыка і пісьменьніка Ул. Арлова ў артыкуле "Потери белорусов: печальная демография" Вадзіма Дзеружынскага – журналіста, рэдактара газеты "Секретные исследования", апубликаванай у альманаху "Деды", вып. 1, 2009, с.30). Затым былі паўстаньні 1794, 1830-31, 1863, 1-я і 2-я сусьветныя войны, гражданская, савецка-польская і мала вядомая вайна Слуцкага Збройнага Чыну 1920. Гэтыя беды нам былі

навязаны толькі міфічнымі “братамі-русінамі”. А колькі (каля 2 млн. нашых жыхароў) зьнішчыў сталінскі генацыд. І тысячу раз праў быў Кастусь **Каліноўскі**, калі з выспы вісельні казаў: *“Толькі тады, Народзе, зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо не будзе”.* А станоўчым прыкладам для нас могуць стаць адносіны да свабоды фінаў. Яны, атрымаўшы ад Расеі ў 1917г. “вольную”, сёньня не тужаць. А мы? Нам, памяркоўным і цярплівым да свайго гарэтнага лёсу, мабыць, так і трэба.

Але праходзяць стагодзьдзі, мяняюцца рускія князі, цары і прэзідэнты, а імперская прага да нашай зямлі не ўбавілася. І сёньня, каб закабаліць наш народ, правіцелі Расеі закідваюць нам рознага кшталту прынады: бязпошлінную нафту, крэдыт, а цяпер вось дайшлі ўжо і да скупкі зямель, банкаў, прадпрыемстваў і нават да нетраў зямлі. Яны ўжо нават гатовы да скупкі Петрыкаўскага радовішча каліўных солей. І на гэтым яны не спыняцца.

Хачу адзначыць, што прадаваць нетры зямлі? Гэта – нонсэнс! Такой абразы над сваёй спадчынай за апошнія дзесяцігодзьдзі яшчэ ніхто не ствараў. Такога самажэрства яшчэ ні зьведаў ні адзін народ. Такую агіднасьць нам нашы нашчадкі ніколі не даруюць! Чым усё гэта закончыцца? Час пакажа.

А наша краіна ўсё болей і болей скочваецца ў бездань. І ўлада, каб уратаваць сваё рэнамэ, шукае хаўрус і з другімі краінамі: то з Венесуэлай, то з Іранам, то з Кітаем. Цяпер вось і Катар у чарзе стаіць. Адным словам: трэба ратавацца.

Ды дзе ж гэты паратунак? З Расеяй? Як сьведчыць гісторыя: з ёю жарты дрэнныя – скрытая пастка. Тут я цалкам згодзен з палітолагам В.**Дашкевічам**, які выказаў свае думкі ў артыкуле *“Шиш вам, а не бабочку”* (“Нар. Воля” ад 25 кастрычніка 2011), і Н.**Новаш** – аўтарам артыкула *“Если только не стереть с лица земли весь наш народ”* (“Нар. Воля” ад 14 кастрычніка 2011). А можа паратунак у нас з Венесуэлай? Вялікая рызыка. А можа з Кітаем? О, гэта ўжо будзе крах нацыі: за 100 гадоў нас кітайцы проста праглынуць з вантробамі. А можа нам так і трэба?

Ды не! Нам так **ні трэба жыць!** Занепакоены такім становішчам і ўрач А.**Маскевіч**, які шукае паратунак у правядзеньні міфічных дыскусій за “круглым сталом” (артыкул у “*О чем вести дискуссию?” ў* “Нар. Волі” ад 1 кастрычніка 2011 “), і В.**Лабор**, які прапануе то ісьці на выбары з “ґапонаўскім” зваротам (артыкул “*Встретимся на избирательном участке”* у “Нар. Волі” ад 18 кастрычніка 2011), то качаць “сізіфаў”камень (яго артыкул *“Себя*

*уважать надо”* ў “Нар. Волі” ад 28 кастрычніка 2011), і сялянка А.**Гнаўк**, якая хоча, каб прэзідэнт пакаяўся, разаслаўшы ў праўладныя органы кніжыцу *“Особое мнение или обращение христианки”*. І што з гэтага атрымалася? Чытай публікацыю пра судовыя матэрыялы чалавека з народа ў ”Нар. Волі” ад 1 лістапада 2011.

Тут трэба ўявіць, што дыктатура не прызнае ні дыскусій, ні свабодных выбараў, ні пакаяньняў. Але і не трэба баяцца назваць галоўнага віноўніка ва ўсіх нашых бедах. Гэта – наша ўлада, якая ў ранг сваёй мадэлі кіраваньня ўзьвяла “калгасны сацыялізм”, адхіліўшы ад пасады акадэміка А.**Вайтовіча**, які прапаноўваў яшчэ 15 гадоў назад скарыстаць у кіраваньні інвестыцыі і інавацыі, якія б спрыялі разьвіцьцю прадукцыйных сіл. Сёньня ўлада адумалася, бо краіна скацілася ў балота. Аднак ва ўмовах дыктатуры яны не рэалізуюцца. Чаму?

Яшчэ ў канцы 19 ст. нямецкі філосаф Фрыдрых **Ніцшэ** (1844-1900) – адзін з заснавальнікаў філасофіі жыцьця – ў сваёй працы *“Па той бок дабра і зла: прэлюдыя да філасофіі будучыні”* прадказаў узьнікненьне **“масавага грамадства”** (кіруемага стада – т.н. нівеліраванага сацыялізму, які адвучвае людзей ад працы) **і таталітарызму** (панаваньне “будучага **хама**” тыпу Гітлера, Сталіна і ім падобных). І яны, як на дзіва, спраўдзіліся!

Сацыялізм на прыкладзе распаўшагася СССР гістарычна даказаў сваю няжыцьцяздольнасьць. І ў нас толькі і бачым, як калгасы выжываюць на датацыі, якую дзяржава атрымлівае ад перапрадажы бязпошліннай расейскай нафты ці прадстаўленымі крэдытамі. А трэба было развіваць фермерства, як гэта даказаў **Міхаіл Шруб**, якому надалі званьне **“гонар нацыі 2011 года”.** Ён на плошчы 200 гектараў зямлі спрацаваў так, як ніхто з калгасных гаспадароў. Прыкладам могуць быць для нас таксама і Бельгія, і Галандыя, і другія краіны, дзе фермерства забясьпечвае сваёй прадукцыяй земляробства ў той колькасці, якая патрэбна для краіны, і не болей, як гэтаму рады ў нас, усхваляючы “герояў працы”на Дажынках. Бо праца пры сацыялізме – працоўная павіннасьць (я ўласна сьведчу – працаваў у калгасе), падобная той, якую адбывалі пры прыгонным праве. А можа нам так і трэба?

Дык трэба ж уявіць, што сёньня мы жывём зусім пры другіх умовах, у век цывілізацыі, у які наш прэзідэнт яшчэ ў пачатку свайго кіраваньня адказаўся нас прывесьці, сказаўшы 10 ліпеня 1996г. на БТ: *“Я своё государство за цивилизованным миром не поведу”*. І “дзякуй” яму, трэба аддаць яму належнае за шчырае

прызнаньне, што спраўдзіў сваю дзейнасьць. Але народу ад гэтага зусім не соладка. Бо **нам гэтага не трэба!**

Але грамадская думка заўсёды выхад находзіць! І ён вядомы: **стварэньне пераходнага ўрада**, які мог бы ўзяць на тэхнічнае ўзбраеньне новыя тэхналогі і скарыстаць інвестыцыі на больш карысных умовах.

Першая спроба яго стварыць на Плошчы 19 сьнежня, як вядома, правалілася. Зразумела, наша ўлада прадбачыла такі ход развіцьця падзей – спрацавалі кадэбісты. Бо такі сцэнарый ёй быў не па нутру. Таму і сфабрыкавалі міфічны "захват" Дома ўраду правакатарамі, многія зь якіх нават нейкім чынам не арыштоўваліся. Аб гэтым зьмястоўную інфармацыю данесьлі здымкі, апублікаваныя ў "Нашай Ніве" (№48 за 2010г. і №4 за 2011г., А па надуманых фактах пазбавілі волі галоўных выканаўцаў ідэі. Але працягваць гэты працэс неабходна, бо трываць далей няможна, бо мы акажамся яшчэ у большай пропасьці, чым сёньня.

Цяпер, як ніколі, трэба скіраваць увагу на тым, каб парламенцкія выбары праваліліся. Паколькі зьмена "Выбарчага Кодэкса" ўладай не прадугледжана (камісіі будуць складзены па адміністрацыйнаму спіску, падлік галасоў стопрацэнтна будуць рабіць фармальна, бо канчатковыя лічбы ўсяроўна будуць загадзя назначаны), то ўжо сёньня можна прадказаць яго вынік. У гэтым выпадку нічога не застаецца, як абвясьціць гэтым выбарам байкот. Зразумела, што на выбары людзей будуць гнаць прымусова з пагрозай пазбаўленьня кантракту. Тым не менш, трэба даказаць, што людзі ў сваёй большасьці на выбары не ходзяць. Толькі ў такім выпадку можна адкрыць ўмовы для стварэння новага ўрада.

Калі ж ўсё-такі ЦВК сфарміруе "кішэнны" карумпіраваны парламент, а гэта яна зробіць абавязкова, бо на ўсе выбарчыя ўчасткі трох назіральнікаў ад апазіцыі (патрэбны акт з подпісам двух сьведак) не паставіш, то трэба рыхтаваць усеагульны зварот да Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека Наві **Пілэй** аб парушэньні нашай уладай дэмакратычных правоў і канчатковай страце яе здольнасьці кіраваць краінай. Трэба абавязкова дабіцца права правядзеньня свабодных выбараў, чаго і дамагаецца экскандыдат у прэзідэнты Дзьмітрый Ус, каб сфарміраваць новы **пераходны ўрад**, які і павінен кіраваць дзяржавай. Трэба ж неяк ратаваць краіну, бо выйсьця іншага я не бачу! Я падпісваюся першым. Хто за мной?.

3 лістапада 2011 у Інтэрнэце і 23 сакавіка ў "Народнай Волі"

# У АТМАСФЕРЫ СТРАХУ

Інфармацыйна-аналітычны цэнтр пры Адміністрацыі прэзідэнта апублікаваў вынікі апытаньня жыхароў краіны, згодна якому ўзровень даверу нашаму прэзідэнту ў кастрычніку складаў 70%! У гэты ж час Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных досьледаў зарэгістраваў у верасьні рэйтынг Лукашэнкі – 24,5%. (“Народная Воля” ад 15.11.2011). Газета зьвярнулася да чытачоў: *якому рэйтынгу мы давяраем?* І вось мой адказ інтэрв’юерам на апытаньнні двух напрамкаў.

Напярэдадні 7 кастрычніка да мяне зьвярнуўся знаёмы карэспандэнт рэгіянальнай газеты “Інфа Кур’ер” з запытаньнем: “Што нам прынесла кастрычніцкая рэвалюцыя?” Мой адказ быў такім: *“Кастрычніцкі пераварот прынёс нам*: (прыгоннае права)*, ману, страх, здрадніцтва, нігілізм роднай мовы*, (гена-этна-і лінгвацыд нацыі), *страту этнічных зямель”.* Словы, узятыя ў дужкі, былі апушчаны. І што б гэта значыла? Зразумела – страх рэдактара выказаць маё стаўленьне да гэтай падзеі. Адказ зьмешчаны на сайце газеты.

На днях сустракаю сваю даўнюю знаёмую Анну Трахімаўну (ёй пад 80 гадоў). І вось што яна мне паведала: “Выходжу аднойчы на вуліцуу і сустракаю суседку з суседняга пад’езду, разгаварыліся. Непадалёку стаяў чалавек у цывільным і доўга назіраў за намі. Я насцярожылася, бо ўспомніла, як у дні рэзкага скачку цэн на тавары, вось такі чалавек у цывільным прыставаў да маёй знаёмай, якая ў разгаворы з сяброўкай з гарачкі прамовіла *“Хай ён імі падавіцца!”.* На што яна вымушана была сказаць яму, што гэтак яна выразіла свае адносіны на цэны тавара, якім гандляваў яе пляменьнік на нашым рынку. Калі ж мы разышліся, то такі ж чалавек у цывільным сярэдняга ўзросту зьвярнуўся да мяне з пытаньнем: *“Як вы адносіцеся да нашага прэзідэнта?”*. Я, вядома, сумелася, бо ўспомніла той выпадак са сваёй знаёмай і сказала, што добра, але хацелася б, каб цэны былі трошкі ніжэй, бо нават на лекі не застаецца. Далей ён прадоўжыў

размову і спытаў: *“А што вы знаеце пра Саньнікава і дзе ён цяпер?”* Я сказала , што ніякага Саньнікава я не знаю і аб ім мне нічога не вядома.”

Хачу дадаць, што ў дні прадвыбарнай кампаніі мая знаёмая ўсё вырашала, за каго ёй лепей галасаваць. І на маё запытаньне яна ўпэўнена адказала, што будзе галасаваць за Саньнікава. Але ў дзень выбараў, калі да яе ў хату прыйшлі двое са скрынкай, то галасаваць за Саньнікава яна не адважылася, бо яны ўпэўнена раілі ёй за каго галасаваць. Вядома ж, за каго, бо побач назіральніка не было. І ў гэтым яна мне сумленна прызналася. Таму хто такі Саньнікаў і што зь ім – яна ведала, але не прызналася яму. Што ёю кіравала? Зразумела – страх.

Але яе размова з чалавекам у цывільным мела прадаўжэньне. На гэты раз яго пытаньне было такім: *“Што для вас значыць 19 сьнежня? Што было ў мінулым годзе і што будзе скора?”*. На што яна сказала, што былі выбары, што штосьці паказвалі пра нейкі пераварот. А што будзе, ёй нічога не вядома. Дык на што ён ёй сказаў: *“Будзе вялікая разборка. Будзеце бачыць”*.

І сапраўды, гледзячы на тое, як улада гатовіцца да гэтага дня ўкамплектаваць вайсковыя часьці не толькі ваякамі прызыўнога ўзросту, але і ваякамі-запасьнікамі, то значыць – улада да нейкіх міфічных падзей рыхтуецца. Што кіруе ўладай? Зразумела – страх.

Такім чынам, страх стаў нацыянальнай прыкметай часу ў краіне, дзе правіць дыктатура. Ён нашаму народу вельмі добра вядомы, хаця б успомніць 30-ыя годы сталіншчыны.

Вось у якой атмасферы страху жыве наш народ. Таму пра высокі ўзровень даверу нашага народа А.Лукашэнку пры апытаньні, якое праводзіцца незнаёмымі людзьмі ў цывільным, німа ніякай веры. Я больш давяраю апытаньням Незалежнага інстытута, у якім да інтэрв’юера людзі адносяцца больш даверліва і адказваюць шчыра.

16 лістапада 2011

# РАСПРАВА,

## альбо *За што расстралялі дырэктара школы*

(Артыкул апублікаваны ў “Народнай Волі “за 6 красавіка 2012).

Аднойчы, у гады ваеннага ліхалецьця (на двары стаяў сонечны верасьнёўскі дзень 1943г.), у нашу вёску Домантавічы Копыльскага р-на прыйшла бяда. Я стаў сьведкам пахаваньня сямейнай пары – дырэктара Быстрыцкай пачатковай школы Аляксандара Кірылавіча Нікалаені (родам зь вёскі Лешня) і яго жонкі Фядоры Афанас’еўны (родам з нашай вёскі), якіх расстралялі партызаны. Прыйшлі ноччу ў хату і расстралялі. Мне тады ішоў сёмы год. Але ў памяці засяродзілася пытаньне: за што іх расстралялі? Каго бы я ні спытаў, быў адзін адказ: за невыкананае заданьне. А якое заданне? Ніхто не ведаў: ні сьведкі гэтай падзеі Зіна Нечай, Нэля і Мікола Мартынчыкі, ні быўшы партызан з нашай вёскі атрада імя М.А.Шчорса 27-й брыгады імя В.І.Чапаева (камандзір М.А.Шастапалаў, камісар Н.Дз.Емельянаў) Стасевіч Васіль Данілавіч (н.1923г.) Але сьведчаньні апошняга мне ўсё ж дапамаглі яго разгадаць. Пры гэтым прыйшлося зьвярнуцца да падзей таго часу, якія былі зафіксаваны ў кнігах: “Памяць” (гісторыка-дакументальная хроніка Копыльскага р-на, 2001г., с. 233, 261), “Людзі СБМ” Юры Туронка (2008, с. 37, 40, 111); “Мадэрная гісторыя Беларусі” Юры Туронка (2006, с.689) і др.

Як вядома генеральны камісар Беларусі Вільгельм Кубэ заснаваў Саюз беларускай моладзі (СБМ) у чэрвені 1943г. як школу патрыятычнага *“выхаваньня і перавыхаваньня моладзі ў беларускім нацыянальным антыбальшавіцкім духу і шырокае выкарыстаньне ў адбудове беларускай гаспадаркі”* (Выступленьне Кубэ на красавіцкай /1943/ нарадзе ў Мінску /Весьнік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, Мінск, серыя 3,1994, №1 /) і якая мела ўскосныя дачыненьні да пытаньня вярбоўкі працоўнай сілы да нямецкай эканомікі. Таму Кубэ *“не спяшаўся з адпраўкай моладзі ў Нямеччыну і спрыяў развіцьці сеткі сярэдніх школ, навучэнцы якіх вы-*

*зваляліся ад працоўнай павіннасьці*” (Ю.Туронак, стар.37).

Вось як пісала тагачасная вучаніца Слонімскай прагімназіі Надзея Дземідовіч: *“СБМ павярнуў нас да беларускай духоўнасьці. Мы адчулі, што ў нас ёсьць свой Край, свая мова, свая Гісторыя, што з нас не будуць у школе рабіць ані палякаў, ані расейцаў, ані немцаў. У нас былі настаўнікі, якія размаўлялі гэтак жа, як і нашыя бацькі ў хаце, і ўпершыню ніхто не папракаў нас, што мы “хамы”* (Дземідовіч Н. “Век так ня будзе”, Мінск, 2002, с.41; Ю.Туронак, стар.111)

Менавіта гэтыя дзеяньні Кубэ і сталі прычынай яго забойства, якое зьдзейсьнілі партызаы 22 верасьня 1943г.

Менавіта з мэтай асьветы *“у Генеральнай акрузе Беларусь былі арганізаваныя пачатковыя і сярэднія школы, якія з цяжкасьцямі, абумоўленымі ваенным становішчам, рэалізоўвалі адукацыйную праграму* /сьвядомыя беларусы, якія рызыкавалі, як у нашым выпадку, і сваім жыццём/**,** *але не мелі сродкаў і іншых магчымасьцяў арганізоўваць мерапрыемствы пазашкольнага выхаваньня”* (Ю.Туронак,с.40)

Але саветам дзеяньні па выхаваньню беларускай моладзі ў духу любові да Бацькаўшчыны былі не ў рэчышчы ідэалогіі “русізма” і яны зьдзяйсьнялі свае антыбеларускія заходы маскоўскімі агентамі і цэлымі атрадамі па зьнішчэньню вёсак (тыпу Дражна) і патрыётаў Радзімы (тыпу Ал. Нікалаені і яго жонкі, прозьвішчы якіх нават не пазначаны ні ў адным са сьпіскаў загінуўшых падчас гэтага ваеннага ліхалецьця). І такіх прыкладаў зьнішчэньня патрыётаў Радзімы было не дзясяткі і не сотні, а намнога больш, што не красіць памяці савецкага вобразу жыцьця.

Калі ж я даведаўся аб сапраўднай прычыне забойства 3 сакавіка 1944г. у Вільні Фр.Аляхновіча, выдатнага драматурга, аўтара кнігі “У кіпцюрах ГПУ”, у якой раскрываецца праўда пра савецкія канцлагеры, то мне стала зусім зразумелым і мэта забойства дырэктара школы. Аб чым красамоўна сьведчыць досьвед Ю.Туронка (с. 689): *“Беларускае грамадства, якое добра ведала аб тэрарыстычных дзеянь-*

*нях савецкіх партызанаў, у тым ліку аб спаленых імі школах, забітых настаўніках ці сялянах, якія выконвалі абавязковыя пастаўкі сельскагаспадарчых прадуктаў, мела ўсе падставы паверыць паведамленьню кантраляванай немцамі прэсы аб забойстве Аляхновіча маскоўскімі агентамі".*

Вось і ў нашым выпадку можна сьцвярджаць аб сапраўднай прычыне забойства партызанамі дырэктара школы і яго жонкі. А іменна: па якой прычыне іх забілі.

Згодна распараджэньня Кубэ на тэрыторыі краіны арганізоўвалася абучэньне не толькі ў школах СБМ, але і ў пачатковых, у адной зь якіх і працаваў дырэктарам Ал. Нікалаеня. Калі ж партызанскаму штабу пад началам П.Панамарэнкі ў Маскве стала вядома аб арганізацыі абучэньня моладзі ў беларускіх школах (калі вясной 1942 у акрузе працавала толькі адна /медыцынская ў Баранавічах/, то праз год працавалі 3012 школ /Л.Лыч "Нацыянальна-культурнае жыцьцё на Беларусі ў часы вайны", Мінск, 2011, с.82), то і было прынята рашэньне аб іх ліквідацыі. З гэтай мэтай у Беларусь патокамі высаджваўся дэсант ліквідатараў. Адным зь іх быў атрад, якім камандаваў (па сьведчаньню партызана В.Стасевіча) брат М.А.Шастапалава (імені яго не запомніў). Ён і выконваў загады па зьнішчэньню такіх патрыётаў, як Ал. Нікалаеня. Гэтаму пасадзейнічаў і камісар брыгады Ніл Емельянаў і яго падручны, кіраўнік падпольнай камсамольскай арганізацыі Іван Зіневіч, які па заданьню атрада запісаўся ў склад СБМ і прыносіў зьвесткі аб створаных школах і гарнізонах на Капыльшчыне ("Памяць", с.233)…

Настойлівы начны стук у дзьверы з паноўным загадам *"Адчыняй!"* насьцярожыў дырэктара і яго жонку, якія адпачывалі ў прыбудоўцы школы, дзе толькі што праходзілі заняткі з навучэнцамі малодшых класаў. Сам дырэктар выкладаў вучням "Роднае слова". "І з якой гэта нагоды, – падумаў гаспадар, – ўрываюцца няпрошаныя госьці, ды з такім яшчэ грозным загадам. Напэўна гэта былі свае. Але чаму так пагрозліва? – прадаўжаў размышляць Саша, – Відаць не з харошымі весткамі ідуць". Таму й насьцяро-

жыўся ён. І, як толькі начныя госьці ўвайшлі ў пакой, адразу ж яму было рубам пастаўлена пытаньне: *“Почему не закрыл школу?”* А калі Саша прамовіў: *“Дык гэта ж зусім не шкодная справа, калі дзеткі будуць вывучаць роднае слова”*, то ў адказ грозна прагучала:*“Не твоё это дело – их абучать, профессор! Ещё будет время, кому і чему учить! Собирайся, пойдём с нами!”.* Але за мужа тут заступілася ўжо Фядора:*“Нікуды ён не пойдзе і адстаньце ад яго, браточкі!”* Але ўсё той жа зычны бас прадоўжыў: *“Помолчи, подстилка, а то и тебе достанется!”* Аднак жанчына ўсё ж не супакоілася і яшчэ больш настойліва запярэчыла: *“Не адпушчу я вам яго, варьяты!”* І… тут ўжо было не да ўгавораў.

Моцны каршэнь аглушыў на нейкую хвіліну жанчыну. Саша зразумеў, што пахне порахам, і сам выйшаў з прыбудовы, каб неяк уратаваць жонку. Калі ж яго ўжо вывелі на задворак і прыставілі да сьценкі, апамятаўшаяся жанчына зь лямантам выбегла з памяшканьня:*“Бандыты! Што вы робіце? Каб на вас, вырадкаў, пярун ляснуў”.* І тут імгненна прагучэў стрэл. Куля, з гулам пранізаўшы паветра, ўпілася прама ў твар жанчыны і яна, як падкошаная, асунулася на зямлю і ўпала ніц. За ім тут жа прагучэў і другі. Стрэлы і апошня словы жанчыны разьнесьліся па ваколіцы і былі пачуты сьведкам гэтай трагедыі – Васілём Стасевічам.

У той жа дзень пасялкоўцы вёскі Быстрыца пераправілі целы ў родную вёску Фядоры, дзе я і стаў сьведкам іх пахаваньня. Доўгія годы трагедыя гэтых людзей была пакрыта попелам маўчаньня. Я ж хачу, каб смуга маўчаньня ўсё ж расьсеялася і народ ведаў усю праўду пра вайну.

PS: *Зь вялікім жалем і смуткам я ўспрыняў вестку, што 18 сьнежня 2011г. на 88 годзе жыцьця адшоў у іншы сьвет Васіль Стасевіч, якому я шчыра ўдзячны за праўдзівыя зьвесткі аб сьмерці дырэктара школы Аляксандара Нікалаені і яго жонкі Фядоры. Іх духоўныя ўчынкі не патанулі ў віры ваеннага ліхалецьця! Памяць аднавяскоўцаў выцягнула іх з забыцьця.*

## “ПЯТАЯ КАЛОНА” ДЫКТАТУРЫ -Ў ДЗЕЯННІ,
**або як ліхадзеі прышываюць кабыле хвост.**

(Артыкул з невялікім скарачэньнем апублікаваны ў газеце “Народная Воля” за 4 мая 2012г.)

Мяне вельмі ўразіла зьвестка аб ганьбаванні і дыскрымінацыі праўладным чынавенствам роднай мовы, якая была апублікавана ў №10 “Нашай Нівы” (нататка Зьміцера Панкаўца “Загад чыноўнікам: не дапускаць беларусіфікацыі”). Гэта ж трэба так “сьляпой” уладзе крывіць душой – справа тут, відаць, прышый кабыле хвост,– каб даручэньні кіраўніка дзяржавы (№58/77-1-ДСП ад 02.03.2012), дадзеных ім 24 лютага ў ходзе нарады па выніках сфальсіфікаванага правядзеньня фіналу Нацыянальнага музычнага праекта “Еўрафэст”, скарыстаць у абвінавачаньні беларуса ў тым, чаго на самай справе няма. Як цынічна гэта робіцца?!

Трываць болей нельга, як недаравальна зьдзекліва “пятая калона” дыктатуры абвінавачвае сьвядомых беларусаў у нібыта існуючай палітыцы *“прымусовай беларусіфікацыі і штучнага скарачэньня выкарыстаньня расейскай мовы”*. Гэта – адкрытае калабаранства, якое ганьбіць і губіць нацыю! І пагубіць, калі талерантны народ, замбіраваны дхам “русізма”, будзе маўчаць. Але маўчанне ў нашым выпадку – сьмерці падобна. Трэба ратаваць памяць аб нацыі!

Паветра й так ужо напоўнена стагнаньнем ад несправядлівасьці, якую творыць улада: завяла краіну ў балота. А тут яшчэ масла падлівае ў агонь заангажыраванае страхам чынавенств, каб не страціць свій партфель. Ці ж гэта не зьдзек? За апошнія 15 гадоў назіраецца павальнае зьнішчэньне беларускамоўных школ і класаў: колькасьць школьнікаў, якія навучаюцца па-беларуску, скарацілася аж да 19%, а было 40,6% .У краіне да гэтага часу не дзейнічае нацыянальны ўніверсітэт з беларускай мовай навучаньня. Нават у нацыянальнай бібліятэцы – сэрцы жыцьцядзейнасьці беларускай нацыі – экскурсаводы спрэс вядуць гаворку на рускай мове, не адпавядаючы яе найменьню. Такое я назіраў у час яе наведваньня. Гэта – сорам!

Сапраўдным блюзьнерствам з'яўляецца і афіцыйны факт забароны выступленьняў перад народам не толькі шараговым сябрам "нячэснага" Саюза, якім з'яўляецца "Саюз беларускіх пісьменьнікаў", але і Народным паэтам Беларусі Нілу Гілевічу і Рыгору Барадуліну, таму што яны гавораць на матчынай, незразумелай замбіраванаму народу, мове. У той час як нават радавым сябрам з "чэснага" "Саюза пісьменьнікаў Беларусі" адкрыта шырокая дарога.

Такая, напрыклад, пампезная сустрэча адбылася 18 сакавіка на прэзентацыі новага рамана "Миг бесконечности" Натальлі Батраковай у Цэнтральнай бібліятэцы горада. (Нам, існым патрыётам, такія прэзентацыі забаронены). Яна, адказваючы на пытаньні, прызналася: *"Я выросла на Могилёвщине. Мать – учительница русского языка. Она и воспитала меня «русской». Потому и образ мыслей у меня – русский. Но мне кажется, что я стою на перекрёстке дорог как «белая ворона», и всё не решусь: куда идти?",* Будзьце шчырай, Натальля Мікалаеўна! Вы, зразумела, выбралі свой "правільны" шлях. Ён Вам выгадны заставацца ў гэтай іпастасі. Прыйдзе час і Вы яшчэ пашкадуеце аб гэтым. Час рассудзіць.

Мы ўжо існуем нібыта ў чужой краіне, бо нават такія мужы як А.Радзькоў (першы намесьнік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта РБ) ці А.Рубінаў (кіраўнік Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу) сьмела прызываюць народ пазбаўляцца сваёй мовы ці валюты. Гэта ж – нонсенс! Скора мы ўжо дажывём да таго, што размаўляць на роднай мове ці карыстацца сваёй валютай нам будзе забаронена.

Як вядома, чалавек, які прапах "русізмам", прывык размаўляць па-руску і часьцяком можна пачуць: "Ты што? БНФ?" У разуменьні такога зомбі: БНФ – гэта "вораг народа". А раз вораг, то ворага, як гэта рабілі бальшавікі, трэба зьнішчаць. А каб яго зьнішчыць, то трэба сфабрыкаваць якую-небудзь агідную справу, не сумяшчальную з нормамі чалавечых правіл. Такое ў нашай і сусветнай гісторыі мы ўжо сустракалі. І не раз.

Напрыклад, нацыстамі ў 1933г. быў створаны падпал будынка рэйхстага, каб зьнішчыць апазіцыю камуністаў. Падобныя справы ўтваралі бальшавікі ў гады сталінскага генацыду супроць асьветнікаў нацыі. Напраклад, па справе "Саюз вызваленьня Беларусі" рэпрэсіравалі Антона Луцкевіча, Аркадзя Смоліча і тысячы другіх змагароў за адраджэньне нацыі. Згодна артыкула "буржуазная нацдэмаўшчына" – Браніслава Тарашкевіча, Язэпа Лёсіка і др. А за "сувязь з чужаземнай разьведкай"– Вацлава Ластоўскага, Аляксандра Ўласава і др. Народ знішчалі за "кулацкія тэорыі", за "дыверсіі" і многія другія міфічныя справы.

Прыкладна такую ж міфічную справу сфабрыкавала і наша ўлада аб "дзяржаўным перавароце" з паказам на тэлебачанні "штурма" Дома ўрада правакатарамі 19 сьнежня 2010г. "Зброя"– рыдлёўка і драўляны брус. Але і гэта дало ліхадзеям права "прышыць" ініцыятарам правядзеньня справядлівых выбараў турэмнае зьняволеньне… за "хуліганства". Зброю існую, праўда, ліхадзеям "прышыць" не ўдалося – агідную справу сарвалі журналісты.

Вось і цяпер заангажаванае страхам чынавенства імкнецца знутры, падобна "пятай калоне" Іспанскай Рэспублікі (такая калона сфарміравалася у радах рэспубліканцаў і ў 1939г. здрадзіла народу, перайшоўшы на бок дыктатара Франка) "самажэрна" здацца на літасьць рускага "брата"– пазбавіць карэнны народ роднай мовы. А гэта значыць: зьнішчыць нацыю, зьнішчыць незалежнасьць краю, вымушаючы народ стаць рабамі "брацкай Расеі" пад крылом РПЦ (Рускай праваслаўнай царквы). Гэта вельмі страшна. Такога лёсу можа жадаць толькі калабарант, які выпеставаны і выкармлены здрадлівай уладай прынадамі рускага "брата" (бязпошліннай нафтай, таннымі крэдытамі і рознымі абяцанкамі "райскага" жыцьця ў лоне "брацкага" Саюза. А мы ж хочам быць цывілізованай краінай, за якую змагаліся адраджэнцы, угодкі якой адзначылі патрыёты Радзімы на сьвята Дня Волі 25 сакавіка ў цэнтры Мінска.

26 сакавіка 21012

**КАМУ І ЯКІМ БАЧЫЦЦА СЬВЕТ У РУЖОВЫХ АКУЛЯРАХ**

Чытаючы публікацыі апалагетаў улады тыпу “Лишите меня…” (“Нар Воля” за 23.03.2012) ці размаўляючы з “дзікунамі” (так называў К.Паўстоўскі людзей, якія прасякнуты духам нацыянальнага нігілізму і не размаўляюць на роднай мове), здзіўляюся іх хлусьні. І вось якія думкі мне нагадалі правакацыйныя опусы аднаго зь іх.

Знаёмы мне ўжо “палbackgroundяміст” з лісінай усьмешкай (далей ружовых акуляраў не хоча бачыць, а думаць і тым больш), ганьбіць ад імя грамадскасьці (г. зн. і ад мяне – якое дзікунства!) міністра ФРГ Вестэрвельле ў тым, што іх *“вина перед народом Белоруссии* (правільней будзе па-ардынскі *Беларуси*), *где погибло треть населения, до сих пор не заглажена…”* Гэта ж трэба так абразіць нямецкі народ, які ўжо пакаяўся ў нечалавечнасьці, якую нанёс Гітлер сьвету, і кампенсаваў адпаведныя страты. Але, як альтэрнатыва сказанаму, адзначу, што пераемнікі Сталіна яшчэ не пакаяліся ў гібелі каля 20 млн. савецкіх грамадзян, у тым ліку каля 2 млн. беларусаў, што і наша ўлада яшчэ не прызнала Курапат і не ўсталявала дзяржаўны Мемарыял, як знак пакаяньня за садзеяннае бальшавікамі зло.

Хачу адрэагаваць наконт гібелі **трэці** насельніцтва Беларусі за годы вайны 1941-45. Гэта – нахабная хлусьня!

Згодна даных табл.1 (БЭ, т.3, ст.17-18) на пач. 1940г. пражывала 9046,1 тыс.чал. Але вайна пачалася 22.06.1941г. Тады колькасьць насельніцтва на пачатак вайны з улікам натуральнага прыросту за 1,5 года павялічыцца. Яе атрымаем арыфметычным вылічэньнем за тыя часы.

Згодна табл.2 (там жа) натуральны прырост на 1000 жых. у пач. 1940г. склаў 13,7. Прырост за 1,5 года. складзе: 13,7 x 9140 : 1000 x 1,5 = 187,8 тыс. дзе 9140– сяр. гадавая колькасьць жыхароў, якая атрымліваецца падсумаваннем да першапачатковай лічбы дадаткаў сярэдняга прыроста за 1940 год і ½ года 1941-га. Такім чынам: 9140 = 9046,1+ ½ 9046,1 : 1000 x 13,7 + ¼ (9046,1 + ½ 9046,1 :1000 x13,7) : 1000 x 13,7. Значыцца: на пач. вайны ў нас пражывала: 9046,1 + 187,8 **= 9233,9** тыс. чал.

Паводле ж даных БелСЭ (т.XII, ст.57) на чэрвень 1941г. было 9200 тыс. чал. (Памылка складае 0,36%). Трэба дадаць, што ў лік 7709 ўваходзіць і прырост насельніцтва за 4,5года (з сяр. 1945 па 49) года, які падлягае адыманьню.

За перыяд ад пачату 1950 года да даты перапісу ў 1959г. (г.зн. за 9,5 гадоў) прырост насельніцтва (згодна табл 1, БЭ, т.12, ст. 285 і табл.1, БЭ, т.3, ст.18) склаў: 8056 – 7709 = 347 тыс.чал. Прырост насельніцтва за 4,5 года (ад сяр. 1945 да пач. 1950г.) такім чынам склаў: 347 **:** 9,5 х 4,5 = 164 тыс. Атрымліваем, што на сяр. 1945г. колькасьць жыхароў было: 7709 **–** 164 = **7545** тыс. а не 6,2 млн. (БЭ, т.12, ст. 284).

Значыцца за годы вайны было страчана: 9233,9 – 7545 = **1688,9** тыс.чал, а не 2,2 млн. – лічба, якая была агучана бальшавікамі яшчэ ва ўмовах акупацыі, падлягае сумневу (БЭ, т.12, стар.284; Ю.Туронак “Мадэрная гісторыя Беларусі, 2006, ст. 680; “Деды”, вып 1, 2009, ст.37). І гэта лічба складае: 9233,9 **:** 1688,9 = **5,47**-ую частку жыхароў: а не 4-тую і нават не міфічную 3-цюю, якую так спадабалі выстаўляць маразматыкі, каб перакласьці адказнасьць за сталінскі генацыд на нямецкіх акупантаў.

Калі ж ад гэтай колькасьці адняць сотні тысяч грамадзян, з’ехаўшых ад перасьледу за рубеж і загінуўшых на франтах, у партызанах і ў лагерах сьмерці ГУЛАГа вызваленых з палону, то атрымаем зусім блізкую да рэчаіснасьці ацэнку (“звыш 750 тыс.”) ахвяр нацысцкага генацыду, вызначаную яшчэ савецкімі спецыялістамі, аб чым паведаміла газета “Голас Радзімы” (1986, 27 лістапада), што складае толькі 12,5 частку насельніцтва.

Каб пераканацца змаглі маразматыкі ў сапраўднасьці разьлікаў, то трэба зьвярнуцца да лічбаў ахвяр вайны, якія апублікаваны ў кнігах “Памяці”– гісторыка-дакументальлных хронік 11 гарадоў і 118 раёнаў Беларусі. Але гэта асобная справа, якая патрабуе дадатковых вылічэньняў.

Што тычыцца “демократической лжеоппозиции”, якая атрымлівае нейкія сродкі – “откат от бюджетных грантов” ад “Мидовской кормушки” Польшчы, то гэта справа самiх

палякаў – падтрымаць дэмакратаў Беларусі, якіх турбуе становішча краіны. Чаго не скажах аб адэптарах улады, якая глядзіць на сьвет праз ружовыя акуляры і бессаромна страчвае мільярдныя выдаткі міфічных “братоў”. Бо імперскай уладзе Расіі якраз наруку: **мядзьведжай** паслугай паставіць краіну на край прорвы, каб затым “ціха” ўзяць яе пад сваё крыло. У чым жа кроіцца гэтая небясьпека ?

Справа не толькі ў тым, каб плебей жыў *“не па сродкам”* і закрыў вочы на становішча краіны, якая дыхае на ладан, а ў тым, каб заангажыраванае страхам чынавенства не бачыла выйсьця з гэтага стану. Чаму так?

Тлумачыцца проста. Калі атрымліваюцца дарэмныя грошы, то чалавек не імкнецца іх скарыстаць з выгадай. Гэта і ёсць **сутнасць сацыялізму– адвучваць чалавека ад працы.** Яна ж і прывяла краіну да таго, што сродкі вытворчасьці аказаліся ў пасіўным стане, не развіваюцца. Менавіта гэтая сутнасьць і пахавала хвалёную “беларускую мадэль”, якая трымалася на выдатках бязпошліннай (дарэмнай) нафты. Вось доказ.

Па вынікам развіцьця за 2011г. ВУП зьменшыўся на 421 млн. дол. к узроўню 2010-га і склаў 54620 млн. дол. (Пяць гадоў назад яны былі амаль такімі ж. Як бачым: паступовае развіцьцё краіны – міф). А інвестыцый за гэты ж год было толькі 1006 млн., што складае 1,81% ад ВУП. Які сорам? Мабыць неправавая дзяржава – не прынадная для зарубежных інвестараў. Для пасьпяховага ж развіцьця трэба 15-20%. Гэта тыя ж самыя 7-8 мільярдныя крэдыты, але без працэнтаў. Чаму б іх не скарыстаць? А што нас чакае?

Наша эканоміка, а значыць і незалежнасьць краіны, находзіцца ў стане “пасткі”. Нацыю чакае “апакаліпсіс”: бяры ўжо нас, Расія, голымі рукамі. За развал эканомікі кіраўнікі разьвітых краін сыходзяць у адстаўку. А наша ўлада шукае віноўных. Якая блізарукасьць і безадказнасьць! А адэптары ўлады ў званы не б’юць, бо “пастка” (уваход у склад Расіі ў якасьці некалькіх губерняў) для іх і “дзікуноў” мабыць на руку.

У гэтай сувязі хачу сказаць, што і Расія сама стаіць на краю прорвы. Бо дарэмныя выдаткі за нафту і газ і зь ёй згуляюць такую ж мядзьведжую паслугу. Уявіце сабе, што паліва атрымліваюць з вады. Выдаткі (каля 80%) ад нафты і газу – зніклі. Сродкі вытворчасьці – дыхаюць на ладан. І – бывай безтурботнае жыцьцё! Так што незайдросны лёс у маскалёў. Як была Расія лапатнай, так ёю яна і будзе.

Яшчэ некалькі слоў наконт "заблудших демократов", якія зьдзейсьнілі "Крестовый поход" на Дом урада. Хачу тут напомніць "дзікунам", якія яшчэ сьлепа вераць у "справядлівыя" выбары. Па-першае: калі хто захоча пераканацца, што людзі ў большасьці на выбары не ходзяць, то раю прыйсьці за 10 мін. да закрыцьця ўчастка ў дзень выбараў і пабачыць, што каля паловы клетак у графе спіска выбаршчыкаў, дзе ставіцца росьпіс аб атрыманьні бюлетэня, пустыя. Але можа так стацца, што за вас ужо распісаліся. А ў справаздачах адзнака: галасавалі 95%. Вось такая фальсіфікацыя і пазвала людзей на Плошчу.

Па-другое: "Крестовый паход" прайшоў па сцэнарыю ўлады. Менавіта яна пазбавіла калону Някляева гукаўзмацняльнай установкі, а яго самога зьбіла да паўсьвядомага стану, што дала магчымасьць "ціхарам" (пераапраненым кадэбістам) і вызваленым датэрмінова з турмы "навушнікам" справацыраваць паход калоны да Дому ўрада, дзе ўжо іх чакаў АМАП, які пазволіў, аднак, гэтым правакатарам рыдлёўкай і драўляным брусам дэманстратыўна перад тэлекамерай пабіць дзьверы і вокны Дома, покуль іх не адрынуў Віталь Рымашэўскі, за што сам спазнаў удар дручка. Дарэчы, ні адзін зь іх не быў зьбіты і асуджаны. Вось так быў зьдзейсьнены "міфічны штурм" Дома ўраду.

Аднак гэта дало права ўладзе арыштаваць самых "небясьпечных" для яе А.Саньнікава і М.Статкевіча і асудзіць. Тым не меньш "дзікун" паверыў у хлусьню. Але не паверыла ёй грамадскасьць. Таму ЕС і асуджае несправядлівасьць, якую ў нас чыніць улада. Дык мо ўжо прыйшла пара адэптарам улады зьняць ружовыя акуляры? 5.04.2012

# ЗРАТУЕМ АЙЧЫНУ!

Выступленьне на 7-й Асамблеі недзяржаўных арганізацый.

Сёньня рэальная Беларусь – гэта кангламерат рознаіменных плыняў спажывальніцтва (жыць не па сродкам), гэта ў сваёй большасьці – аморфная маса замбіраванага "русізмам" народу, якая пад ціскам заангажаванага страхам чынавенства, т.н. "пятай калоны" дыктатуры, страціла сваю нацыянальную годнасьць – адкрыта размаўляць на роднай мове, калі не сказаць больш – страціла твар "гома сапіес". Ён падобна салтыкова-шчэдрынскаму карасю жыве ў сваёй норцы з "хутарской ментальнасьцю" (па Вадзіма Растову) і баіцца высунуцца, каб "як бы чаго ні выйшла", каб ні дай божа не апынуцца ў пашчы шчупака.

Гэтая адметнасьць народа выхоўвалася цэлымі стагодзьдзямі, пачынаючы яшчэ з часу замены дзяржаўнай роднай мовы на карысьць польскай у 1696г., а з 1795 прадоўжанай, калі нахадзіўся край пад абцасам маскаля, які, зьнішчыўшы шматлікімі войнамі каля 60% карэннага насельніцтва і яе духоўны скарб – уніяцтва, прымусова насадзіў пакору пад покрывам Рускай праваслаўнай царквы (не здарма Ігар Тумаш кажа*: лепш мёртвым быць, чым візантыйцам*), а затым, прайшоўшы бальшавіцкім катком па эліце нацыі, амаль зьнішчыла яе галоўны носьбіт – родную мову. І сёння наш народ жыве толькі марамі і, як ні дзіўна, у ілюзіі незалежнай Беларусі, якая цалкам падпарадкавана стылю кіраваньня ў вобразе ездака бурыданавага асла.

Такое прадузятае выхаваньне народа добрага выніку не дае. Ужо сёньня наша краіна стаіць на краю эканамічнага і нацыянальнага калапсу. І ўсё ж наш народ жыве, хоць і не па сродкам, бо без халявы яго будзе цяжка ўвесьці ў зман. Таму ўлада і ахоплена чарговым запалам адарваць ласавы кусок ад "рускага пірага" і самажэрна ідзе ў пастку міфічнага "брата", працятага ардынскім духам шавінізму – праглынуць нас цалкам. Але рускі пірог – гэта блеф, гэта рыбалоўны кручок, на які паквапіўся несьвядомы беларус. Мядзьведжая паслуга будзе вельмі дорага каштаваць народу.

Сёньня ж і Расія, не зважаючы на страту сваёй рэспектабельнасьці, сама пераживае неўсьвядомленыя ёю яшчэ захады неэфектыўнага развіцьця эканомікі. Справа ў тым, што болшаую частку даходу яна атрымлівае ад выняткаў з продажу танных газу і нафты. Нафтавы куш, па сутнасьці дармовыя грошы, для яе стварае дрэнную штуку: вытворчыя адносіны не адпавядаюць прадукцыйным сілам. У выніку чаго яны не запатрабаваны, не актывізуюцца і не развіваюцца. Уявіце сабе, што настаў час, калі топліва атрымліваюць з вады. Нафта – не рэалізуецца. І Расія застаецца ў разбітага карыта. Як была яна лапатнай, так і ёю будзе, калі ўлада не адумаецца і не сьпешна прыме меры.

Таму Саюз Беларусі з Расіяй, як таго заўзята дамагаюцца калабаранты, не што іное, як здрада нацыі, чарговы самаабман, марная трата часу, сіл і сродкаў, якія да дабра не прывядуць. Аб гэтым нас перасьцярагаў яшчэ Кастусь Каліноўскі. Яго выдатны кліч з шыбеніцы – яркае таму пацьвярджэньне. Аб гэтым сьведчыць і сама гісторыя: страта этнічных зямель (ўспомнім "Геаграфію Беларусі" Аркадзя Смоліча), страта каля 25 млн. чал. у войнах, навязаных нам рускім "братам" на працягу 6-ці стагодзьдзяў, нарэшце страта назвы самога народа і краю. Аб гэтым сьведчыць і сучасны стан нашай эканомікі і роднай мовы.

Дастаткова зьвярнуць увагу на такую акалічнасьць. У нашым раёне (мяркую, такое становішча і ў другіх раёнах) няма ні адзінага настаўніка ці выхавацеля дзіцячага садка, якія б выпісвалі газету "Наша Слова". Справа ў тым, што ёсць негалосны ціск чынавенства на кіраўнікоў дзяржаўных органаў і арганізацый не дапускаць беларусіфікацыі. Аб гэтым сьведчаць як адказы на "*немэтазгоднасьць правядзеньня дыктовак*" на мае звароты, так і выявіўшаяся, нарэшце, публікацыя для службовага карыстаньня запіскі кіраўніка дзяржавы № 58/77-1-ДСП ад 02.03.2012, дадзеная ім з нагоды вынікаў фіналу музычнага праекта "Еўрафэст". ("Наша Ніва", 14.03.2012). Калі ўдумацца ў сэнс слоўнага выраза: "*не допускать принудительной белорусификации*",

то мы ўжо нібыта жывём у “чужой” краіне, дзе на правах уласнасьці нам забараняецца родная мова. А як тады разумець прымусовую падпіску на рускамоўныя газеты “Советская Белоруссия” ці “Республика”? Гэта ж – нахабнае блюзьнерства, адкрытая “русіфікацыя”. Проста – зьдзек. Але ж гэта і – завуаліраваная асіміляцыя народа ціхай сапай, якая самажэрна праводзіцца чынавенствам, што сьведчыць аб нацыянальным нігілізме – адрачэнні ад роднай мовы. Трэба ратаваць нашу Спадчыну, нашу годнасьць нацыі! Трэба вяртаць народу гістарычную праўду!

Да гэтай высновы на вопыце свайго жыцьця прыйшлі такія выдатныя дзеячы нацыі, як Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, акадэмік Леанід Лыч і тысячы другіх адраджэнцаў і нават простыя сумленныя людзі, такія як Тацьцяна Ганчарова, якая ў адчаі крычыць: “Божа, ратуй нас!” “Нар.Воля”, 13 красавіка 2012)

Адным з намаганьняў па выратаванні нацыі стаіць справа па кансалідацыі сіл на аснове паўсямеснага і паўсядзённага разгортваньня сеткі школ і дзіцячых садкоў з абучэньнем на роднай мове. Аграмадную справу тут могуць зрабіць такія выданьні, як часопіс “Вясёлка”, газета “Наша Слова” і другія недзяржаўныя выданьні. Вялікую справу павінны зьдзейсьніць і гісторычныя музеі, падобна культурна-асьветніцкаму цэнтру імя Драздовіча ў Бешанковічах, як гэта робіць Ада Райчонак. Я падтрымліваю гэты шлях і прапаную ў дапаўненьне спадкаемцам адраджэньня нацыі свой праект з прыцягненьнем да працы ўпаўнаважаных па распаўсюджваньню літаратурных твораў сейбітаў нацыі і перыядычных выданьняў. У першую чаргу трэба, каб “Наша Слова” было ў кожнай школе. Гэта наша нацыянальнае права – бараніць і шанаваць родную мову. Гэта – наш доўг. І трэба зрабіць так, каб створаныя музеі сталі сапраўднымі цэнтрамі пашырэньня гаворкі сярод нашага люду на роднай мове. Другога выйсьця я не бачу, каб зратаваць нацыю. Я прашу падтрымаць маю ініцыятыву.

5 траўня 2012

# КАМЭНТАРЫІ

**Стар.** 10. * **Паэма:** Напісаць паэму пра Янку Купалу я выношваў гадамі. Яшчэ 1 ліпеня 2005г.”Народная Воля” зьмясьціла артыкул старшыні Беларускага ПАН-цэнтра Уладзімера Някляева “*Безназоўная сьмерць*”, у якой аўтар прыходзіць да думкі, што сьмерць паэта была заказана, бо ніякай крымінальнай справы не заводзілася, што *“яна, па некатарых зьвестках, захоўваецца ў былым архіве ЦК КПСС”*. У аснову паэмы пакладзены гаротны лёс паэта праз асьвятленьне падзей таго часу, у атмасферы якой фарміраваўся яго творчы воблік, і ў залежнасьці ад пагоды якога ствараліся творчыя напрамкі па раскрыцьцю нацыянальнага сьветапогляду ў будаўніка спадчыны. Паколькі зь цягам часу мяняўся характар падзей і стан грамацтва, у якім ён жыў, і які накладваў адпаведна на яго творы свой адбітак, то і зьмест іх у той ці іншай форме (лірыка, рамантыка, проза, эсэістыка) так ці іначай адлюстроўваў іх адметнасьць.

**Стар.** 11. * **Ноч рэакцыі –** перыяд існаваньня (з 1795 па 1904 годы) нашай краіны пасьля падзелу Рэчы Паспалітай у якасьці Паўночна-Заходняга краю Расеі, асабліва пасьля царскага ўказа 1839, згодна якому паводле ідэалогіі “западнорусизма” на тэрыторыі краю зьнішчалася каталіцкая вера і ўніяцтва (спрэс насаждалася праваслаўная вера), забаранялася ўжываньне роднай мовы, назвы нацыянальнасьці “*ліцьвін*” і краіны “*Літванія*” ці, як гэта было прынята ў 1795г., назвы “*беларус*” і “*Беларусія*”. Нас проста называлі “*тутэйшымі*”. Прадаўжалася гэтае прававое безгранічча да начала руска-японскай вайны 1904-05.

**Стар.** 11.* ***“Сардэчная вера” –*** гэта тэістычны сьветапогляд праваслаўя, які трымаецца на веры ў перманентную (беспарыўную) сувязь чалавека з Богам, заснаванай на разуменьні Бога як трансцэндэнтнага (недасягальнага для чалавечага розуму) ўладара сусьвету, і якая **прымусова** патрабуе дыялогу паміж імі з непасрэдным падпарадкаваньнем душы царкве і ператварэньнем, такім чынам, **чалавека ў зомбі**. У каталіцызме тэістычны сьветапогляд трымаецца на *“жывой веры”* – свабодзе волевыяўленьня, якая рэагіруе на сітуацыю часу душой без прымусу.

**Стар.** 11. * **Сюжэт Лучыны**: рэвалюцыйная тэма раскрываецца паэтам Янкам Лучынай (1851-97) у нарысе “З крывавых дзён” пра паўстаньне 1863-64 на Меншчыне. Прадоўжыла тэму паэтэса Цётка як рэдактарка часопіса для моладзі “Лучынка” (назва ўзята ў чэсьць яго імені) і як аўтар твораў рэвалюцыйнага зьместу.

**Стар.** 11. * **Доля:** перафразоўка першага верша паэта *“Мая доля”*, які быў напісаны на польскай мове і датаваны 1904 годам.

**Стар.** 11. * ***“Мужык”*** – першы друкаваны верш, які быў апублікаваны ў менскай газ. *“Северо-Западный край”* 15.5.1905г.

**Стар.** 12. * **Акт цара** – указ Мікалая II ад 1904 па скасаваньні абмежаваньняў ва ўжытку мясцовых моў у сувязі з абвастрэньнем руска-японскіх супярэчнасьцей у канцы 19-га – пачатку 20-га ст., зьвязаных з перадзелам сьфер уплыву на Далёкім Усходзе, якія і прывялі к ваеннаму канфлікту паміж Расеяй і Японіяй. Вайна 1904-05 пачалася 9(22).02.1904 нападам японцаў на Порт-Артур і закончылася поўным паражэньнем рускай арміі, што паскорыла пачатак рэвалюцыі 1905-07. Гэтыя абставіны і вымусілі цара Мікалая II выдаць 12(25).03.1904г. указ, які і скасаваў абмежаваньні ва ўжытку мясцовых моў.

**Стар.** 12. * **Троп *“Нівы”* і *“Загляне сонца...”*** – паэтычны зварот у алегарычнай форме, які распаўсюджваўся ў выданьнях газеты *“Наша Ніва”* і кнігах, выдаваемых суполкай *“Загляне сонца...”*, у якіх працаваў Я.Купала ў якасьці адказнага сакратара (ў Вільні з 1906 па 1909 і 1915-16, а таксама ў Пецярбургу са сьнежня 1909 па 1914). Непасрэдна ў гэты час сфарміраваўся яго творчы воблік.

**Стар.** 12. * ***“Жалейка”*** – назва першага зборніка вершаў, апублікаванага ў Пецярбургу ў 1908г. суполкай *“Загляне сонца...”,* як адбітак нацыянальнага характару народа.

**Стар.** 12. * ***“Як стогн набалелай душы”*** – так ахарактарызаваў народны характар творчасьці паэта пісьменьнік і крытык Альгерд Бульба ў адказ на крытыку польскага пісьменьніка З. Пяткевіча, які сьцвярджаў, што ліра Я.Купалы *“плача штучнымі сьлязамі*” і не адпавядае рэчаіснасьці.

**Стар.** 12. * **Між згубнасьці агнёў:** на тэрыторыі нашай краіны вяліся войны паміж Германіяй і Расеяй да 1919г., а затым паміж Польшчай і Расеяй да 1921г. за яе падзел.

**Стар.** 12. * **Звон-голас:** абвяшчэньне Радай БНР 25 сакавіка 1918г. нашай краіны **Беларускай Народнай Рэспублікай** як незалежнай дзяржавай, якая праіснавала да 1 студзеня 1919г.

**Стар.** 13. * **Разьменная манета:** наша тэрыторыя была падзелена паміж ваюючымі странамі у 1918г. згодна Брэсцкага міру, а затым у 1921г. згодна Рыжскай дамове.

**Стар.** 13. * **Бруд інсінуацый:** Паклёпніцкая выдумка (байка), якая скарыстоўвалася майстрамі заплечных спраў (“*баюнамі*”), каб сфабрыкаваць на змагара за адраджэньне нацыі міфічнае зла-

злачынства і асудзіць яго ўжо як *“ворага народа”*.

**Стар.** 13. * **П’есы жарт –** стыль трагікамедыі *“Тутэйшыя”,* якая забаранялася як у савецкія часы, так і забараняецца сёньня ўладай у школах, баючыся выяўленьня “сапраўднай” палітыкі “русізма”.

**Стар.** 13. * **Лёсікаў стыль:** Навуковая дзейнасць Язэпа Лёсіка на ніве мовазнаўства пачалася з публікацыі ў 1921г. яго “*Практычнай граматыкі*”, якую затым у палітычным акружэньні палічылі “*контррэвалюцыйнай*”. А шматлікія беларускія падручнікі акадэміка (у 1928г. ён быў зацверджаны акадэмікам Бел.АН), якія выдаваліся неаднаразова ў 20-х гадах, ў 30-х былі канфіскаваны. А ўсе мовазнаўцы яго кшталту былі рэпрэсіраваны як *“злосныя нацдэмаўцы”*. Толькі на схіле 80-х гадоў Лёсік і яго супольнікі па працы былі ўведзены ў актыў беларускай лінгвістычнай навукі/

**Стар.** 13. * ***“Сакалiная сям’я”*** сыноў і дочак Беларусі раскрываецца ў гімнавых вершах *“Свайму народу”*, *“Паязджаньне”,* паэмах на гістарычную тэматыку *“На Дзяды”, “На Куцьцю”* і др.

**Стар.** 14. * **Званьне Народнага паэта** было прысвоена ў 1925г. у сувязі з 20-годзьдзем творчай дзейнасьці паэта.

**Стар.** 14. * **Надышло зацьменьне:** перыяд (1929-30) другіх хваляў бальшавіцкага тэрору (першая хваля адбывалася ў 1918-21 у сувязі з наданьнем краіне дзяржаўнасьці з назвай Беларуская Народная Рэспубліка), калі асуджаліся змагары за адраджэньне нацыі па сфабрыкованай справе *“Саюз адраджэньня Беларусі”.*

**Стар.** 14. * **Наклейка:*“нацдэм”*** – так называлі змагароў за адраджэньне нацыі бальшавіцкія прыхвасьні ідэалогіі *“русізма”.*

**Стар.** 14. * **Ластоўскі** Вацлаў – адзін з ідэолагаў беларускага нацыянальна-вызвольнага руху пач. ХХст. (чыт. баладу “**Роўнасьць**” на стар. 45 у кнізе **“На скрыжалях часу”**) як пасланьнік **Веды –** божаства крыніцы зьвестак. Назва паходзіць ад назвы ведычнай рэлігіі – помніка старажытна-індыйскай літаратуры, якая аформілася ў кананічных тэкстах (Ведах).

**Стар.** 14. * **Географ Смоліч –** дзеяч нацыянальна-вызвольнага і сацыялістычнага руху пач. ХХ ст. (чытай “**Баладу пра кніжку**” у кнізе 1-га зборніка твораў “**На хвалі адраджэньня**” на стар.79).

**Стар.** 14. * **Некрашэвіч Сьцяпан** (1883-1937 – беларускі мовазнавец, акадэмік, старшыня Інбелкульта, дырэктар Інстытута мовазнаўства АН БССР. У 1930 арыштаваны па справе *Саюза адраджэньня Беларусі”* і высланы ва Удмурцію. У 1937 арыштаваны паўторна і расстраляны. Рэабілітаваны ў 1938 і 1957.

**Стар.** 14. * **Іван Краскоўскі** (1880-1955) – палітычны дзеяч і педагог, працаваў у БДУ, Інбелкульце і Бел.АН. Арыштаваны па справе *"Саюза адраджэньня Беларусі"* 8.7.1930 і сасланы ў Саратаў на 5 гадоў. У 1937г. зноў арыштаваны, а ў 1940-м вызвалены.

**Стар.** 14. * **Аляксандр Цьвікевіч** ( 1883-1937) – палітычны дзеяч, гісторык, філосаф і публіцыст. 14.7.1930 арыштаваны па справе *"Саюза адраджэньня Беларусі"* і сасланы ў Перм. У 1937 арыштаваны паўторна і расстраляны. Рэабілітаваны ў 1988-89.

**Стар.** 14. * **Лёсік** Язэп – палітык, мовазнаўца, пісьменьнік і педагог, дзеяч нацыянальна-возвольнага і сацыялістычнага руху пач. XX ст. Яму прысьвечана паэма "**Скрыжалі**" (чытай у кнізе "На скрыжалях часу" на стар.21-27) пра адраджэньне роднай мовы: У аснову твора пакладзены факты з артыкула кандыдата філалагічных навук Сяргея **Запрудскага** *"Чалавек зь мінулага, або чаму цяжка сьціраць **"белыя плямы"** ў гісторыі беларускага мовазнаўства",* змешчанага ў кнізе *"Зь гісторыяй на "ВЫ"* (Менск, 1994). Змагарамі за адраджэньне роднай мовы ў ёй пазначаны вядомыя навукоўцы і грамацкія дзеячы: М.Байкоў (1889-1945), А.Баліцкі (1891-1937), П.Бузук (1891-1937), М.Гарэцкі (1893-1938), М.Дурнаво (1876-1937), Р.Ільінскі (1876-1937), В.Ластоўскі (1883-1938), С.Некрашэвіч (1889-1937), Б.Тарашкевіч (1892-1938), А.Цьвікевіч (18783-1937) і **Я.Лёсік** (1883-1940), які ўладамі за свае погляды да адраджэньня нацыі арыштоўваўся 5 разоў (1905, 1911, 1922, 1930, 1938).

**Стар.** 14. * **Яго пяра сьвяты кірунак:** Купала ўжо праз год пасьля наданьня яму званьня Народнага паэта пісаў ў 1926-м:

*Былых ня выклічаш вякоў // І ты, Масквы кароннай гразь,*
*Парваных не скуеш акоў, // Зь якой брахнёю ні вылазь!*

**Стар.** 15. * **Жывот зьверадзіў :** пасьля допыту ў пастарунку АДПУ па абвінавачаньню ў кіраўніцтве міфічнай "нацдэмаўшчынай" 20.11.1930г. паэт спрабаваў пакончыць сваё жыцьцё самагубствам.

**Стар.** 15. * **Спальвалі ў кастрах:** кнігі пад "нацдэмаўскім" іменем падвяргаліся канфіскацыі па спіскам, які спускаў Галоўлітбел, і спальваліся. З кожным годам іх колькасьць узрастала. Асабліва не шчадзілі кніг Я.Лёсіка, Я.Купалы, У. Дубоўкі і др.

**Стар.** 15. * **Песьняра пяро**: Пачынаючы з 1927 года колькасьць вершаў, напісаных пясьняром, заметна скарачалася. Калі ў 1918г. ім было напісана 29, а ў 1926г.– 21, то ў апошнія – па 2 ці 3 верша.

**Стар.** 16. * **Зварот-сказ *"Хто каго":*** Такі слоган быў узьняты на

шчыт ідэолагамі шавінізму, каб спісаць усе нягоды бальшавіцкай тыраніі на *“ворагаў народа” па* міфам, якія самі і фабрыкавалі.

**Стар.** 16. * **Экспрапрыяцыя:** прымусовая канфіскацыя маёмасьці пачалася яшчэ ў 1929г. з арганізацыяй першых калгасаў. Яна масава праводзілася пад лозунгам *“ліквідацыі кулака як класа”* да 1934г. з раскулачваньнем заможных сямей і іх высяленьнем у неабжытыя раёны Расеі. Напрыклад з 1па 14 чэрвеня 1931г. на Урал штодзённа адпраўляўся эшалон з раскулачанымі. Усяго за 1929-32 было раскулачана 48-64 тыс. сямей (297,8–396,8 тыс.чал.: Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, т.6, Мн., 2001, с. 109). У выніку рэпрэсій было адкрытае выступленьне сялян. Пачаліся расстрэлы.

**Стар.** 16. * **Вал тэрору:** З 1933г. настала трэцяя хваля масавага тэрору, якая доўжылася да 1935г. Найбольш масавыя арэсты былі ў першай палове 1933г.: “тройкай” АДПУ было разгледжана 3574 спраў на 13414 чал., зь якіх 2158 – расстраляны, 8617 – асуджаны і 2487 – высланы на пасяленьне (Т.Протько “Становление советской тоталитарной системы в Беларуси в 1917-41гг., Мн., 2002, стар. 549)

**Стар.** 17. * **Ляўкі:** вёска ў Аршанскім р-не, дзе на дачы сваёй сваячкі ў 1935-41 жыў і працаваў паэт. Там цяпер філіял яго музея.

**Стар.** 17. * **Новая бяда:** Набліжалася 4-я хваля рэпрэсій (1936-38).На працягу цэлага дзесяцігодзьдзя (з 1925 па 19336) зьбіраўся “кампрамат” на міфічную *“нацыянал-фашысцкую тэрарыстычную шпіёнска-дыверсійную арганізацыю”* (кіраўнічы цэнтр: Д. Жылуновіч, Т.Кляшторны, М.Зарэцкі, В.Сташэўскі, А.Дудар, А.Вольны), як *“Аб’яднанае антысавецкае падпольле”* (з 1930 па 1938 гг) і др.

**Стар.** 17. * **Здрадніцкі удар:** расстрэлы, якія абрынуліся на ідэалагічны актыў нацыі – лепшых сыноў і дочак Беларусі за яе адраджэньне і прадаўжаліся да самай канчыны “вярхоўнага” (1953г.). Толькі за адну ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937г. ў менскай турме вар’ятамі НКУС расстраляны 107 выбітных прадстаўнікоў творчай і і навукова-тэхнічнай інтэлігенцыі, у т. л. 22 літаратара: Анатоль Вольны (н.1902), Платон Галавач (н.1903), Алесь Дудар (н.1904), Хацкель Дунец (н.1897), Міхась Зарэцкі (н.1901), Васіль Каваль (н.1907), Тодар Кляшторны (н.1903), Майсей Кульбак (н.1896), Юрка Лявонны (н.1908), Ізі Харык (н.1896), Міхась Чарот (н.1896) і др. (Чытай Бюлетэнь Аргкамітэта года памяці №6 ад кастрычніка 2007 **“Рэха ГУЛАГу”**).

**Стар.** 17. * **Намер кацапаў:** так у народзе называлі маскалёў, якія з часоў Івана Грознага прынялі на сябе мянушку “рускія”(у перакладзе з латыні “рустікус” азначае – грубы, нахабны, а пахо-

дзіць яно ад фінскага “ruotsi”, што ў перакладзе – “весляры”, якім наўгародскія славены – выхадцы зь вянедаў – называлі варагаў з шведскіх гандлёва-рабаўнічых атрадаў), у сувязі з наданьнем ў 1589г. маскоўскаму мітрапаліту тытул патрыярха Русі**.** У іпастасі “Усея Русі” ён намагаецца падпарадкаваць сабе ўсе праваслаўныя прыходы незалежна ад таго ў якой дзяржаве яна існуе.

**Стар.** 17. * **Пад чырвоным грыфам:** спіскі 1-й катэгорыі, па якому ахвяры падвяргаліся расстрэлу, ішлі з чырвонай паметкай.

**Стар.** 18. * **Ордэн:** у 1939г. Я.Купале, Я.Коласу, З.Бядуле і др. замест ордэра на расстрэл Сталін загадаў уручыць ордэн Леніна.

**Стар.** 18. * **КРА-ГУЛАГ –** контрразведвальны адзьдзел ГУЛАГА, які займаўся “чысткай” ваеннакаманднага састава напярэдадні вайны з фашыстскай Германіяй, у выніку чаго 42 тыс. чал. каманднага саставу ЧА (як сьцвярджаў пісьменьнік К.Сіманаў 80% вышэйшых /ад палкоўніка да маршала/ і 50% старшых камандзіраў) былі расстраляны.

**Стар.** 18. * **Фашысцкі бот:** 22 чэрвеня 1941 началася вайна зь Германіяй, якая доўжылася да 9 мая 1945.

**Стар.** 19. * **Грукат:** 28.06.1942 паэт быў скінуты зь 10-га паверха ў лесьвічны пралёт гасьцініцы “Масква” ў Маскве “невядомымі”.

**Стар.** 19. * ***“Баюць байкі баюны”* –** выслоўе зь верша паэта Алеся Дудара (1904-37) *“Пасеклі край наш папалам”,* які ў 1928 хадзіў па менскіх кватэрах. За няправільныя думкі ён 3 разы арыстоўваўся і, нарэшце, ў ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 быў расстраляны ў менскай турме разам з другімі 107 вядомымі дзеячамі наукі і культуры (чытай “**здрадніцкі ўдар**” на папярэдняй стар.).

**Стар.** 19**.** * **Някляеў** Уладзімер (н.1954): ініцыятар руху *”Ґавары праўду*!”, пачатую 25 лютага 2010

**Стар.** 21. * **Васіль Супрун** (10.03.1926, в.Галоўсевічы на Слонімшчыне), ініцыятар заснаваньня і кіраўнік беларускага патрыятычнага моладзевага антысавецкага падпольля “Чайка” ў 1946-47 на тэрыторыі Заходняй Беларусі, паэт, краязнавец, археолаг. Падпольле было створана ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце, Берасьцейскім чыгуначным тэхнікуме і настаўніцкім асяродку Слонімшчыны. Яно ставіла сваёй мэтай барацьбу з гвалтоўнай каланізацыяй, русіфікацыяй і вульгарызацыяй краю, абуджэньне нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў, абарону мясцовых традыцыяў, культуры, мовы, гістарычных сьвятыняў. Для агульнага кіраўніцтва арганізацыяй быў створаны падпольны Цэнтр Беларускага Вызвольнага Руху (ЦБВР), які ўзначаліў

В.Супрун. У 1947г. падпольны рух ужо меў свае арганізацыйныя адзінкі ў тагачасных Баранавіцкай, Берасьцейскай, Маладзечанскай і Пінскай абласьцях. Аднак у сярэдзіне 1947 рух быў раскрыты і арганізацыя разгромлена. Як арганізатар і кіраўнік падпольля В. Супрун быў асуджаны на 25 год няволі. У 1956г. ён зь няволі быў вызвалены, працаваў у розных будаўнічых арганізацыях і займаўся археалагічнымі раскопкамі – выявіў бош за 200 археалагічных аб'ектаў, за што ад уладаў не атрымаў не толькі грошай, але і падзякі. Паэзія яго, як і само жыцьцё, уражвае сваёй ахвярнасьцю і любоўю да радзімы. У вершах ён імкнецца спасьцігнуць вытокі патрыятызму і здрады, асэнсаваць тое, што робіцца з народам і Бацькаўшчынай. Паэт сьцвярджае, што без роднай мовы не будзе будучыні ў новага пакаленьня:

*Божа! Калі ж мы жыць будзем, як людзі?*
*Брацьці? Прачнемся калі?*
*Ганьбу й зьнявагу калі мы забудзем*
*На здратаванай зямлі?*

**Стар.** 21. * **Песьня**: маецца на ўвазе песьня са словамі *"я другой такой страны не знаю, где так вольно дышит человек",* зь якою ішлі на лесапавал асуджаныя *"баюнамі заплечных спраў"* па надуманым міфам, растаптаўшы чалавечую годнасьць.

**Стар.** 23. * **Вяліканьне Хрыста**: веснавое сьвята (Вялікдзень) у славян у гонар сонца, абуджэньня прыроды і надыходу "вялікіх дзён" палявых работ, пераасэнсаванае у сьвята ўваскрэсеньня Хрыста – *Пасху*. Менавіта ў гэты дзень мая старшая сястра Надзея (1927-67) павяла мяне за агарод, дзе непадалёку расьлі ёлкі, на якіх вілі сабе гнёзды грачы, каб бачыць як на ўсходзе гуляе сонца. Мне было 9 гадоў і я не бачыў гэтай з'явы прыроды ў сілу склаўшыхся абставін: грачы свой грай вялі–маю адцягвалі ўвагу. Таму я вока не таміў і… сонца – не гуляла.

**Стар.** 24. * **Атэіст** – прыхільнік атэізму: сістэма поглядаў, якая адмаўляе існаваньне Бога як жывой звышнатуральнай істоты.

**Стар.** 24. * **Тэізм** – рэлігійны сьветапогляд, заснаваны на разуменьні Бога як трансцэндэнтнага разумнага пачатку, творцы, ахоўніка і ўладара сусьвету. У яе аснове ляжыць вера ў перманентную сувязь кожнага чалавека з Богам і ў магчымасьць непасрэднага дыялога паміж імі. Пры гэтым акцэнтуецца ўвага на ступені глыбіні і шчырасьці веры: **"жывая вера"** (ў каталіцызме) – душа рэагіруе на сітуацыю часу без прымусу; **"сардэчная вера"** (ў праваслаўі) трымаецца на прымусовым падпарадка-

ваньні душы царкве, а гэта значыць, што “сардэчная вера” – вера няшчырая, яна абарачае чалавека ў раба. Сёньняшняя ўлада на шчыт узьнімае праваслаўе: будуе саборы, дан дазвол на правядзеньне ў школах і войсках курса праваслаўнай культуры і др.

**Стар.** 25. * **Ашвіны**: у ведыйскай і індуісцкай міфалогіі – нябесныя браты-блізьняты (з санскрыту азначае “дзеці кабылы”, якія валодалі лекавымі таямніцамі, пералятталі па паветры на калясьніцы), ўвасаблялі сабой ранішні і вячэрні змрок. У Беларусі ім пакланяліся яшчэ ў пачатку Х1Х ст.

**Стар.** 25. * **Плынь арыянства**: хрысьціянская плынь, заснаваная ў 4-м ст. александрыйскім прэсьвітарам Арыем, які абвяргаў адзінасутнасьць з Айцом 2-й асобы Сьвятой Тройцы – Хрыста, бачачы ў ім пагрозу двухбожжу. Яна была жорстка асуджана, але ў 16 ст. адрадзілася ў якасьці сацыніянства. Прыхільнікамі на Беларусі былі С.Будны, В Цяпінскі і інш. Арыянскія школы існавалі ў Іўі, Клецку, Любчы, Лоску, Нясьвіжы, Наваградку і інш.

**Стар.** 25. **Сьвятая вера** – тэістычная вера ў Бога. (Чытай тлумачэньне да слова “**Тэізм**” на гэтай жа старонцы).

**Стар.** 25. * **Паганства**: старажытнае племя (язычнікі), якое ў вераспавяданьні трымаецца на многабожжы. Усім багам, выглядаючым ідаламі з дрэва – служыў вярхоўны жрэц, дзеяньні якога вызначалі 7 вешчых старцаў. За галоўнага божага весьніка лічыўся **Сварог**. Імя паходзіць ад слова *сварга,* што азначае (санскрыт) – месца нябеснага супакаеньня. Яго сынамі лічацца: **Дажбог** – бог дажджу, **Пярун** – бог грому, **Сварожыч** – бог агню, **Стрыбог** – бог ветру, **Хорс** – бог цяпла (Сонца)…

**Стар.** 26. * **Сімагрл** – бог упрыгожваньня, **Валос (**Вялес) – бог мастацтва**, Доля** – багіня шчасьця, **Макоша** – багіня жытла…

**Стар.** 26. * **Трэба**: богаслужэбны абрад, які ў паганстве адбываўся з жэртвапрынашэньнем чалавечых асоб.

**Стар.** 27. * **Дэманалогія** – рэлігійнае вучэньне пра злых духаў і пра спосабы іх пазбаўленьня: малітвы, заклінаньні і пэўныя культавыя дзеяньні па выгнаньні д’ябла. Адно зь іх:

**Стар**. 17. * **Завіваньне барады** – старадаўні земляробчы абрад: некалькі нязжатых каласкоў скручвалі з кавалачкам хлеба з сольлю і прыцiскалі да зямлі – атрымліваўся жытні “дзядок” з доўгай барадой, які заставаўся зімаваць. Сіла барады (*жыценя*) перадавалася зямлі і забясьпечвала добры ўраджай у будучым.

**Стар.** 27**.** * **Ёўнік** – апякун асеці: ў час сушкі снапоў у ёй спаль-

валі неабмалочаны сноп жыта як ахвяру Сварожычу, да якога зьвярталіся з малітвай, каб не спаліў ёўню.

**Стар.** 27. * **Плады** абраднай дзейнасьці: са старажытных часоў у народзе захаваліся такія абрады, як Ваджэньне тура, Гульня ў пахаваньe, танец "Бычок", "Жаніцьба Цярэшкі" на Полаччыне з цэнтрам у Лепелі ці "Жаніцьба коміна" на Палесьсі, Каравай, Віцьцё вянка ці Варажба, не гаворачы аб Вяліканьні (Пасхі), Дзядах, Радаўніцы, Дажынках і Сёмухі, аб згаданых ужо Купальлі і Калядах і другіх язычніцкіх і хрысьціянскіх абрадах з мэтаю забясьпечыць магічным чынам спрыяньню прыродных з'яў, плё--ну ў працы, дабрабыту, здароўю, працягласьці роду і інш.

**Стар.** 28 * **Кумір**: у нашым выпадку – галоўны бог Сварог.

**Стар.** 28. * **Аскольд і Дзір** – кіеўскія князі ў 9 ст. (864-882). Паводле Нікіфараўскаму летапісу яны былі баярамі Рурыка (варажскага конунга, закліканага ў 862г. "з-за мора" ільменскімі славенамі /выхадцамі зь вянедаў/, весямі, мерямі, муромамі і крывічамі для княжаньня спачатку у Ладазе, а затым у Ноўгарадзе). У 864г. яны ўзначальвалі паход у Канстанцінопаль, пасьля чаго прынялі хрост ад епіскапа, дасланага канстанцінопальскім патрыярхам Фоціем І. Гэтыя падзеі атрымалі назву *Аскольдавага хросту*.

**Стар.** 28. * **Алег** – ваявода Рурыка, пасьля сьмерці якога ў 879г. стаў князем у Ноўгарадзе. Па яго загаду ў 882г. Аскольд і Дзір былі забіты, абвінаваціўшы іх ва ўзурпацыі ўлады. Авалодаўшы затым Кіевам, Алег зрабіў яго сталіцай Рускай дзяржавы.

**Стар.** 28. * **Яраполк** Сьвятаславіч (?-980) – вялікі князь кіеўскі ў знак прызнаньня хрысьціянства (па даным археалагічных раскопак) узьвёў у Кіеве хрысьціянскі храм, які, аднак, пасьля яго вераломнага забойства варагамі ў стане брата Ўладзімера каля г.Родня, быў разбураны, а на яго месцы па загаду Ўладзімера, захапіўшага ўладу, быў створаны язычніцкі пантэон – цэнтральнае паганскае капішча, дзе ўзьвялі драўляных куміраў на чале з Перуном.

**Стар.** 28. * **Улад**: Уладзімер Сьвятаславіч (?-1015) – вялікі князь кіеўскі (980-1015), пазашлюбны сын Сьвятаслава Ігаравіча. У час жорсткіх усобіц пасьля сьмерці бацькі ўцёк у Скандынавію, адкуль вярнуўся з атрадам варагаў у Ноўгарад. Па дарозе захапіў Полацк, забіў там князя Рагвалода, яго жонку і сыноў, а князёўну Рагнеду гвалтам зрабіў сваёй жонкай. Пасьля захапіў Кіеў, вераломна забіўшы Яраполка. На месцы створанага Яраполкам хрысьціянскага храма ўзьвёў паганскае капішча. А каб умацаваць сваю ўладу цягам збору дані з халопаў стаў праводзіць рэпрэсіі.

**Стар.** 28. * **Політэізм** – многабожжа, вера ў многіх багоў. Узьнік у перыяд разлажэньня першабытнай абшчыны на аснове адухаўленьня і персаніфікацыі розных з'яў прыроды.

**Стар**. 28. * **Халоп**: У старажытнай Русі (на тэрыторыі сучаснай Украіны і паўднёвай часткі Беларусі, дзе калісьці пражывалі яцьвягі) паднявольная асоба, па становішчу блізкая да раба.

**Стар.** 29. * **Першыя Сьвятыя**: Летапісец распавядае, як у 983г., пасьля пасьпяховага паходу на тэрыторыю тутэйшых яцьвягаў (сучаснай Беларусі), Уладзімер зьбіраўся "зрабіць трэбу" багам. Было кінутае жэрабя, і выбраны быў "з-за зайдрасьці д'ябла" сын варага-хрысьціяніна. Дружыньнікі Уладзімера скіраваліся да дома гэтага варага, кажучы, што богі зрабілі свой выбар. Той адказаў: *"Не богі гэта, а – лясіна: сёньня ёсьць, а заўтра – згіне... Не аддам свайго сына д'яблам".* Так ён і стаяў з мячом і са сваім сынам у сенцах, пакуль зноў дасланы адзьдзел не зьнішчыў яго двор з усімі абаронцамі. Тыя варагі і сталі аднымі зь першых хрысьціянскіх пакутнікаў Русі, вядомыя пад імёнамі Фёдар і Іван. (Алег Дзярновіч "Гісторыя Беларусі. Частка XIV. Хрост: дзяржава і вера", апубл. у "Нашай Ніве №6.1911).

**Стар.** 29. * **Прызнаньне хрысьціянства**: хрысьціянства як дзяржаўная рэлігія была прынята князем Уладзімерам Сьвятаславічам у 988г. Сам жа ён прыняў хрост у 987г. у Корсуні, а хрышчэньне жыхароў г.Кіева як акт было праведзена грэчаскімі сьвяшчэньнікамі ў р. Дняпро. Аднак рэальна гэты працэс расьцягаўся на стагодзьдзі. На Беларусі ўвядзеньне хрысьціянства прынята лічыць з 992г. – з часу стварэньня Полацкай праваслаўнай епархіі як адміністратыўна-тэрытарыяльнай адзінкі Кіеўскай мітраполіі, хаця яно пачалося на стагодзьдзе раней – пры Аскольдзе.

**Стар.** 29. * **Візантыйшчына**: ад назвы Візантыя як імперыі – дзяржавы ў 4–сяр. 15 ст., якая ўзьнікла ў выніку распаду Рымскай імперыі ў яе ўсходняй частцы. Пануючай рэлігіяй стала хрысьціянства. У выніку барацьбы розных плыняў (арыянства, нестарыянства і інш.) пануючай рэлігіяй стала праваслаўе. Але дагматычныя разнагалосьсі паміж канстанцінопальскім патрыярхам і папскім прастолам прывялі яе ў 1054г. да афіцыйнага расколу (схізмы) паміж усх. і зах. цэрквамі. Канчатковы падзел цэркваў адбыўся пасьля 1204г. А пасьля таго, як туркі-асманы ў 1453г. захапілі і разрабавалі Канстанцінопаль, Руская праваслаўная царква (РПЦ) ў Масковіі ў 1459г. афіцыйна аб'явіла сябе Маскоўскай мітраполіяй, а ў 1589г. усталявала патрыяршаства. З

гэтага часу праваслаўе на нашых землях страціла сваю ролю адметнай духоўнай і сьвецкай улады і пераўтварылася ў РПЦ шавіністычнага толку, спарадзіўшы войны і зьнішчэньне нашай нацыі пад маркай яднаньня славян *“Всея Руси”*.

**Стар.** 29. **Цэсар** – “вярхоўны конунг” (ад улады Візантыйскай імперыі – імператар) хрысьціянізацыі язычнікаў у праваслаўе.

**Стар.** 29. * **Торвальд** – ісландскі вандроўнік, які згодна *“Сагі аб хрышчэньні”* быў накіраваны канстанцінопальскім імператарам (“вярхоўным конунгам”) у **Аўстравег** (“Усходні шлях” – так пазначаліся землі, што ляжалі на ўсход ад Скандынавіі і на ўсходніх берагах Балтыйскага мора) зь місіяй хрысьціянізацыі. Прыбыў ён у Полацк у 986г. разам са сваім памочнікам. Місія яго была настолькі пасьяховай, што ён вырашыў тут застацца, пабудаваў цудоўны манастыр побач з бажніцай Яна Хрысьціцеля. У тым манастыры і закончыўся яго зямны шлях, там жа ён быў і пахаваны. (Чытай Алега Дзярновіча “Гісторыя Беларусі. Частка XV. Хрост: розныя вектары”. Апубл. у “Нашай Ніве”, №8.2011)

**Стар.** 30. * **Рагнеда** (?-1000) – полацкая князёўна, дачка князя Рагвалода. Паводле летапісаў (каля 980) яна адхіліла сватаньне Уладзімера Сьвятаславіча. За адказ ён захапіў Полацк, забіў бацьку, маці і двух братоў, а яе гвалтоўна зрабіў сваёй жонкай. З пачуцьця помсты яна зрабіла няўдалы замах на яго жыцьцё. Уладзімер хацеў пакараць яе, але за маці заступіўся сын Ізяслаў. Тады Уладзімер саслаў яе з сынам у Ізьяслаўль (Заслаўе). Паводле паданьня пасьля хрышчэньня Уладзімера і ліквідацыі гарэма яна другі раз адмовілася выйсьці замуж і пастрыглася ў манашкі пад імем Анастасіі. Няма сумневу ў тым, што вялікі ўплыў на такое рашэньне зрабіла місія Торвальда-Вандроўніка.

**Стар.** 30. * **Прадаслава** – сьвецкае імя полацкай князёўны Еўфрасіньні Полацкай (1102-67). Калі дасягнула паўналецьця, яна ў 1114г. адмовілася ад дынастычнага шлюбу, прыняла анёльскі чын і стала ігуменнай манастыра св. Спаса ў Полацку, прысьвяціўшы сваё жыцьцё асьветніцтву і хрысьціянству. Першая жанчына, кананізаваная рускай праваслаўнай царквой у 1547г. У 1984г. прылічана да Сабора Беларускіх Сьвятых.

**Стар.** 30. * **Бруна**-мніх – саксонскі біскуп зь Квервута (974-1009), які ажыцьцяўляў місію хрысьціянізацыі на землях Прусі і Кіеўскай Русі (нашыя землі ў той часс находзіліся пад уладай Уладзімера Сьвятаславіча). Вось тут яго і напаткала яшчэ прарочаная Уладзімерам сьмерць: у прускіх пушчах, згодна паданьня,

пасьля рэлігійнага дыспуту, падчас якога Бруна кінуў у вогнішча паганскага ідала, ён быў асуджаны жрацамі на спаленьне. Але мясцовы ўладар Нецімер іх прысуд адмяніў. Верагодна, ён і 30 яго набліжаных прынялі хрысьціянства. Аднак супярэчнасьці паміж уладай і грамацтвам наконт прыняцьця хрысьціянства не зьняліся. Таму далейшая місія Бруна была няўдалай. Па загаду Забедэна – другога мясцовага лідара – Бруна схапілі і абезгаловілі, а яго 18 спадарожнікаў павесілі. І вельмі хутка, ў 1024, ён быў у каталіцызме кананізаваны. (Чытай "Гісторыю Беларусі. Частка XVII, Сьвяты Бруна і адкрыцьцё Літвы."Наша Ніва №18, 2011)

**Стар**. 30. * **Міндоўг** (1195?-1263) –заснавальнік і першы вялікі князь Вялікага княства Літваніі. У 1236г. "Краіна Мяндогава" знаходзілася ў саюзных або васальных адносінах з галіцка-валынскім кн. Данілам Раманавічам. Далучыўшы да сваіх уладаньняў Наваградскую зямлю, якая дасталася яму ў спадчыну пасьля сьмерці бацькі Рынгольда (нашчадка полацкіх князёў) ў 1239г., і ўладкаваўшы свайго стаўленьніка ў Полацку, ён фактычна даў пачатак утварэньню ВКЛ. Пасьля гэтага адносіны з Данілам Раманавічам сталі варожымі. У 1246г. Міндоўг прыняў праваслаўны хрост. Але каб замацавацца ва ўладзе ў сувязі з усобіцамі, ён пайшоў на прамыя зносіны з Рымам, прыняў каталіцтва і ў 1253г. каранаваўся ў Наваградку каралеўскай каронай. Але інтрыгі вакол уладарства прымусілі яго ў 1261г. ад каталіцкай веры адмовіцца. Тым не менш, над ім гвалт учынілі падначаленыя яму князі: полацкі Таўцівіл, жамойцкі Транята і нальшчанскі Даўмонт.

**Стар.** 31. * **Сардэчная** вера і **жывая** вера – чытай тлумачэньне слова "**тэізм** " да стар. 24.

**Стар.** 31. * **Гедымін** (каля 1275-1341) – вялікі князь ВКЛ, у час княжаньня якога фактычна завяршыўся працэс аб'яднаньня ліцьвінскіх зямель. У 1323-24 рабіў заходы, каб ахрысьціць у каталіцтва язычніцкае насельніцтва княства, але, бачачы адмоўныя адносіны да гэтага праваслаўных, якія складалі большасьць насельніцтва, і язычніцкай Жамойціі, адмовіўся ад свайго намеру. Тым не менш, каб справіць сваю мэту, ён у 1341г. запрасіў 10 чэшскіх манахаў. Але свае ж сьвятары яго і атруцілі.

**Стар.** 31. * **Альгерд** (1296-1377) – вялікі князь ВКЛ (1345-77) вёў пасьпяховую палітыку канчатковага аб'яднаньня славянскіх зямель у адзіную дзяржаву, што абвастрала яго адносіны з ардынскай Масквой. За час яго княжаньня тэрыторыя ВКЛ па-

вялічылася больш як у 2 разы, што спрыяла развіцьцю краіны, але ўзмацніліся тэрытарыяльныя супярэчнасьці з Масквой.

**Стар.** 31. * ***“Апошнія ахвяры сьвяшчэннага дуба”*** – гістарычная аповесьць Вольгі Іпатавай пра хрысьціянізацыю насельніцтва нашага краю ў час праўленьня Альгерда. У 1345г. за прыняцьце Хрыстовай веры былі павешаны на паганскім дубе яго прыдворныя: Антоній (у паганстве Кумец), Іаан (Няжыла) і Яўстафій (Круглец). У першыя годы свайго валадараньня Альгерд не змог процістаяць жрацам, бо надта яшчэ свежай была памяць аб прычыне сьмерці свайго бацькі. Але праз пэўны час у 1365г. ён рашуча расправіўся з язычніцкімі жрацамі, якія сваёй воляй ў Вільні ўчынілі забойства 7 замежных хрысьціян заходняга (каталіцкага) абраду. Па загаду князя сьвяшчэнны дуб быў ссечаны. А яшчэ праз нейкі час на месцы дуба ўжо стаяла царква Сьвятой Тройцы – ў памяць аб трох пакутніках за новую веру.

**Стар.** 31. * **Нестар** – манах Кіева-Пячэрскага манастыра, летапісец канца 11-пач. 12 ст., адзін са складаньнікаў *“Аповесьці мінулых гадоў”*.

**Стар.** 32. * **Рым у рост**: Маецца на ўвазе пашырэньне каталіцтва на нашых землях пасьля Крэўскай уніі 1385 – дзяржаўнаму саюзу паміж ВКЛ і Польшчай, вымушанага каб процістаяць наступствам Тэўтонскіх ордэнаў.

**Стар.** 32. * **Ягайла** (у праваслаўі Якаў, у каталіцтве Ўладзіслаў; 1352?-1434) – вялікі князь ВКЛ (1377-81,1382-92) і кароль Польшчы (1386-1434), старэйшы сын Альгерда. Каб умацаваць саюз, ён у 1386г. ажаніўся з польскай каралевай Ядвігай і стаў каралём Польшчы, прыняўшы ўмову Крэўскай дамовы ахрысьціць Літву па каталіцкаму абраду. Дзеля гэтага ў 1387г. ён заснаваў ў **Вільні** біскупства і зьдзейсьніў хрышчэньне: у паганскім храме ў даліне Сьвятарога залілі агонь Зьніч вадой. Паганцы, убачыўшы, што богі не ўгневаліся на такую дзёрзкасьць і не ўдарылі перуны, не пакаралі тых, хто асьмеліўся лінуць ваду на Зьніча. Спазнаўшы бясьсільле сваіх багоў перад руплівымі каралеўскімі слугамі, яны заявілі, што згодны хрысьціцца.

**Стар.** 32. * **Вітаўт** (у праваслаўі Аляксандар, у каталіцтве Віганд; 1350-1430) – князь гродзенскі, трокскі, вялікі князь ВКЛ (1392-1430), адзін з самых выдатных дзяржаўных дзеячаў ВКЛ. Сваё імя ён атрымаў у гонар язычаскага бога **Сьвятавіта**. У вуснах ліцьвінаў у Наваградку, дзе ён жыў, яго імя гучала як Віцень. А ў вуснах жамойтаў імя Віт прыняла форму “Вітаўт”, паколькі так

па-жамойцкі яго называла маці, якая была родам з язычніцкага племені, якія жылі на ўзбярэжжы Балтыйскага мора. (Чытай кнігу Вітаўта Чаропкі “Імя ў летапісе”, 1994, стар.265).

**Стар.** 32. * **Адплатны час**: Вітаўт пасьля забойства Ягайлам у 1382г. яго бацькі, каб адпомсьціць яму, прыняў каталіцтва і заключыў у 1384г. з крыжакамі саюз: абавязаўся стаць васалам Тэўтонскага ордэна і аддаў ордэну Жамойцію. Аднак у ходзе барацьбы з Ягайлам ён пераканаўся ў яе бесперспектыўнасьці і згадзіўся на мір, атрымаўшы ад Ягайлы Бярэсьце і Гародню, большасьць насельніцтва якіх складалі праваслаўныя, што і вымусіла яго перайсьці ў праваслаўе. Але скора, у час заключэньня Крэўскай уніі, зноў прыняў каталіцтва. Толькі пасьля упартай барацьбы за ўладу ў 1392г. было заключана Востраўскае пагадненьне і Вітаўт стаў вялікім князем ВКЛ.

**Стар.** 32. * **Рызыкнуў нашчадкам**: у часы свайго прыніжэньня ў барацьбе за ўладу зь Ягайлам Вітаўт заключыў новы саюз з крыжакамі ў 1390г. На гэты раз яны ў якасьці заложнікаў узялі яго сваякоў і сыноў Івана і Юрыя. Умовы былі ранейшыя. Аднак крыжацкія заходы завалодаць Вільняй і Гародняй прымусілі Ягайла пайсьці на уступкі Вітаўту – перадаць яму вярхоўную ўладу ВКЛ. І Вітаўт згадзіўся, пакаяўшыся ў “непаразуменьні”, хоць і рызыкаваў сваімі сынамі. Мара яго зьдзейсьнілася – ён стаў вялікім князем. Але радасьць была нядоўгай: рыцары ў Кралеўцы (сучасны Калінінград) сыноў атруцілі.

**Стар.** 33. * **Грунвальд**: вырашальная бітва ў Вялікай вайне 1409–11 паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай з аднаго боку і Тэўтонскім ордэнам з другога, якая адбылася 15 ліпеня 1410г. каля населеных пунктаў Грунвальд і Таненберг; з’явілася галоўным этапам вайны, план якой быў распрацаваны Ягайлам і Вітаўтам на Берасьцейскай сустрэчы 1409. Бітва завершылася поўным разгромам крыжакоў, пасьля якой магутнасьць ордэна была поўнасьцю падарвана. Бітве пад Грунвальдам я прысьвяціў твор “Оду братэрства” (чыт. кн. “**На хвалі Адраджэньня”** на стар.101).

**Стар**. 33. * **Мітраполіі** сталіцу: Вітаўт, разумеючы ролю праваслаўнага насельніцтва ў дзяржаве, у 1416г. перанёс сталіцу праваслаўнай мітраполіі з Кіева ў Вільню на чале з Цымблакам Грыгорыем (1364-1419) з яго рэзідэнцыяй у Навагрудку. Такім чынам, Вільня стала сталіцай двух хрысьціянскіх канфесій – і каталіцкага і праваслаўнага веравызнаньня.

**Стар**. 33. * **Томас Мор** (1478-1535) – англійскі гуманіст, адзін з за-

снавальнікаў утапічнага сацыялізму. Пабудову новага грамацтва зьвязваў з разьвіцьцём сьвядомасьці і маральным выхаваньнем: *як нельга аддзяліць чалавека ад Бога, так нельга аддзяліць палітыку ад маралі*. Ён быў абвінавачаны ў дзяржаўнай здрадзе і пакараны сьмерцю. У 1935г. кананізаваны каталіцкай царквой.

**Стар**. 34. * **Патрыяршства:** Маецца на ўвазе факт абвяшчэньня ў 1589г. Маскоўскай мітраполіі (афіцыйна называлася мітраполіяй з 1459г.) сябе патрыярхіяй "*Всея Руси*" (чытай тлумачэньне на стар. 98 **"Візантыйшчына"**).

**Стар**. 34. * **Аселы мір:** імперскія амбіцыі Маскоўскай РПЦ па захвату нашых тэрыторый (нібыта роднасных ёй: маскалі этнічна ніколі не былі нам роднаснай нацыяй, яны па этнасу – угра-фінаардынскага паходжаньня) нарушылі спакойнае трывалае жыцьцё ў ВКЛ, якое існавала да ўзвышэньня Масковіі, і распачала войны (1492-94, 1500-03, 1507-08, 1512-22, 1534-37) за аб'яднаньне ўсходнеславянскіх зямель у складзе Маскоўскай дзяржавы, на якія айцы РПЦ бласлаўляюць сваіх воінаў. Гэта – сьвятатацтва, поўнае крушэньня сьвятыней хрысьціянства (6-га завета), за якое яны цынічна ратуюць у рамках хрысьціянізацыі "*Всяе Руси*".

**Стар**. 34. * **Саюз канфесій:** ідэя аб'яднаньня каталіцкай і праваслаўнай цэркваў на нашых землях узьнікла яшчэ ў 1397г. Ягайла сумесна са сваёй жонкай Ядвігай (1374-99), падтрымліваючы заходы мітрапаліта Кіеўскага і Ўсяе Русі Кіпрыяна на заключэньне уніі, заснавалі ў Кракаве кляштар, дзе вялі падрыхтоўку сьвятароў з мэтай аднаўленьня адзінства ўсяленскай хрысьціянскай царквы. Але гэты працэс расцягнуўся аж на 2ст.– асуджаліся Канстанцінопальскім і Іерусалімскім саборамі. І толькі імперскія амбіцыі РПЦ праглынуць наш край (пачаліся новыя войны па захвату нашых зямель) вымусілі кіраўнікоў двух дзяржаў заключыць спачатку ўнію польска-літоўскую ў 1569г. у Любліне на прынцыпах раўнапраўя абедзьвюх дзяржаў, а затым у 1596 у Бярэсьці (у сувязі з усталяваньнем у 1589г. Маскоўскага патрыяршаства) і рэлігійную, па ўмовах якой праваслаўная царква прынімала дагматыку каталіцкага веравызнаньня, захаваўшы ўсходнія грэка-візантыйскія рытуалы і традыцыйную праваслаўную абраднасьць. Пытаньні ўніі праваслаўнай царквы з каталіцкай распрацаваў у тэарытычным плане езуіт Пётр Скарга (1535-1612). Пераход ва ўніяцтва сустрэў сярод прыхільнікаў РПЦ жорсткі супраціў. Але шырокая асьветніцка-адукацыйная дзейнасьць сьвятароў І.Кунцэвіча, І.Руцкага, М.Рагозы, І.Пацея, і др. далі

плён. Увага да нацыянальна-культурных традыцый, выкарыстаньне ў рэлігійным жыцьці роднай (ліцьвінскай) мовы спрыялі павелічэньню ўплыву грэка-каталіцкай царквы і да канца 18 ст. яна ахоплівала ўжо больш за 80% насельніцтва Літваніі (Досьвед С.Дубянецкага, БЭ, т.2, стар.409). На сёньняшні дзень, дзякуючы праўладнай палітыцы "русіцызма" і "самажэрства", лічбы адваротныя: у праваслаўі – 80%, а ў каталіцтве толькі 10%

**Стар**. 35. * **Пацей** Іпацій (1541-1613) – царкоўны і дзяржаўны дзеяч, ініцыятар і арганізатар Уніі 1596, аўтар палемічных твораў у абарону ўніі, уніяцкі мітрапаліт (1599-1613).

**Стар**. 35. * **Рагоза** Міхаіл (1540-99) – праваслаўны, потым уніяцкі царкоўны дзеяч, архімандрыт з 1579г., мітрапаліт Кіеўскі і Усяе Русі з 1589г. З 1594г. далучыўся да падрыхтоўкі злучэньня праваслаўнай царквы з рымска-каталіцкай. Пад яго старшынствам царкоўны сабор у 1596г. абвясьціў у Бярэсьці Унію і зацьвердзіў яе ўмовы, за што сабор РПЦ пазбавіў яго сана. Ва ўніяцкай царкве захаваў тытул мітрапаліта (1595-99).

**Стар**. 35. * **Руцкі** Іосіф (1574-1637) – царкоўны дзеяч, педагог і філосаф, вучыўся у Грэчаскім калегіуме ў Рыме. З 1602г. рэктар Віленскай уніяцкай семінарыі. З 1608г. – намесьнік І.Пацея, з 1609г. – архімандрыт, з 1613г. – уніяцкі мітрапаліт.

**Стар**. 35. * **Езуіты**: члены каталіцкага манаскага ордэна "Таварыства Ісуса", створанага ў1534г. іспанскім дваранінам І.Лаёлам для барацьбы з Рэфармацыяй і ўмацаваньня каталіцызму. Ордэн трымецца на аснове строгай дысцыпліны і абслютнай волі яго кіраўніка.

**Стар**. 35. * **Барока:** стыль мастацтва 16-18 ст. вызначаецца фантастычным процістаўленьнем ідэльнага і пачуцьцёвага, ірацыянальнага і разумовага, што прыдае творам эмацыянальную афарбоўку і інтэлектуальную напружанасьць, так уласьцівыя рэлігіёзнай экзальтацыі. Пачатак эпохі на Беларусі зьвязаны з будаўніцтвам першага ў Рэчы Паспліітай помніка архітэктуры – Нясьвіжскага касьцёла езуітаў (1584-93), за ім усьлед забудовы: Гальшанскі палац, Гродзенскі касьцёл і кляштар езуітаў, Слонімскі Андрэеўскі касьцёл, Магілёўская ратуша, Ружанскі палацавы комплекс і др. Мастацкія прынцыпы барока яскрава выявіліся ў ткацтве (Слуцкія паясы), у вырабах са шкла (Урэцкая мануфактура), у разьбе па дрэве ("беларуская рэзь"), у літаратуры ("Прамова русіна", "Ліст да Абуховіча" і інш.), у музыцы ("Полацкі сшытак"), у відовішчах (лялечны тэатр "батлейка") і г.д.

**Стар**. 35. * **Дыбкі**: маскоўскі клір, бачачы памехі палітыцы "вызваленьня заходняй Русі ад каталіцкага прыгнёту" з боку уніяцтва, распачала праводзіць сярод праваслаўных шантаж і правакацыі, якія потым выліваліся ў адкрытыя выступленьні супроць уніятаў накшталт Полацкага Паўстаньня 1623.

**Стар**. 36. * **Кунцэвіч** Іасафат ( 1580-1623) – уніяцкі царкоўны дзеяч, сьвятар з 1609г. Разам зь мітрапалітам І.Руцкім удзельнічаў у стварэньні ордэна базыльян. У 1618-23 – архіепіскап Полацкі, аўтар палемічных твораў у абарону Уніі 1596. Забіты мяшчанамі Віцьбеска ў час так званага Паўстаньня 1623г. У 1867г. абвешчаны сьвятым каталіцкай царквы.

**Стар**. 37. * **Войны**: у сувязі з пашырэньнем уніяцтва і выхаду насельніцтва з-пад улады РПЦ, яе сьвятары сталі біць трывогу аб небяспецы, якая нібыта сыходзіць ад каталіцтва, і зноў распачаліся войны (1609-18, 1632-37, 1654-67). Асабліва трагічнымі для нашага народа была вайна 1654-67), якая займела назву як "невядомая" (прынесла страты насельніцтва ў памеры 52%) і Паўночная 1700-21, якая прынесла таксама вялікія беды (страты каля 30%).

**Стар**. 27. * "**Невядомая вайна**": у выніку гэтай вайны насельніцтва ВКЛ паменшылася з 2,9 млн. да 1,4 млн. чал. Найбольш пацярпелі ўсходнія раёны і цэнтральная частка, дзе вынішчылі да 70-80% насельніцтва. Зьнішчаліся поўнасьцю гарады і сёлы. Гэта значыць – нацыя зьнішчалася пад корань. З таго часу краіну засялялі маскалі і другія нацыі з усходу, што значна паўплывала на сёньняшні электарат зь яе верай, як вядома – праваслаўнай. Эканоміка краю аказалася ў стане поўнага заняпаду. Як сцьвярджае гісторык і пісьменьнік Ул.Арлоў: *"У выніку той вайны іншым зрабілася практычна ўсё – ад умоваў жыцьця да нацыянальнага генафонду. І менавіта ў цяжкіх наступствах тых падзеяў трэба шукаць прычыны многіх нашых цяперашніх нацыянальных бедаў, пачынаючы ад слабой нацыянальнай кансалідацыі"*. І, як заўважыў Сяргей Дубавец у сваёй кнізе "Вострая Брама" (стар.434): *"нават масавыя сталінскія і гітлераўскія расстрэлы, канцлягеры і высылкі не настолькі зьмянілі аблічча нашай краіны і нас саміх, як тая 13-гадовая вайна. Падобна, што да вайны гэта быў адзін народ, а пасьля ўжо – зусім іншы"*. Пісьменьнік Сакрат Яновіч удакладняе: *"Ён стаў іншы перш за ўсё біялагічна. Бо пасьля тае вайны, як згадваюць мэмуарысты, можна было па Белай Русі ісьці цэлы дзень і не спаткаць жывога чалавека. Толькі на дарогах, у палях і спаленых вёсках гнілі чалавечыя трупы.*

*Разумееце, што гэта значыць? Не было людзей. Ня кажучы ўжо пра гаспадарку. Я чытаў тагачасныя маскоўскія дакументы, дык там бясконца паўтараецца адна фраза ў заканчэньні кожнага загаду: "Спаліць усё да галавешак". У нас забралі фактычна нацыю".* Вось такія адносіны былі маскаля-ардынца да свайго брата-ліцьвіна, якога мусіў праз 2 ст. назваць "беларусам", а затым, каб зьнішчыць і гэтае падабенства, назваць проста "тутэйшым". Многія з нас да апошняга часу не мелі ніякіх зьвестак аб тых войнах, якія спараджалі нашыя "браты" з адной мэтай: зрабіць наш край Паўночна-Заходнім краем Расеі, чаго ў канцы канцоў Масква і дабілася, падзяліўшы Рэч Паспалітую на часткі. Каб не гэтыя войны і сталінскі генацыд 1924-53 гадоў, то у нас пражывала бы каля 30 млн. чал.

Стар. 37 * **Марс** – згодна рымскай міфалогіі бог вайны.

**Стар.** 37. * **Сімяон** Полацкі (1629-80) – рэлігійны і грамацкі дзеяч. У 1654-64 – настаўнік брацкай школы, якія ствараліся пры цэрквах і манастырах з дабрачыннай і асьветніцкай дзейнасьцю. Прапагандаваў ідэю ўз'яднаньня хрысьціян пад духоўнай эгідай рымскага папы і пад дзяржаўным патранатам маскоўскага цара. У час вайны 1654-67 панягерычна вітаў цара Аляксея ў Полацку, здрадзіўшы нацыі. Вядомы як паэт, прыхільнік асьветнага абсалютызму. З 1664г. жыў ў Маскве, быў першым прыдворным паэтам і драматургам расейскіх цароў.

**Стар**. 38. * **Царыца** – Кацярына II (1729-96) 22 красавіка 1794г. выдала указ ***"Об искоренении Унии"*** на падставе таго, што сяляне-ўніяты і сьвятары актыўна ўдзельнічалі ў паўстаньні 1794 пад кіраўніцтвам Т.Касьцюшкі. Ужо ў 1795г. былі скасаваны ўсе ўніяцкія епархіі, акрамя Полацкай. Пры гэтым яна загадала: *"Великое княжество Литовское впредь именовать Белой Русью, а народ её белорусами, чем на века привяжем её к России. Замирить Белую Русь военной силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя и русского попа. Именно они отнимут у белорусов не только их язык, но и саму память про себя".* Спачатку вынішчэньне вялося на добраахвотнай аснове, але пасьля Паўстаньня 1830-31 "далучэньне" ўніятаў да праваслаўнай царквы праводзілася ўжо па ўказу цара Мікалая I ад 25 сакавіка 1839г. прымусова. З гэтага часу імперскі гнёт лёг чорнай плямай на нацыянальную сьвядомасьць народа, якая вынішчалася *"мячом забароны"* (сьвятароў зьнішчалі фізічна за ўжываньне роднай мовы), каб *"вновь воссоединённый народ"*

згодна ідэалогіі *“западнорусизма”* стаў *“истинно русским”*.

**Стар**. 38. * **Садкоўскі** Віктар – архіерэй Менскай праваслаўнай епархіі (Чытай эсэ “Карані «русизма»” на стар.6-9).

**Стар.** 38. * **Паўстаньне**: маецца на ўвазе Паўстаньне (Вайна) **1830-31**, якое ў нас амаль забыта, каб не кідаць цень на свайго “сабрата”. Вось што нам паведамляе пра яго гісторык Сяргей Харэўскі (чытай праект “**Вострая Брама**” Сяргея Дубаўца, 2005, стар. 51-58): *Вайна 1831 году дзеліць гісторыю нашае культуры на “**да**” і “**пасьля**”. “**Да**” існавалі ўнівэрсытэты, кляштары, магнацкія рэзыдэнцыі, пры якіх былі калегіюмы, школы, бібліятэкі, тэатры, музеі, шпіталі… “**Пасьля**” ўсго гэтага ня стала. Засталася дата – 1831 год, і пытаньні. Першае зь іх – як называць тую вайну. У Польшчы яе называюць Лістападаўскім паўстаньнем, маючы на ўвазе лістапад 1830 году. У Беларусі яна пачалася толькі ў сакавіку 1831-га, а скончылася ў 1833-м. Палякі змагаліся за сваю канстытуцыю й дзяржаўнасьць. Яны мелі аўтаномію, сэйм і нават войска... Беларусы ня мелі нічога і змагаліся “за нашу і вашу свабоду”... Стары расейскі слоўнік Бракгаўза спасылаецца на кнігу нейкага Пузырэўскага “Польская вайна 1831”… Гэтак яна і ўвайшла ў эўрапейскую гісторыю. Чужая вайна… Але кроў была наша… Адам Міцкевіч прысьвяціў падзеям тае вайны сваю паэму “Дзяды”. Магутным творам, зьвязаным з вайною, стаў палянэз Агінскага “Разьвітаньне з Радзімаю”, напісанага ў 1831 годзе. Сусьветная клясыка… Большага ў беларускай культуры пра тыя падзеі не сказана і дасёньня… Менавіта пасьля тае вайны расейцы забаранілі нават згадваць назвы Беларусь і Літва…*

*Чым стала вайна для нашай культуры? Наступствы паразы былі катастрафічныя. Тысячы людзей былі расстраляныя, павешаныя, сасланыя на катаргу* (па загаду Мураўёва-вешальніка). *Дзясяткі тысяч былі пазбаўленыя маёмасьці і шляхецкіх правоў. У князя Яўстаха Сапегі канфіскавалі маёнткі ў Ружанах і Дзярэчыне… Былі **скасаваныя і выгнаныя ўсе каталіцкія кляштары**. **Ліквідаваная царкоўная унія**. Спынена дзеяньне Вялікага Статуту, зруйнаваныя многія старасьвецкія ратушы. Зачынены Віленскі ўнівэрсітэт… Даверлівых сялянаў напаткаў прыгон новых, расейскіх паноў, і рэкрутчына* (па лёсу Тараса Шаўчэнкі) *ў “маскалі”… Культурны і духоўны фон зьмяніўся непазнавальна менавіта пасьля 1831 году. Тыя каласальныя страты нічым не замененыя дасёньня.*

**Стар.** 24. * **Магільшчык Мураўёў** Міхаіл (1796-1866) – расейскі дзяржаўны і ваенны дзеяч, за дзікую расправу з паўстанцамі 1830-31 (толькі па суду рэпрэсіраваў 9361 чал., а ў Сібір саслаў сотні тысяч) быў празваны *"вешальнікам"*, праводзіў палітыку радыкальнай русіфікацыі і пераводу ўніятаў у праваслаўе (Чытай эсэ "Карані «русизма»" на стар 6-9).

**Стар.** 39. * **Булгак** Ігнацій Іасафат (1758-1838) – царкоўны дзеяч, доктар тэалогіі і кананічнага права, член ордэна базыльян; у час цараваньня Паўла І (1796-1801) садзейнічаў вяртаньню ў унію прыходаў, якія былі пераведзены ў праваслаўе; у 1798-1828 – епіскап у Бярэсьці; мітрапаліт Грэка-каталіцкай царквы (1817-38), з 1828 – старшыня асобнай Грэка-каталіцкай калегіі, з 1833 – архіепіскап Полацкі. Яго сьмерць зьняла апошнюю перашкоду для скасаваньня Ўніі 1596.

**Стар.** 39. * **Сабор**: сход іерархаў уніяцкай царквы ў межах Расейскай імперыі (прыхільнікаў скасаваньня Ўніі: І.Сямашкі, А.Зубко, В.Лужынскага і 21 іншых духоўных асоб) прыняў рашэньне аб яе далучэньні да Рускай праваслаўнай царквы (РПЦ) на Полацкім царкоўным саборы 1839. Пасьля Паўстаньня 1830-31 пры праўленьні імператара Мікалая І (1825-55) праводзілася палітыка ўзмацненьня **"рускага элемента"** ў заходніх губернях Расеі: ліцьвіны (яны ўжо сталі называцца беларусамі) і ўкраінцы былі абвешчаны неадрыўнай часткай рускага (на самай справе ардынскага) народа, што выклікала пытаньне аб іх рэлігійнай уніфікацыі. Паводле ўказа Мікалая І Сінод прыняў царкоўную пастанову аб скасаваньні уніі. Найбольш цяжка скасоўвалася уніяцтва ў паўночнай частцы Беларусі, дзе лацінізацыя Грэка-каталіцкай царквы была найбольш глыбокая. Да праваслаўнай царквы прымусова было далучана каля 2 млн. уніятаў. Частка ўніятаў перайшла ў рыма-каталікі (В.Кірэеў, БЭ,т.12, стар.469).

**Стар.** 39. * **Ідэя рускага пытаньня:** чытай пра "**рускі элемент**" на гэтай жа старонцы ў тлумачэньні "**Сабор**".

**Стар.** 39. * **Расход**: Маецца на ўвазе расстрэл найбольш заўзятых працўнікаў скасаваньня уніяцтва.

**Стар.** 39. * **Смута**: хваляваньні народных мас супроць царскага засільля вылілася ў Паўстаньне 1863-64.

**Стар.** 39. * **Ясь –** "Яська-гаспадар з-пад Вільні", пад такім псеўдонімам выступаў Кастусь Каліноўскі (1838-64), лідар беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, адзін зь кіраўнікоў Паўстаньня 1863-64. Ён – адзін з выдаўцоў, аўтар і рэдактар газеты

для сялян на роднай мове “Мужыцкая праўда”, на старонках якой друкаваліся ідэі *“Маніфеста літоўскага правінцыяльнага камітэта 1863”* аб сацыяльнай і нацыянальнай свабодзе, выступаў у абарону ўніяцтва, супроць прымусовага пераводу сялян у праваслаўе. Пасьля паразы паўстаньня арыштаваны і згодна рашэньня ваенна-палявога суда павешаны на Лукішскай плошчы ў Вільні. У **“Лісьце з-пад шыбеніцы”** ён пісаў: *“Я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табою маскаля ўжо не будзе!”* Гэтыя прарочыя словы спраўдзіліся: як сьведчыць гісторыя, перыяды з 1839 да руска-японскай вайны 1904-05 і гады сталінскіх рэпрэсій 1924-53 былі самымі жахлівымі ў гісторыі нашага народа. Яму я прысьвяціў верш “Парада Яські”, зьмешчанага ў кнізе “На хвалі Адраджэньня” на стар. 22-23.

**Стар**. 39. * **Прарок** – Францішак Багушэвіч (1840-1900), беларускі паэт, празаік і публіцыст, удзельнік Паўстаньня 1863-64, рэвалюцыйны дэмакрат, пачынальнік крытычнага рэалізму ў нацыянальнай літаратуры. У яго творчасьці на ўвесь голас загучалі матывы нацыянальнага адраджэньня. У прадмове да зб. *“Дудка беларуская”* ён абгрунтаваў права нашага народа на разьвіцьцё сваёй мовы, якая была забаронена, і заклікаў:*”Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі”*. Яму я прысьвяціў верш “Дух прарока”, зьмешчанага ў кнізе “На хвалі Адраджэньня” на стар. 45-47.

**Стар**. 40. * **Аддзяліць царкву:** пасьля лютаўскай рэвалюцыі беларускія сьвятары-католікі на сваім з’ездзе ў Мінску 24-25 траўня 1917г. прынялі пастанову аб беларусізацыі рэлігійнага жыцьця. Спачатку сапраўды былі надзеі: у Пецярбургу і Вільні было заснавана Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратычнае Згуртаваньне (БХДЗ), з 8 верасьня ў Пецярбургу стала выходзіць газета “Крыніца” пад рэдакцыяй ксяндза Л.Хвяцька, мітрапаліт Эдвард фон Рап дазволіў выкарыстоўваць беларускую мову ў пропаведзях і катэхізацыі, а айцец Фабіян Абрантовіч спрабаваў па вясьне 1918 стварыць у Менску Беларускую Каталіцкую духоўную акадэмію, ў 1917г. грамацкія дзеячы браты Іван і Антон Луцкевічы рабілі захады для адраджэньня у Беларусі Ўніяцкай царквы і з гэтай мэтай сакрэтна запрасілі ў Вільню толькі што вызваленага з расейскай турмы львоўскага мітрапаліта Андрэя Шапціцкага. Але надзеі разьбіліся аб жорсткую рэчаіснасьць. Савецкая ўлада, выдаўшы 23 студзеня 1918г. *“Дэкрэт аб аддзя-*

*леньні Царквы ад дзяржавы",* павяла сістэматычнае наступленьне супроць рэлігіі і, ў першую чаргу, супроць каталікаў і ўніятаў. Ужо ў 1919г. пракацілася першая хваля масавага арышту. І ўжо 17 красавіка 1919г. быў арыштаваны ў Пецярбургу Э.Рап. За ім сьледам ішлі і другія арышты. Хвалі чырвонага плягеру працягваліся аж да падзей у Віскулях 1991, калі з карты зьнікла СССР (З досьведу ксяндза Л.Гарошкі, зб. "Дзяды", вып 5, стар.167).

**Стар**. 40. * **Слосканс** Баляслаў (1893-1981) – каталіцкі епіскап Мінскі і Магілёўскі, Апостальскі візітар для беларусаў (1952-81) у Зах. Еўропе, з 1927 па 1932 у ссылцы на Салаўках і Туруханску. Ад расстрэлу яго выратавала яго служанка, якая ў прысутнасьці сьведак, дрыжачы ад страху, адважылася сказаць: *"Калі вас, бацюшка, не было дома, сюда прыходзілі трое агентаў ДПУ, адзін зь іх заставаўся са мною ў прыхожай, а двое другіх уваходдзілі ў комнату, закрылі за сабою дзьверы і што яны там рабілі, я не знаю".* У яго лёсе, як у кроплі вады, адлюстравалася жыцьцё сьвятароў Рыма-каталіцкай царквы на тэрыторыі СССР. (Лев Горошко *"Судьба епископа – судьба церкви",* сб. "Деды", дайджест публикаций о бел. истории, вып.5, стр.167-194).

**Стар**. 40. * **Расстрэлы духавенства:** Расстрэлы праходзілі па ўсяму Саюзу. Толькі ў маленькай БССР (6 пав.) за 1921 год расстралялі 201 праваслаўнага і каталіцкага сьвятара (там жа, стар.169)

**Стар**. 42. * **Гадлеўскі** Вінцэнт (1888-1942) – сьвятар каталіцкай веры і палітык, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху, браў удзел у пасяджэньнях Першага Ўсебеларускага зьезду 1917 і ўваходзіў у склад БНР, стаў адным з заснавальнікаў Беларускай хрысьціянскай дэмакоатыі (БХД). У верасьні 1941-га ксёндз зьявіўся ў Менску і ўзяўся за ажыцьцяўленьне сваёй галоўнай мэты – арганізацыю незалежніцкага антынацысцкага і антысавецкага Супраціву, маючы на ўвазе стварэньне незалежнай дзяржавы. На пачатку 1942г. быў у ліку стваральнікаў незалежніцкай партыі, якая выступала адначасова супраць як нацыстаў, так і бальшавікоў. Пра вагу асобы ксяндза ў тагачаснай ваеннапалітычнай сітуацыі сьведчыць тое, што прадстаўнікі Камітэту абароны СССР праз выведнікаў ініцыявалі зь ім перамовы аб магчымым удзелу беларускіх нацыяналістаў у антыфашыстоўскім змаганьні. Гаворка вялася нібы пра вызваленьне з лагераў вязьняў-беларусаў і фармаваньні зь іх нацыянальнага войска кшталту польскай арміі генерала Андэрса. Існуе меркаваньне, што атрымаўшы ад айца ўсе неабходныя зьвесткі, савецкія

агенты адразу ж здалі яго немцам. Аб гэтым сьведчыць зьмешчаны 23 сьнежня 1942г. у менскай "Беларускай газэце" вялікі артыкул – мемуар Гадлеўскага пра Першы Ўсебеларускі з'езд (кангрэс), у тэкст якога быў зьверстаны мужны, прасякнуты незалежніцкім настроем, верш Натальлі Арсеньневай "Годзе!". Ксёндз назаўтра быў арыштаваны і ў той жа дзень расстраляны. (З досьведу Ул-ра Арлова "Імёны Свабоды", 2007, стар.152-153).

**Стар**. 42. * **Рубікон** – крылаты выраз "перайсьці Рубікон" тлумачыцца як прыняць беспаваротнае рашэньне, якое ўвайшло ў абіход па прыкладу Юлія Цэзара ў 49г. да н.э., які насуперак закону перайшоў раку Рубікон і гэтым самым пачаў вайну.

**Стар**. 42. * **Прапляжыць уніятаў**: бязьлітаснае зьнішчэньне сьвятароў каталіцкага і уніяцкага веравызнаньня стала галоўнай мэтай бальшавікоў, каб сьцерці з карты нацыю беларусаў. З гэтай мэтай яны 21-26 студзеня 1923 учынілі вялікі судзебны працэс у Маскве над 15 каталіцкімі сьвятарамі, на якім яны абвіняліся ў "супраціўленьні ўладзе", фальсіфікуючы справы ў нібыта існуючым шпіянажы. Нягледзячы на беспадстаўнасьць інкрымініраваных ім фактаў, архіепіскапа Яна **Цэплака** і генеральнага вікарыя Канстанціна **Буткевіча** "революционные судьи" прыгаварылі к сьмерці, а астатніх да пазбаўленьня волі на срок ад трох да дзесяці гадоў. Прыгавор выклікаў вялікае абурэньне ў странах Зах. Еўропы і Амерыкі. Таму бальшавікі з дыпламатычных меркаваньняў замянілі сьмяротны прыгавор Цэплаку дзесяцьцю гадамі турмы (23 сакавіка 1924г. яго абмянялі на некалькі камуністаў з Польшчы), а вот Буткевіча 30 сакавіка ўсё ж такі расстралялі. Пасьля гэтай паразы многія парафіі пуставалі з-за адсутнасьці ксяндзоў. (З досьведу Льва Гарошкі *"Лёс епіскапа – лёс царквы"*, зб."Дзяды", вып.5, стар.168-169).

**Стар**. 42. * **Януковіч** Пётр (1890?-1937) – ксёндз касьцёла Сьв. Марыі, што находзіўся ў вёсцы Фашчэўка Мозырскага павета, быў бальшавікамі расстраляны ў 1937г. разам з 13 актывістамі царкоўнай абшчыны. Касьцёл жа ў 1967г. узарвалі.

**Стар**. 42. * **Пашкевіч** Віталій (1890?-1940) – ксёндз Магілёўскай Рыма-каталіцкай архіепархіі, Магілёўскі генеральны вікарый, бальшавікі расстралялі ў 1940г.

**Стар**. 43. * **Натальля** Арсеньнева (1902-97) – паэтка, дзеячка паваеннай эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША, аўтарка вершу-гімну "Магутны Божа". Я прысьвяціў ёй свой верш *"Голас паэткі"*, які зьмешчаны ў кнізе *"На хвалі Адраджэньня"* на стар 92.

**Стар**. 43. * **Сіповіч** Часлаў (1914-81) – першы беларускі грэкакаталіцкі біскуп XX ст., дзеяч паваеннай эміграцыі ў Італіі і Вялікабрытаніі. Пасьля вайны айцец стаў заснавальнікам і першым рэктарам Беларускай каталіцкай місіі ў Лондане, дзе браў чынны ўдзел у дзейнасьці Згуртаваньня беларусаў Вялікай Брытаніі і Ангельска-беларускага таварыства. Як Апостальскі візытатар беларусаў-католікаў абодвух абрадаў у эміграцыі ён зьдзейсьніў два падарожжы вакол сьвету, прывозячы адусюль архівы і бібліяграфічныя рэдкасьці для фондаў будучай *Лонданскай бібліятэкі імя Скарыны*, якую адкрылі ў 1971г. Узначаліў яе айцец Аляксандар Надсан. Мара Сіповіча была зьдзейсьнена. Як у памяць яго заслуг стаў надпіс на яго надмагільлі лацінкаю:“Каб усе былі заадно”. (Досьвед У.Арлова, стар. 332-333).

**Стар**. 43. * **Надсан** Аляксандар (н.1926, г.Нясьвіж) – рэлігійны дзеяч беларускай эміграцыі. У годы Вялікай Айчыннай вайны 1941-45 уваходзіў у *Саюз беларускай моладзі*. З 1944г. служыў у арміі ген. Андэрса. Пасьля сканчэньня Лонданскага ун-та ў 1953г. прайшоў курс тэалагічнага навучаньня ў Грэчаскім каледжы і Грыгарыянскім ун-це ў Рыме. З 1958 – сьвятар. Адзін з заснавальнікаў *Згуртаваньня беларусаў Вялікабрытаніі.* З 1971 – кіраўнік *Беларускай бібліятэкі імя Фр. Скарыны* ў Лондане. З 1982 – рэктар Беларускіх каталіцкіх місій у Англіі і Францыі. З 1986 – Апостальскі візітатар для беларусаў грэка-католікаў замежжа і кансультатар кангрэгацыі ўсіх цэркваў пры Ватыкане.

**Стар**. 43. * **Данілюк** Барыс (1923-2011) – царкоўны дзеяч у эміграграцыі, сакратар кансісторыі Аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў ЗША, фундатар беларускай газеты *“Навіны з роднае Сьвятыні”*.

**Стар**. 43. * **Шлях крыжовы** прадоўжылі: Леў **Гарошка** (1911-1977) – рэлігійны і грамацкі дзеяч, гісторык і дзеяч паваеннай эміграцыі; Янка **Філістовіч** (1926-53) – дзеяч паваеннай эміграцыі ў Францыі і Бельгіі, удзельнік антысавецкага збройнага Супраціву; Уладзімер **Дудзіцкі** (1911-70-я, зьнік бясследна) – пісьменьнік, дзеяч паваеннай эміграцыі, супрацоўнік службы Радыё Свабода; Леанід **Карась** (1923-54) – журналіст, супрацоўнік службы Радыё Свабода, ахвяра нераскрытага забойства; Яўхім **Кіпель** (1898-1969) – навуковец, палітык, вязень ГУЛАГу, дзеяч паваеннай эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША; Зора **Кіпель** (1927-2003) – літаратуразнаўца і дзеячка паваеннай эміграцыі ў Нямеччыне, Бельгіі і ЗША; Вітаўт **Кіпель** (н.1927) – бібліёграф, гісторык, дзеяч пава-

еннай эміграцыі ў Нямеччыне, Бельгіі і ЗША, муж Зоры Кіпель; Барыс **Кіт** (н.1910) – дзяржаўны і грамацкі дзеяч, дзеяч паваеннай эміграцыі ў ЗША і Нямеччыне, наш Праметэй, акадэмік сусьветнай Акадэміі астранаўтыкі; Янка **Сурвіла** (1925-97) – журналіст, дзеяч паваеннай эміграцыі ў Нямеччыне, Францыі, Гішпаніі й Канадзе; Івонка **Сурвіла** – палітык, старшыня Рады БНР з 1997г., жонка Янкі Сурвілы; Вінцук **Адважны** (1890-1978) – пісьменьнік і паэт, каталіцкі сьвятар; Мікалай **Лапіцкі** (1907-76) – сьвятар, пісьменьнік, прыхільнік Аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША; Аляксандар **Орса** (1896-1959) – педагог, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху ў Зах. Беларусі, дзеяч паваеннай эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША; Францішак **Кушаль** (1895-1968) – вайсковы дзеяч, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху, дзеяч паваеннай эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША, муж Н.Арсеньневай; Янка **Станкевіч** (1891-1976) – гісторык і філолаг, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху і дзеяч паваеннай эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША і др. (Ул.Арлоў "Імёны Свабоды").

**Стар**. 44. * **Станкевіч** Адам (1892-1949) – рэлігійны дзеяч, гісторык, выдавец і публіцыст, дзеяч нацыянальна-вызвольнага руху і ахвяра сталінскіх рэпрэсій. У нацыянальным жыцьці беларусаў Станкевіч выглядае сваім сярод Скарыны, Каліноўскага, Багушэвіча – тых, чым стваральным духам ён натхняўся. Паміж яго прыходам на сьвет на Віленшчыне і зьяўленьнем яшчэ адной безыменнай лагернай магілы пад сібірскім Тайшэтам зьмясьцілася столькі, што хапіла б і на дзесяцёх. На Новы 1915 год малады ксёндз Адам адправіў першую імшу ў парафіяльным касьцёле гістарычна-векапомнага Крэва. Праз тры гады выпускнік Пецярбургскай духоўнай акадэміі Станкевіч прыязджае ў Вільню ўжо вядомым публіцыстам і дзеячам Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. Адным зь першых ён пачынае карыстацца роднай моваю ў набажэнствах і публічных выступах. Выкладае рэлігію ў Віленскай беларускай гімназіі. Праходзіць на выбарах у Польскі сойм. У 1920-30-я гады без асобы Станкевіча немагчыма ўявіць нацыянальнага жыцьця усёй Заходняй Беларусі: кіраўнік Таварыства беларускай школы, заснавальнік Віленскай друкарні імя Скарыны, рэдактар і выдавец часопісу "Хрысьціянская думка"... У час нацысцкай акупацыі ён працягвае ахвярна служыць беларускай справе: адчыняе школы, аднаўляе газету "Крыніца". Старыя беларусы-віленчукі дагэтуль згадваюць Станкевічавы казаньні ў касьцёле Сьвятога Мікалая,

якія давалі магутную духоўную падтрымку ў ваеннае ліхалецьце. Пасьля вайны па Станкевіча прыходзяць людзі зь ведамства Берыі. Яны нават не ікнуцца яго абвінаваціць у супрацоўніцтве зь немцамі, ад якіх заўсёды трымаўся на дыстанцыі. Галоўнае яго злачынства – гэта вера ў будучую незалежную Беларусь. Такая віна ацэньвалася на 25 гадоў ня-волі. Але афіцэр спецслужбы ў ролі Мэфістофеля яму прапануе ўзначаліць Каталіцкую царкву на тэрыторыі БССР пры ўмове непрызнаньня Ватыкану й папы. Адмовіўшыся, айцец Адам ахвяраваў жыцьцём, але адвёў ад беларускага касьцёлу пагрозу расколу і дэскрыдытацыі. Адзін з сулагернікаў Станкевіча вынес на волю сьведчаньні пра вусьцішную для тых нечалавечых умоваў сьмерць сьвятара: айца задушылі, а твар разьбілі кувалдай, каб ніхто не пазнаў яго і ў часе таемнага пахаваньня. Духоўным помнікам Адаму Станкевічу застануцца ягоныя працы “Беларускі хрысьціянскі рух” і “Хрысьціянства і беларускі народ”.(З досьведу Ул. Арлова “Імёны Свабоды”, с. 180-181).

**Стар**. 47. * **Візантыйская духоўнасьць:** візантыйскую духоўнасьць, якую на свой шчыт узьняла РПЦ Маскоўскага патрыярхата, вядомы літаратар Ігар Тумаш назваў *”ідэалагічнай мыліцай самадзяржаўя і духоўным жандарам насельніцтва імперыі, таму… лепш быць мёртвым, чым дзіцем гэтай сумніўнай духоўнасьці”.* І на пытаньне: якая ж тады цывілізацыя візантыйская? Ён адказвае:*“Чалавека, падобна нашаму, спараджае цывілізацыя варварская. У выніку ён да поту працуе, але пладоў працы не бачыць. Ён хоча любіць, але выбудоўвае адносіны так, што пажынае нянавісьць. Ён хацеў бы сябраваць з суседзямі, але ідзе на іх з сякерай ці бутэлькай”.*(газ.”Новы Час” №29 ад 22.07.2011).

**Стар**. 47. * **Еднасьць**: маецца на ўвазе з’яднаньне католікаў і праваслаўных у грэка-каталіцкую унію, якую распачаў яшчэ ў 1397г. Ягайла, да якой у 1917 імкнуліся браты Луцкевічы і за зьдзяйсьненьне якога сёньня змагаецца праф.Адам Мальдзіс і др.

**Стар**. 47. * **Расшырыў прыход:** згодна ўказу кіраўніка нашай краіны сьвятары РПЦ маюць права праводзіць заняткі ў школах і вайсковых падразьдзяленьнях па праграме *“Асновы праваслаўнай культуры”* (“Народная Воля” за 27 ліпеня 2010). Такім вось чынам самажэрна выконваецца загад Кацярыны II, якая яшчэ ў 1795г. усклала місію зьнішчэньня нацыі *“на рускага чыноўніка, рускага настаўніка, рускага папа”.*

**Стар**. 47. * **Самажэрства** – маецца на ўвазе: з прычыны прынятага кіраўніком дзяржавы “Закона аб дзьвюхмоўі” чыноўнікі

родную мову ў сваіх адносінах скарыстоўваюць вельмі рэдка, што прыводзіць яе да вынішчэньня. Самую ганебную справу робіць РПЦ, якая богаслужэньне вядзе на рускай мове, у той час як каталіцкая царква, якая трымаецца жывой веры, вядзе службу на роднай мове. А сёньня ўлада падтрымлівае толькі праваслаўную веру. Даказанасьцю служыць факт прысваеньня званьня "Героя Беларусі" Філарэту (Кірылу Варфаламеявічу Вахрамееву), мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму, Патрыяршаму экзарху ўсяе Беларусі "за ўклад у духоўнае адраджэньне беларускага народа". Калі ж унікнуць у адносіны ўлады да другіх канфесій, напрыклад каталіцкай, уніяцкай, пратэстанцкай ці евангельскай, то становіцца зусім зразумелым, на якіх пазіцыях адраджэньня яна стаіць. На самай жа справе гэта не што іншае як адкрытае калабарацыянства, гэта – здрада нацыі.

**Стар**. 47. * **Някляеў** Уладзімер (н.1946, г.Смаргонь) – паэт, кандыдат у прэзідэнты на прэзідэнцкіх выбарах 2010, у 19887-99 – гал. рэдактар часопіса "Крыніца", з 1998 па 1999 – старшыня Саюза пісьменьнікаў Беларусі. Яго творчасьць адзначана прэміямі: Ленінскага камсамола (1979), Дзяржаўнай прэміяй Беларусі (1998), бажка мастацтва Вялеса (2011), імені Васіля Быкава "За свабоду думкі" (2011), "За особыя дасягненьні ў змаганьні за дэмакратыю і свободу" на фестывалі "Тыдня паэтаў" у Маскве (2011), імені Курта Тупольскага шведскага ПЭН-цэнтра (Стакгольм, 2011). Хочацца верыць, што не за гарамі і Нобелеўская. У сучасны час – лідэр грамацкай кампаніі ***"Гавары праўду!"***

**Стар**. 48. * **Тумаш** Ігар – кніга нашага літаратара *"Лепш быць мёртвым, чым візантыйцам"*, анонс якой ён працытаваў у выпуску №7 (59) "Літаратурная Беларусь" (культурна-асьветніцкі праект Грамацкага аб'яднаньня "Саюз беларускіх пісьменьнікаў" пад кіраўніцтвам Алеся Пашкевіча – рэдактар Барыс Сачанка – і газеты "Новы Час" – гал. рэдактар Аляксей Кароль), мяне вельмі ўсхвалявала. Выяўляецца, я не адзін трывожуся аб веры на бацькаўскай зямлі, якая зьбегам часу трапіла ў цянёты РПЦ Маскоўскага патрыярхата. І я быў вымушаны дапоўніць паэму "Пасьляслоўем", у якім зьвяртаецца ўвага на дзікасьць, якую мы бачым: як "духоўны абкам" РПЦ абражае сьвятло Хрыста і цынічна праслаўляе нейкае адзінства нашых розных па этнасу народаў ("русінаў"– г.зн. ўграфінаў ардынскага паходжаньня і "беларусаў"– г.зн. ліцьвінаў, як выхадцаў зь вянедаў) ва ўлоньні ёю жа штучна створанай "*Всяе Руси*". (Аб гэтым чытай эсэ "Карані «русізма»" на стар. 6).

**Стар**. 48. * **Рух Хрысьціянскіх Дэмакратаў:** духоўная плынь маладзёвых змагароў хрысьціянскага веравызнаньня за нацыянальны суверэнітэт, якую ўзначальвае Рада з сустаршынямі: Павал Севырынец (ідэолаг БХД), Віталь Рымашэўскі (каардынуе кампанію "Пакаяньне"), Георгій Дзьмітрук (засяроджваецца на эканамічным асьпекце), Аляксей Шэін (арганізацыйны аддзел). Узраджэньне плыні набыла вастрыню ў сувязі са стратай народам гістарычнай памяці і нацыянальнай самасьвядомасьці, якая сёньня падверглася карозіі дзякуючы здрадзе праўладных чыноўнікаў.

**Стар**. 48. * **Севярынец** Павал (н.1976) – галоўны ідэолаг і "лакаматыў" БХД, сустаршыня аргкамітэта па стварэньню партыі БХД. У змаганьні за адраджэньне нацыі з 1995г. як сябар БНФ, у 1997г.– сустаршыня Маладога Фронту, а з 1999 да 2004 – яго старшыня. 2 красавіка 1998 арыштаваны падчас апазіцыйнае маніфестацыі ў Менску і за "зрыў канцэрту, прысьвечанага аб'яднаньню Расеі і Беларусі". Заснавальнік шэрагу праектаў і арганізацый, у тым ліку міжканфэсійнае супольнасьці "Хрысьціянская ініцыятыва", абароны Курапатаў, партыі БХД… Аўтар шэрагу кніг, лаўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча. За ўдзел у падзеях "Плошча 2010г." асуджаны да трох гадоў "хіміі", якое адбывае ў вёсцы Куплін пад Пружанамі.

**Стар**. 48. * **Завальнюк** Уладыслаў (н.1958) – ксёндз Чырвонага касьцёла Сьв.Сымона і Сьв.Алены, магістр, кандыдат гістарычных навук, акадэмік Міжнароднай Акадэміі Экалогіі – сапраўдны ўзор Боскага служэньня, патрыятызму і грамадзянскай мужнасьці. Менавіта каталіцкі касьцёл у Беларусі адыгрывае зараз галоўную ролю ў захаваньні і адраджэньні роднай мовы на грунце жывой веры, якой трымаецца каталіцызм.

**Стар.** 49. **Жывая сувязь зь вернікам** – гэта жывая вера (чытай тлумачэньне слова "**Тэізм**" на стар. 95).

**Стар.** 50. * **Дзекабрысты**: расейскія дваранскія рэвалюцыянеры, якія ў сьнежні 1825г. узьнялі паўстаньне супроць самадзяржаўя і прыгону. Паўстаньне было задушана, а яго лідэры: П.Песьцель, С.Мураўёў-Апостал, М.Бястужаў-Румін, К.Рылееў, П.Кахоўскі былі павешаны, а 121 актыўных удзельнікаў саслалі ў Сібір на катаргу. Рух дзекабрыстаў быў пашыраны і на тэрыторыі нашага краю. Капітан К.Ігельстром, паручнік А.Вягелін і шляхціч М.Рукевіч заснавалі ў 1825г. таварыства *"Ваенныя сябры"*, члены якога зьдзейсьнілі выступленьне Літоўскага піянернага батальёна ў Беластоку. У лютым 1826г. узьняць паў-

станьне ў Палтаўскім палку Бабруйскага гарнізона спрабаваў прапаршчык С.Трусаў. (Досьвед М.Тарасавай, БЭ, т.6, стар.103).

**Стар**. 50. * **Бойкі з сатаной нядолі:** Маюцца на ўвазе Паўстаньні: **1830-31** (пад кіраўніцтвам ген.Д.Хлапоўскага, ген. А.Гелгуды, ген.Г.Дэмбінскага, маршалка Я.Кашыцы, капітана Э.Плятэр), **1833** (на чале з Міхалам Валовічам) і **1863-64** (пад кіраўніцтвам К.Каліноўскага і Я.Гейштара) за аднаўленьне Рэчы Паспалітай у межах 1772г. і нацыянальную незалежнасьць.

**Стар**. 51. * **Слуцкі збройны Чын:** Слуцкае паўстаньне 1920, якое адбылося ў самым канцы 1920г. за незалежнасьць Белару-сі. Асноўным чыньнікам паўстаньня было сялянства, якое было незадаволена палітыкай савецкай улады, яе харчразвёрсткай. Яно было вырашана рашэньнем з'езда Случчыны 14 лістапада ў зале дома Э.Вайніловіча (фундатара Чырвонага касьцёла ў Менску). З'езд абраў Беларускую раду Случчыны на чале з Ул-рам Пракулевічам і "вайсковую тройку" у складзе камісара Случчыны П.Жаўрыда, капітана А.Анцыповіча і паручніка Я. Мацэлі. Была сфарміравана брыгада стральцоў з двух палкоў (Слуцкая і Грозаўская) па 2 тыс жаўнераў кожная з рэзервам каля 10 тысяч. Але зброі было толькі на 2 тыс.чалавек. Баявыя дзеяньні пачаліся 27 лістапада. Гэты дзень лічыцца як Дзень Герояў, Дзень Узброеных сіл БНР. Сілы былі няроўныя і 28 сьнежня брыгада перайшла раку Лань каля вёскі Заастравечча на польскую тэрыторыю, дзе і былі раззброены і інтэрніраваны. Каля 4000 жаўнераў (400 – прыхільнікі ген. С.Булак-Балаховіча) арганізоўваліся ў партызанскія атрады, дзе вялі дзеяньні супраць савецкай улады. Лёс многіх паўстанцаў быў асуджаны на расстрэл ці закочыўся ў Сібіры. У рэзалюцыі канферэнцыі, прынятай 28 верасьня 1921г. у Празе адзначалася: *"народ, стыхійна паўстаўшы з ружжам у руках за незалежнасьць і непадзельнасьць сваёй Бацькаўшчыны, напісаў на сваім штандары: ні польскіх паноў, ні маскоўскіх камуністаў. Беларуская нацыянальна-палітычная нарада канстатуе, што гэтае паўстаньне было задушана пераважаючымі сіламі абодвух бакоў".* (Нарыс Ан. Грыцкевіча "Слуцкае паўстаньне 1920").

**Стар**. 51. * **Свабода цудам:** у 1990-х незалежнасьць Беларусі, у сувязі з распадам СССР, дасталася нам літаральна цудам, без рэвалюцыі і ўзрушэньняў. Сучасьнікі так і казалі: "звалілася зь неба". Аднак гэты цуд у далейшым паказаў ценявую старану. Народ не гатовы быў да ўзрушэньняў, таму і спакусіўся на лёгкія і цынічныя абяцанкі д'ябла, якія і прывялі краіну да жабрацкага

стану, жывучы на падачках свайго “сабрата”, які трымае ў сябе мэту, як бы праглынуць наш край ужо бязкроўна, але ўсё нахабней і цынічней пры дапамозе РПЦ, якую самажэрна падтрымлівае сучасная ўлада. Але ў гэтым і ёсьць сэнс беларускай незалежнасьці, дадзенай звыш,– у яе талерантнасьці і памяркоўнасьці, якія ўзводзяцца ўладай да нацыянальнай адметнасьці народа, звыкшага цярпець нястачу, абы не было вайны.

**Стар.** 51. * **Захапіў трон зманам:** Напярэдадні рэферэндуму 1995 (намячаўся імпічмент кіраўніку дзяржавы) у ноч на 12 красавіка 1995г. шклоўскаму “дэмакрату” А.Лукашэнку дзякуючы здрадзе партакратаў і пры падтрымцы маскоўскіх дарадцаў удалося разагнаць парламент 13 созыву, а затым падманам правесьці праз рэферэндумы 1995 і 1996 увядзеньня дзьвюхмоўя, замену сімволікі дзяржавы і новай рэдакцыі Канстытуцыі, згодна якой уся законадаўчая і выканоўчая ўлады і судовая справа сканцэнтроўвалася ў руках адной асобы. Такім чынам, 14 лістапада 1996г. быў зьдзейсьнены дзяржаўны пераварот. З кабінетаў сілай выдвараюцца кіраўнік ЦВК В.Ганчар (ён затым зьнікне), старшыня Вярхоўнага Савета РБ С.Шарэцкі (ён вымушаны затым з краіны з’ехаць) і гал. пракурор В.Капітан.

**Стар.** 51. * **Рада памяркоўная**: паколькі выбары ў Беларусі праходзяць не дэмакратычна (ў выбарчыя камісіі прадстаўнікоў ад апазіцыі не ўключаюць, галасы не лічаць), то дэпутатамі “кішэннага” парламента становяцца асобы праўладнага складу, спрэс падпарадкаваныя таму, хто іх назначыў. Наказы народа выконваюцца фармальна. Краіна коціцца ў прорву.

**Стар.** 52. * **Рымашэўскі Віталь** (нар.1975) – кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010, сустаршыня аргкамітэта па стварэньню “Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі”. У партыі ўзначальвае працу міжнароднага і адукацыйнага аддзелаў, курыруе працу маладзёвай арганізацыі Маладыя Хрысьціянскія Дэмакраты, з’яўляецца кіраўніком Менскай арганізацыі БХД.

**Стар.** 52. * **Кандыдаты**: Ул-мер Някляеў (сьмела крытыкуе ўладу і заклікае на Плошчу, каб дабіцца свабодных выбараў), Віталь Рымашэўскі (абяцае разабрацца з карупцыяй з увядзеньнем “закону Лінкольна”, паводле якога, чалавеку, што выяўляе карупцыю, належыць 25% скрадзенага), Андрэй Саньнікаў (прымусіў членаў ЦВК прыніжана і напалохана маўчаць у гонар памяці былога старшыні гэтай камісіі В.Ганчара), Дзьмітрый Ус (сьмела абрынуўся на беларускую выбарчую сістэму, параўнаўшы яе з той, якая існавала ў фашысцкай Германіі),

Мікалай Статкевіч (былы вайсковец, падпалкоўнік, сьмела выступіў супроць абразы Канстытуцыі і роднай мовы), Рыгор Кастусёў (кандыдат ад БНФ, сьмела крытыкаваў пануючы антыбеларускі рэжым і неабходнасьць яго замены), Алесь Міхалевіч (прапанаваў зьмену курсу без ломкі сістэмы), Яраслаў Раманчук (пад ціскам улады ўзьвёў паклёп на другіх кандыдатаў, якія аказаліся ў турме), Віктар Цярэшчанка (гатовіўся зьдзейсьніць пераварот толькі мадыфікацыяй рубля).

**Стар**. 53. * **Строй калоны**: ужо ў самым пачатку шэсьця калоны да Плошчы (ў 19 час. 15 хв-н, галасаваньне доўжылася да 20-00) ад штаба Някляева па вул. Калектарнай на яе раптоўна нападаюць амапаўцы "Алмаза" ў чорных масках (праз пару дзён яго начальнік М.Карпянкоў быў звольнены), а самога кандыдата зьбіваюць да непрытомнасьці, разьбіваюць гучнаўзмацняльную апаратуру, закідваюць ў аўтобус дымавыя шашкі як рэчавы доказ для "перавароту", пры гэтым усіх журналістаў з камерамі прымусілі легчы на зямлю тварам ніц, і раптоўна зьнікаюць. Ніякага сьледства аб нападзе на калону не вялося. Доказы гатовіўшагася "дзяржаўнага перавароту" на судзе рассыпаліся ў прах.

**Стар**. 53. * **Ціхары**: засланыя ў вялікай колькасьці на Плошчу арыштанты, датэрмінова выпушчаныя ўладай з турам, і работнікі спецслужб, адзетыя у цывільнае для правядзеньня правакацый. Яны і агітавалі масы ісьці да Дому ўрада, дзе іх чакалі ўжо ў поўным узбраеньні амапаўцы. Па сцэнарыю ўлады (Плошча ўжо была пазбаўлена гучнаўзмацняльнай тэхнікі) і быў справакаваны "ціхарамі" драўляным брусам і рыдлёўкай "дзяржаўны пераварот", які закончыўся зьбіцьцём народу і загонам яго ў аўтазакі (было затрымана 639 пратэстантаў).

**Стар**. 54. * **Калякін** Сяргей – старшыня партыі "Справядлівы сьвет" (пераемніца былай партыі камуністаў), які сімвалічна выступіў на прыступках памятніку свайму правадыру – Леніну. У сваёй прамове ён і абвясьціў, што *"галасы пры іх падліку не лічаць, а таму выбары трэба прызнаць фальсіфікаванымі."*

**Стар**. 54. * **Вокны біў:** газета "Наша Ніва" (ці не па гэтым прычынам улада спрабавала яе закрыць?) у №48 ад 22 сьнежня 2010г. апублікавала шэраг здымкаў, якія наглядна пацвярджаюць, як улада стварала правакацыйную карцінку па захвату Дома ўрада, каб потым паказаць народу аб "пераवароце". Карцінку БТ зьняла і паказала. І мы пабачылі, як Віталь Рымашэўскі сваімі дзеяньнямі адрынуў правакатараў ад дзьвярэй і вокан, якія паказушна білі лапатай, драўляным брусам і клункам (гэтыя сьнімкі глядзі на стар.

126-128). Фальсіфікаваны захват Дома ўрада не спрацаваў. Наадварот, ён паказаў, як улада сама сябе і скампраметавала.

**Стар**. 55. * **Зброю назапасьлі:** Тая ж газета "Наша Ніва" ў №4 ад 26 студзеня 2011 (вось дзе працуюць сапраўдныя сьледчыя па раскрыцьцьцю злачынстваў!) апублікавала матэрыялы выкрыцьця складу боепрыпасаў ў гаражы №572, які належыць супрацоўніку Службы аховы прэзідэнта, і пра што надта мусіравала БТ ў містыфікацыйным фільме "Плошча. Жалезам па шкле", у якім гараж дэманстраваўся як гараж апазіцыі.

**Стар**. 55. * "***По стеклу железом***" – пасьля прэзідэнцкіх выбараў 2010 на БТ некалькі разоў паказваўся адыёзны фільм *"Площадь. Железом по стеклу"*, дзе праўладныя структуры сфабрыкавалі пасквіль: як апазіцыя рыхтавала "дзяржаўны пераварот". Ды болшая часка кадраў сьведчыла адваротнае: як улада сваімі дзеяньнямі фабрыкавала падзеі, якія праходзілі па сцэнарыю адыёзнай асобы, пачынаючы з нападам спецназа "Алмаз" на калону Някляева. Усё стала на сваё месца пасьля выступленьня журналіста "Народнай Волі" на прэс-канферэнцыі, паведаўшаму праўду аб нападзе, і публікацыі ў "Нашай Ніве" гаража супрацоўніка Службы аховы прэзідэнта, у якім быў склад са зброяй, нібыта для "перавароту". Усьлед за прапагандысцкім фільмам БТ у сецiве з'явіўся 11-хвілінны фільм аб Плошчы *"Патрабуем праўды і свабоды!",* які цалкам абвяргае версію БТ.("Наша Ніва", №2, 2011).

**Стар**. 56. * ***"Апаганьваць турмы"*** – пры правядзеньні прэс-канферэнцыі для беларускіх СМІ 17 чэрвеня 2011г. А.Лукашэнка казаў: *"Вельмі вялікі гонар ім* (палітвязьням) *апаганьваць турмы. Там сядзяць дастойныя людзі".*

**Стар**. 56. * **Сказ такі** – у выступленьні на БТ 10 ліпеня 1996г. прэзідэнт казаў:*"Я своё государство за цивилизованным миром не поведу",* дзе сьвядома абмяжоўваецца жыцьцё народа "чаркай са шкваркай". Праз 15 гадоў 17 чэрвеня 2011г. ён пацьвердзіў сваё рэнамэ на прэс-канферэнцыі для СМІ:*"Вот как мы идём спокойно, так и пойдём. А потом – ускоримся... Больше я сказать вам просто не могу и не имею права. Не потому, что я темню. Потому, что нам надо точнее выбрать курс, или выход из болота, в которое мы попали".* ("Народная Воля", 26 жніўня 2011). Вось так: 17 год усё выбіраем курс, а спраў тут – конь яшчэ не валяўся.

**Стар**. 57. * ***"Беларуская мадэль"*:** На працягу 15 год наш люд жыў употай за чужы кошт – на сямі мільярдных датацыях у далярах, якія штогод атрымліваліся шляхам перапрадажы 200 млн.

тон бязпошліннай расейскай нафты, што складала каля 14,5% ад ВУП на той час. У той жа час у статсправаздачах рост нацыянальнага дахода паказваўся ў памеры 10-11%. Выяўляецца, што наша эканоміка не разьвівалася за ўсе гэтыя годы, а дэградзіравала, у чым мы сёньня упэўніліся. Гэта пацьвердзіў і сам наш кіраўнік: *“мы трапілі ў балота”*. Паўстае пытаньне: на чым жа трымаецца наша эканоміка? Адказ – не на развіцьці сродкаў вытворчасьці, не на інвестыцыях і інавацыях, а на датацыях і крэдытах, якіх сёньня ўжо назапашвалі за апошнія тры гады (Расея перастала пастаўляць бязпошлінную нафту) каля 32 млрд. доларaў. А куды падзяваліся астатнія 4,5% ад 14,5%-й датацыі? Можа адказаць на гэтае пытаньне гаспажа Г.Жураўкова, якая была асуджана ўмоўна за нафтавыя махінацыі і, зразумела, сам наш кіраўнік, у якога ўжо на асабовым рахунку лічыцца (па некаторым зьвесткам) каля 9 млрд. дол.(“Новы Час”, 2011), а згодна даных інтэрнэта на яго рахунку ўжо 14,5 млрд даляраў (“Наша Ніва”, №7 ад 22 лютага 2012).

**Стар**. 57. * **Масавая маўчанка:** згодна зьявіўшайся ў інтэрнэце-суполкі “Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі” ідэі правядзеньня маўклівых пратэстаў (аўтар Вячаслаў Дзіянаў, жыве ў Варшаве), з 1 чэрвеня 2011г па краіне ў згаданы час штосераду ў гарадах і пасёлках праводзіліся “Вечары маўчаньня і апладысьментаў” без выкрыкаў і заклікаў. І, як падкрэсьліваў яе сам завадатар, *“хаця падчас вулічных праменадаў і не агуваюцца лозунгі аб замене ўлады, менавіта гэта і ёсьць асноўнай ідэяй.* ***Гэта намі заўсёды агучвалася****”*. (“Новы Час”, №27, 8 ліпеня 2011). Масавыя маўчанкі і вымусілі кіраўніка дзяржавы дапоўніць “Закон аб масавых мерапрыемствах” з затрыманьнем і наказаньнем удзельнікаў акцый *“за публічнае выказваньне грамацка-палітычных настрояў або пратэсту”*.

**Стар**. 57. * **Сацыяльная сетка**:У сувязі з жорсткім паваротам дзей, завадатары суполкі “Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку” зьмясьцілі на сваёй старонцы зварот да кіраўніка дзяржавы: *“15, 22, 29 чэрвеня і 3 ліпеня агулам у 50 гарадах краіны затрымана каля 1250 чалавек. І калі вы думаеце, што зьбіцьцём, штрафамі, арыштамі вы зможаце запалохаць увесь народ, то вы памыляецеся. Бандытаў не баяцца. Бандыты самі баяцца – баяцца адказнасьці, баяцца будучыні непазбежнага суда”*. (“Наша Ніва” №25, 6.07.2011). Аб абсурднасьці пакараньняў сьведчыць факт налажэньня штрафу ў памеры 1 млн. 50тыс. руб. інваліду (без

правай рукі) К.Капліну за ўдзел у акцыі маўклівага пратэсту 3 ліпеня ў Гародне: як запісана ў міліцэйскім пратаколе – “*пляскаў у ладкі*” (“Наша Ніва” №31, 17.08.2011).

**Стар**. 57. * **У часы трываньня:** маецца на ўвазе паслушаньне і трываньне народа ў часы царскага прыгону, сталінскага ліхалецьця і брэжнеўскага застою, калі “*каланіяльны*” народ трымалі за шорамі *“жалезнай заслоны”,* каб ён не ведаў заможнага жыцьця. Не зьмянілася сітуацыя і сёньня.*“Вызначэньне Беларусі як калёніі,* – як сьцвярджае Павел Біч (газ. “Літва”, № XXV, 2009, эсэ “Сутнасьць маскоўска-рускай культуры”) – *больш дакладнае, больш ёмкае, больш выніковае, чым яе вызначэньне як апошняя дыктатура Эўропы. Яно больш дакладнае таму, што ізалявана гвалт, дыктатура, несвабода вядзе да жабрацтва. Яно больш ёмкае таму, што акупацыя і каляніяльны рэжым абавязкова спараджаюць тыранію, выключаючы Свабоду. Яно больш выніковае таму, што выцягвае на паверхню сьвядомасьці слова “раб”.* Таму *“з народам-рабом немагчыма выйграць ніякія выбары. Убачым, што сучасны эканамічны крызіс не зламае, а хутчэй, замацуе рабскую сьвядомасьць. Трэба заняцца Асьветніцтвам нашага насельніцтва і тлумачэньнем яму сутнасьці цяперашняга рэжыму як акупацыйнага. Пакуль народ гэтага не зразумее, ён не падымецца з каленяў”.* Таму: асьветніцкая дзейнасьць адраджэнцаў на сёньня – **развянчаць сутнасьць сучаснай акупацыйнай улады, якая тандэмам з прашавінісцкай РПЦ вядзе народ да яго паглынаньня рускаардынскай імперыяй у рамках ужо створанай Саюзнай дзяржавы.**

**Стар.** 66. * **Зварот** апостальскага візітатара Аляксандара Надсана з Лондана для беларусаў-католікаў 2011:“***Ханука*** (згодна Іудзейскага календара – сьвята асьвячэньня Храма Хрыста, якое адзначаецца 8-16 сьнежня як каляднае сьвята нараджэньня Хрыста)*, як і Каляды, – гэта радаснае сьвята,* ***“сьвята сьвятла”****, калі габрэі ўспамінаюць аднаўленьне ў 165г. да нараджэньня Хрыста ў Ерусаліме сьвятыні, якую зьнішчылі ворагі, пад чым панаваньнем тады апынулася Палесьціна, і якія хацелі “ашчасьлівіць” габрэяў, змусіўшы іх адмовіцца ад веры ў адзінага Бога і традыцыі бацькоў, і далучыцца да “вышэйшай” паганскай культуры іхніх заваёўнікаў. Аднак “няўдзячныя” габрэі адмовіліся ад такіх дабрадзействаў, паўсталі супроць сваіх захопнікаў і, нягледзячы на няроўныя сілы, перамаглі іх, захаваўшы непарушнай сваю веру і вернасьць традыцыям сваіх бацькоў. Стрыжнявым пунктам*

*гэтай веры было чаканьне Месіі для аднаўленьня Валадарства Божага, што і здарылася з прыйсьцем на сьвет Госпада нашага Ісуса Хрыста, нараджэньне якога мы цяпер сьвяткуем.*(У каталікаў яго прыйсьце адзначаецца 25 сьнежня).

*Такім чынам сьвята Ханукі мае прамое дачыненьне да нашых Калядных сьвятаў. Яно дае нам таксама шмат матэрыялу да роздуму аб важнасьці захаваць не толькі веру, але і вернасьць традыцыіі бацькоў, мець сьмеласьць бараніць яе і не паддацца спакусе далучыцца да "вышэйшай" чужой культуры. Вось гэтую думку хачу пакінуць да развагі вам, дарагія чытачы, у гэты радасны дзень нараджэньня Госпада Бога і Збаўцы Нашага Ісуса Хрыста".* (Зварот апублікаваны ў "Нашай Ніве" №48 ад 28 сьнежня 2011).

**Стар.** 66. **Жывая вера**: чытай тлумачэньне слова "**тэізм**" на ст.95.

**Стар. 66. Чужая вера**: Згодна досьведу акадэміка Леаніда Лыча для этнічнага ліцьвіна (беларуса – па наўмысна прынятаму наменклатурнаму погляду "зрусіфікаванай" улады) роднай верай з'яўляецца **каталіцызм**. Праваслаўная (чужая) вера нашаму народу нахабна навязана Рускай праваслаўнай царквой (чытай эсэ "**Карані русізма**" на стар.6-9), чым і тлумачацца пастаянныя войны і намкненьні шавіністычнага "русіна" паланіць, знішчыць ці замбіраваць наш народ і ператварыць яго «*в ничто, чтобы он стал истинно русским*». Таму і скарыстана ў якасьці эпіграфа да паэмы **"На ветразях веры"** (чытай паэму на стар. 23-48) яго выказваньне, што *"беларусы вернуцца да сваёй царквы, дзе пануе беларускі дух і душа злучаецца зь небам праз спрадвеку роднае слова"*. Да гэтай высновы акадэмік прыйшоў праз свой досьвед, калі працаваў у першыя годы свайго жыцьця ў органах ДПУ-НКУС. Яму я і прысьвяціў верш **"Сэнс жыцьця"** (апублікаваны ў кнізе **"На хвалі Адраджэньня"** на стар. 84). І я ўпэўнены, што загляне *"шматчаканай волі сонца"* (чытай Яна Чачота) і ў наша оконца, і прыйдзе свята на нашу вуліцу, бо як сказана (Евангельле, Ісая, 8:22): *"не заўсёды будзе змрок там, дзе цяпер ён згусьціўся!"* І зноў будзе ўсталявана ў нас адзіная вера – ўніяцкая, якая існавала на нашай зямлі згодна Брэсцкай Уніі з 1596 па 1794гг. Сёньня яна паціху аднаўляецца, хоць улада з дапамогай РПЦ (чытай тлумачэньне "**самажэрства**" на стар.115, калі адкрыта спраўджваецца яе ганебная справа – знішчэньне нацыі і яе асновы – роднай мовы) і строіць рознага роду перашкоды.

# ФАТАГРАФІІ



Напісаньне дыктоўкі 21 лют. 2011 ў рамках IV-й Агульнанацыянальнай дыктоўкі з нагоды 120-годзьдзя зь дня нараджэньня М.Багдановіча. Удзельнікі: Мікола Шаравар, Маша Буянава, Саша Зубарава, Стась Краўчэня, Юра Буянаў, Лена Пахунова, Лена Буянава, Валянціна Тупічына. (Фота Алеся Валабуева)




24 лістапада 2010г. у Менску на Плошчы прайшла многатысячная акцыя пад лозунгам "Саша, сыходзь". Арганізатарамі мітынгу сталі "Малады фронт"(лідар Зьміцер Дашкевіч). Беларуская хрысьціянская дэмакратыя і др. На прыступках Палаца прафсаюзаў выступілі Віталь Рымашэўскі, Мікола Статкевіч і Ўлад-мер Някляеў (PHOTO BYMEDIA NET "Наша Ніва", №45,2010).



6 сьнежня 2010г. на Прывакзальнай плшчы ў Менску адбыўся альтэрнатыўны народны сход, арганізаваны кампаніяй “Гавары праўду!” пад кіраўніцтвам Ула-ра Някляева. (Ён выступае перад удзельнікамі сходу з прамовай і запрашае на Плошчу 19 сьнежня).У мітынгу ўдзел узяў і лідар “Еўрапейскай Беларусі” Андрэй Саньнікаў.(“Наша Ніва”, №46, 2010




Адразу 6 кандыдатаў заклікалі выбарцаў прыйсьці на Кастрычніцкую Плошчу 19 сьнежня а 20-й гадзіне: гэта Віталь Рымашэўскі, Мікола Статкевіч, Андрэй Саньнікаў, Рыгор Кастусёў, Уладзімер Някляеў і Яраслаў Раманчук. Ніхто не верыць у выбары, але многія спадзяваліся на Плошчу. (Фота Юліі Дарашкевіч“, Наша Ніва”, №47, 2010)



Публікуемыя здымкі сьведчаць аб тым, што "штурм" Дома ўраду загадзя планаваўся. На гэтым здымку мужчына б'е вокны драўляным брусам збоку ад галоўнага ўваходу, дзе дзверы правакатары шматавалі рыдлёўкамі. Аператары спецслужбаў здымаюць яго са сьпіны ("Наша Ніва", №48).



Вось ён ужо з іншай "зброяй" – пакункам ксеракснай паперы "штурмуе" спецназаўцаў, якія заранее забарыкадзіраваліся за шклом Дома ўраду і гатовы "абараняцца". (Фота Аляксея Громава,"Наша Ніва", №48, 2010).




А тут ён дэманстратыўна тузаецца з амапаўцам, але той яму не адказвае, а другія спакойна назіраюць. (Фота Андрэя Смірнова, “Наша Ніва”, №48)




Гэты чалавек-“навушнік” (быў спецыяльна ўладай датэрмінова выпушчаны з турмы для ўдзелу ў правакацыях) перамаўляўся з арганізатарамі міфічнага “штурму” праз схаваны мікрафон. Менавіта ён разьбіваў дзьверы Дома ўраду. За ім кандыдат у прэзідэнты Віталь Рымашэўскі спрабуе спыніць правакатараў. Тут жа Віталь быў затым зьбіты амапаўцам. Перад ім (у кажушку) яшчэ адзін правакатар, якога адцягнулі ад уваходу дэманстранты. (Фота AK-BARA.LIVEJOURNAL.COM, “Наша Ніва”, №48).



А гэты чалавек прынёс рыдлёўкі да ганку Дома ўраду за лічаныя хвіліны да “штурму”. Блогер Дзяніс Карпенка пасьпеў сфатаграфаваць яго. Да Дзяніса падышоў чалавек у цывільным, які настойліва параіў яму паказаць зробленыя кадры, але той адмовіўся. (“Наша Ніва”, №48, 2010).




Ідэя такой незвычайнай формы пратэсту нарадзілася ў сацыяльных сетках. Людзі штосераду проста выходзілі на плошчы і гулялі ці пляскалі ў ладкі, а іншыя сядалі ў машыны, езьдзілі вакол плошчы і сігналілі, за што падвяргаліся штрафу. (Фота Сяргея Гудзіліна,“Наша Ніва”,№ 24, 2011)

# ЗЬМЕСТ

1. Карта Літваніі…………………………………………………… 2
2. Зварот кніжкі………………………………………………….... 5
3. Карані "русізма"…………………………………………….. 6
4. На вагах часу (паэма прысьвячаецца Янку Купалу)…………….. 10
Пралог…………………………………………………………… 10
1. Край у скрусе…………………………………………………….. 11
2. Зара павагі………………………………………………………...11
3. На ростанях………………………………………………………12
4. Узьлёт надзей……………………………………………………13
5. Хваля тэрору…………………………………………………….. 14
6. Упадак духу………………………………………………………15
7. Вал тэрору……………………………………………………….16
8. Туга па волі………………………………………………………16
9. На краі гібелі…………………………………………………… 17
10. Расправа………………………………………………………… 18
Эпілог……………………………………………………………19
5. Гуканьне вясны (верш)….…………………………………..20
6 Апостальскі наказ (верш-прысьвячэньне Васілю Супруну)…... 21
7. Пяро журналіста (верш-прысьвячэньне Міколе Малышчыцу)...22
8. На ветразях веры (паэма)…..……………………………23
1. Пралог…………………………………………………………….23
2. Паганства………………………………………………………...25
3. Язычніцтва рэформы…………………………………………27
4. Прыгоды хрышчэньня………………………………………..29
5. На скрыжалях веры………………………………………….. 31
6. Зараджэньне уніяцтва……………………………………… 33
7. Дыбкі маскаля……………………………………………….. 35
8. "Русізма" глум………………………………………………… 38
9. Фабрыкацыя спраў…………………………………………40
10. Чырвоны плягер……………………………………………42
11. Кошт жыцьця………………………………………………….44
12. Эпілог……………………………………………………………46
13. Пасьляслоўе……………………………………………………...48
9. Сьвет Хрыста (санет прысьвячаецц Ўладыславу Завальнюку)...49
10. Душы парываньне (трыялет Павалу Севярынцу).................. 49
11. Дух дзекабрызма (паэма)……………………………………....50
Пралог……………………………………………………………50
1. Выбарчыя выдаткі……………………………………………51
2. Працістаяньне…………………………………………………...52

3. Ратацыя “штурму”……………………………………………………53
4. Разгон дэманстрантаў…………………………………………………54
5. Дзікае судзілішча……………………………………………………...55
6. Рэцыдывы змовы……………………………………………………...56
Эпілог………………………………………………………………….. 57
12. Свабода і суніцы (верш-прысьвячэньне Ул.Някляеву)……...... 58
13. Справы Саюза (песьня БНП)……..………………………………59
14. Балада пра жыцьцё………………………………………………60
15. Правы сяброў (песьня БНП)……………………….……...62
16. Дух рамантызму (балада, прысьвечаная А.Саньнікаву)………...63
17. Дух надзей (трыялет змагарам Плошчы 2010)……………………64
18. Зратуем Айчыну (трыялет)……………………………….. 64
19. Агонь дракона (верш прысьвячаецца Валенціне Тупічынай)…..65
20. Сьвятло Ханукі (Каляднае сьвята нараджэньня Хрыста)……….66
21. Час адплаты прыйдзе (нататка ў Народнай Волі”)……………..67
22. З пакаленьня ў пакаленьне (нататка ў “Нашым Слове”)…….... 68
23. Праўда – ў кожнага, а Беларусь – адна (нататка ў “Кур’еры”)..69
24. Безразважны гандаль (нататка ў “Народнай Волі”)……………. 71
25. Зварот да міністра інфармацыі РБ (публ. у “Народнай Волі”)……72
26. Не магу маўчаць (ліст у “Народную Волю”)……………………73
27. Не скажайце рэчаіснасьць (публікацыя ў “Народнай Волі”)… 75
28. Як улада рабуе народ (нататка ў “Народную Волю”)…………. 76
29. Які ж патрэбен дыялог? (нататка ў Народнай Волі”)…………...77
30. Толькі байкот (публікацыя ў “Народнай Волі”)……………….78
31. Не! Нам ТАК нІ ТРЭБА…………………………………..... 79
32. У атмасферы страху………………………………………………83
33. Расправа (навела)…………………………………………..…...85
34. Як “пятая калона” дыктатуры падшывае кабыле хвост
(публікацыя ў “Народнай Волі”)………………………………..89
35. Каму і якім бачыцца сьвет у ружовых акулярах…………..92
36. Зратуем Айчыну (выступленьне на 7-й Асамблеі)…………….96
37. Камэнтарыі……………………………………………………………99
38. Фатаграфіі…………………………………………………….. 134
39. Зьмест………………………………………………………………. 139
40. Франтыспіс……………………………………………………….. 141
41. Пашпарт выданьня……………………………………………. 142

## МІКОЛА МІЛАШ

Нарадзіўся 26 сьнежня 1936г. ў вёсцы Домантавічы на Капыльшчыне ў сямьі простага селяніна. Бацька – Шараваp Лазар Макаравіч (1901-1939) быў, відаць, на той час адукаваным селянінам, бо ў 1929г. выбіраўся старшынёй арганізаванага калгаса "Чырвоны дырыжабль". У верасьні 1939г. прызваўся з пасады бухгалтара ў рады Чырвонай Арміі, якая "вызваляла" Заходнюю Беларусь, а затым быў адпраўлены на фінскі фронт, дзе і загінуў у дзень нараджэньня паэта. Прозьвішча, мабыць, паходзіць ад назвы натуральнай павіннасьці /шарваркі/ сялян па будаўніцтве замкаў, мастоў, плацін, млыноў і дарог, якая існавала ў ВКЛ, Рэчы Паспалітай і Расейскай імперыі, і да якой былі прывязаны ягог продкі. Маці Натальля Хілімонаўна (1908-1991) з роду Кіені адышла ў другі сьвет таксама ў дзень нараджэньня паэта.

Да літаратурнай плыні далучыўся яшчэ ў гады навучаньня ў тэхнічных установах (Мінскі лесатэхнікум закончыў з адзнакай, а лесатэхнічную Акадэмію ў Ленінградзе – экстэрнам за 3 гады). Вершы пісаў па-руску. На роднай мове стаў пісаць, калі пераканаўся ў яе патрыятычнасьці і зачараванасьці. Менавіта такой бачыць аўтар спадчыну сваёй пакутнай Айчыны, гісторыю якой крэмзалі, нішчылі, тапталі і так цемрашалы яе сфальсіфікавалі, што народ нават забыў назву не толькі сваёй нацыі, але і назву сваёй Айчыны. Размаўляць на роднай мове ў сваёй большасьці народ грэбуе і не жадае, бо для гэтага ўладай не ствараюцца умовы. Аўтар справядлівы ў сваім выказваньні:

***"Калісьці нас ліцьвінам звалі.***
***Тутэйшым – нас празваў "русін".***
***Вой, "беларусам" мы ўжо сталі.***
***А ў хуткім часе? – Будзем кім?"***

Кніга **"На вагах часу"**– ўжо трэцяе выданьне аўтара, у якім свабодна выказваюцца ў стылі Васіля Быкава погляды да сучаснага становішча нашага народа, які стагодзьдзямі ў віры маны заганяўся бізуном насільля ў ціну здрады і балота абывацельшчыны і які (ў каторы раз!) зноў паўстае зь яго, нібы фенікс з попелу, дзеля прадаўжэньня роду сваіх продкаў. Лёс ліцьвінскай нацыі з назвай "беларус" і яе сімвалаў вельмі хвалюе сапраўднага спадкаемца фарміраваньня нацыянальнай самасьвядомасьці.

Каб зьнітаваць стагодзьдзяў плыні Адраджэньня аўтар усьвядомлена скарыстоўвае ў сваіх творах у якасьці эпіграфаў і выслоўяў выказваньні адначасова некалькіх славутых дзеячаў розных эпох, зробленых імі ў сваёй пагодзе часу, каб перанесьці чытача ў думках на выспу абставін, зь якіх ён мог бы ацаніць сучаснае становішча народа, пераканацца ў фальшывасьці свайго існаваньня пад крылом РПЦ і прылучыцца да ўдзелу абуджэньня народных мас. Гэта па-сапраўднаму вельмі адказна і патрыятычна

Па аб'ёму творы невялікія, але поўныя глыбокага зьместу і вялікіх адрэзкаў з гісторыі спадчыны. Нават у адну страфу аўтар уціскае шмат інфармацыі. Таму ў яго паэзіі зашмат герменеўтыкі(тлумачэньне тэкстаў) і інвектыву (рэзкага выкрываньня). Ад гэтага яго паэзія толькі выйграе.

Ёсьць меркаваньні, што кніга займее попыт і прынясе карысьць у справе адраджэньня Духу нацыі і яе гістарычнай памяці.

Мікола **Малышчыц**

*Літаратурна-мастацкае выданьне*

**Мілаш** Мікола

**“На вагах часу”**
*Паэтычныя творы, гістарычныя эсэ.*
Выданьне 1-е.

Рэдактар: М.Даман
Вёрстка: М.Тоўскі
Карэктар: М Ваяр

Падпісана да друку 24.02.2012г. Фармат 84x100 1/32
Папера афсетная. Гарнітура Тімез.
Ум. друк. 6,70 арк. Ул.-выд. 5,45 арк.
Наклад 100 паас. Замова № 29

Выдавец**: ГА фонда ім. Фр Скарыны клуба “Посах”**
Адрас: г. Смаленск, вул. Сьвярдлова, 24

Надрукавана ў друкарні ТДА “**Новы сьвет**”
з арыгінал-макета заказчыка.
Адрас: г.Смаленск, вул. Смалянінава, д.1.